П. П. Жаўняровіч

# Асновы рэдагавання тэкстаў службовай дакументацыі

*Дапушчана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у якасці вучэбнага дапаможніка для навучэнцаў устаноў, якія забяспечваюць атрыманне прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі, па вучэбнай спецыяльнасці «Дакументазнаўства, інфармацыйнае і арганізацыйнае абслугоўванне»*

Мінск
«Беларусь»
2006

УДК 005.92(075.32)
ББК 65.050.2я722
Ж 39

*Рэцэнзенты:* цыклавая камісія філалагічных дысцыплін Віцебскага дзяржаўнага прафесіянальна-тэхнічнага каледжа; *Л. І. Пятрова*, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры рэдакцыйна-выдавецкіх тэхналогій Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта

**Жаўняровіч, П.П.**
Ж39 Асновы рэдагавання тэкстаў службовай дакументацыі: вучэб. дапам. для навучэнцаў праф.-тэхн. навуч. устаноў / П.П.Жаўняровіч. — Мінск : Беларусь, 2006. — 174 с.

ISBN 985-01-0659-X.

Змешчаны тэарэтычны і практычны матэрыял па асноўных аспектах рэдаіавання тэкстаў службовай дакументацыі. Многія агульнапрынятыя палажэнні адаптаваны да беларускай мовы і ілюстраваны ўласнымі прыкладамі, накіраваны на выпрацоўку навыкаў праўкі тэкстаў.

Адрасавана навучэнцам устаноў, якія забяспечваюць атрыманне прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі (кваліфікацыі «сакратар», «сакратар-рэферэнт»). Выкладзены ў дапаможніку матэрыял будзе карысны адміністрацыйным работнікам, выдаўцам, настаўнікам, студэнтам, усім, хто цікавіцца пытаннямі рэдагавання беларускамоўных тэкстаў.

**УДК 005.92(075.32)**
**ББК 65.050.2я722**

ISBN 985-01-0659-X

## *ПРАДМОВА*

Неабходнасць вучэбнага дапаможніка прадыктавана прафесійнай патрэбай сакратара працаваць з тэкстамі розных відаў афіцыйна-справавых дакументаў на беларускай і рускай мовах. Тэарэтычнай асновай прадмета з'яўляюцца веды, атрыманыя за курс базавай (сярэдняй) школы па беларускай мове. «Асновы рэдагавання тэкстаў службовай дакументацыі» маюць непасрэдную сувязь з такімі прафесійна значнымі для сакратара курсамі, як «Асновы рэдагавання на рускай мове», «Асновы справаводства», «Машынапіс», «Апрацоўка інфармацыі на персанальным камп'ютэры» і інш.

Дапаможнік складаецца з шасці раздзелаў, у якіх разглядаюцца разнастайныя аспекты рэдагавання, прыводзяцца найбольш пашыраныя выпадкі праўкі слоў, словазлучэнняў, сказаў і тэкстаў у час працы са службовай дакументацыяй.

Ва ўводзінах тлумачацца асноўныя паняцці, якімі карыстаюцца пры вывучэнні курса, падаецца абгрунтаванне неабходнасці валодання нормамі літаратурнай мовы, канцэнтруецца ўвага на стандартызацыі і трафарэтнасці тэксту службовага дакумента.

У першым раздзеле тэкст разглядаецца як цэласная сістэма ва ўзаемасувязі асобных яго частак. З'яўляецца найбольш важным раздзелам пры вывучэнні асноў рэдагавання і становіцца своеасаблівай базай для далейшай працы, бо ў ім сканцэнтраваны пытанні відаў і тэхнікі праўкі, аналізу фактычнага матэрыялу, захавання асноўных законаў логікі.

У другім раздзеле разглядаецца адпаведнасць элементаў тэксту арфаграфічным нормам літаратурнай мовы. Уключаны ў раздзел матэрыял засяроджвае ўвагу на найбольш цяжкіх пытаннях арфаграфіі і на некаторых не вырашаных да цяперашняга часу праблемах правапісу беларускай мовы, з якімі можа сутыкнуцца сакратар.

Трэці раздзел прысвечаны асновам рэдагавання на лексічным узроўні: тлумачацца памылкі на неадпаведнасць значэння выкарыстанага слова або фразеалагізма зафіксаванаму ў слоўніках значэнню, падаюцца прыклады праўкі неапраўдана ўжытых стылістычна афарбаваных слоў.

У чацвёртым раздзеле ўвага сканцэнтравана на марфалагічных нормах, якія фармулююць асаблівасці ўжывання розных часцін мовы з боку граматыкі і стылістыкі. Падаюцца тыповыя памылкі ў выкарыстанні словаформаў назоўнікаў, прыметнікаў, лічэбнікаў, займеннікаў, дзеясловаў і службовых часцін мовы.

У пятым раздзеле разглядаюцца пытанні правільнасці пабудовы словазлучэнняў і сказаў у адпаведнасці з сінтаксічнымі нормамі. Прыводзяцца прыклады тыповых для беларускай мовы сінтаксічных канструкцый, разглядаюцца магчымасці сінтаксічнай сінанімікі.

Шосты раздзел паказвае на аднолькавасць статуса беларускай і рускай моў і прадугледжвае знаёмства з тэорыяй і практыкай перакладу тэкстаў службовых дакументаў з адной мовы на другую. Матэрыял гэтага раздзела мае тэарэтычна-прыкладны характар і накіраваны на выпрацоўку практычных навыкаў у час перакладу тэкстаў службовых дакументаў з рускай мовы на беларускую.

Да вывучаных тэм уводзін і кожнага раздзела прапанаваны пытанні для самакантролю, якія дапамагаюць сістэматызаваць набытыя веды і ўсвядоміць іх неабходнасць у прафесійнай дзейнасці. З мэтай паглыблення ведаў па асобных аб'ёмных тэмах курса і творчага падыходу да рэдагавання пададзены магчымыя тэмы рэфератаў. Кожны раздзел мае практычныя заданні, выкананне якіх дазваляе прымяніць атрыманыя тэарэтычныя веды на практыцы, выпрацаваць навыкі выпраўлення памылак, аналізу тэкстаў, адбору правільных слоў, формаў слова і словазлучэнняў.

Выкарыстаныя ў дапаможніку значэнні слоў браліся з дэфініцый наступнага выдання: Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / пад. рэд. М. Р. Судніка, М. Н. Крыўко. — Мінск, 1996.

Неабходна помніць, што рэдагаванне або пераклад тэксту — творчы працэс, які дапускае магчымасць некаторай варыянтнасці выпраўленага матэрыялу. Але пры любых умовах адрэдагаваны тэкст павінен адпавядаць прынятым нормам беларускай літаратурнай мовы, што асабліва важна для тэкстаў афіцыйна-справавога стылю.

# УВОДЗІНЫ

**Рэдагаванне, прадмет і задачы.** *Рэдагаванне* (ад лац. redactus — прыведзены ў парадак) — гэта аналіз тэксту, яго праверка, выпраўленне і літаратурная апрацоўка, паляпшэнне стылю выкладання.

У працэсе рэдагавання выяўляецца адпаведнасць тэксту разнастайным патрабаванням, якія датычацца моўнага і фактычнага матэрыялу, размешчанага ў службовым дакуменце; пры неадпаведнасці гэтага матэрыялу прынятым патрабаванням праводзіцца карэкціроўка і змяненне тэксту. Тэксты службовых дакументаў, з якімі працуе сакратар, у абавязковым парадку рэдагуюцца самімі складальнікамі ў час машынапіснага або камп'ютэрнага афармлення.

Працэс рэдагавання — творчая праца, якая прадугледжвае грунтоўнае знаёмства са сферай дзейнасці прадпрыемства, установы або арганізацыі, валоданне нормамі беларускай літаратурнай мовы, тэхнікай праўкі. Маўленчая кампетэнтнасць сакратара выяўляецца ў створаных ім тэкстах службовых дакументаў і ў апошні час выступае як частка іміджу фірмы, яе своеасаблівае маўленчае «люстэрка».

**Тэкст службовага дакумента**. Сакратар у асноўным працуе з тэкстамі службовых дакументаў. Само паняцце тэксту мае шырокае тлумачэнне, па-рознаму інтэрпрэтуецца многімі даследчыкамі. У дапаможніку тэкст разглядаецца як частка службовага дакумента, у якой упарадкаваная паслядоўнасць моўных адзінак (слоў, словазлучэнняў, сказаў) утрымлівае ў сабе пэўны змест і служыць для інфармавання і рэгулявання адміністрацыйна-ведамасных адносін. Такім чынам, тэкст службовага дакумента адмяжоўваецца ад іншых рэквізітаў (разнастайныя індэксы, даты, загалоўкі, подпісы і інш.), маючы пры гэтым тэматычную і лагічную сувязь з імі.

Вылучаюць некалькі відаў тэкстаў службовых дакументаў:

1. *Лінейны запіс* звязнага маўлення. Такі тэкст складаецца з паслядоўнасці самастойных сказаў, аб'яднаных тэматычна і сінтаксічна ў адзінае цэлае, і адпавядае традыцыі афіцыйна-справавой перапіскі.

2. *Трафарэт* — лінейны запіс з прабеламі, якія запаўняюцца пераменнай інфармацыяй (гл. прыклад).

Даведка №     Выдадзена навучэнцу(ы)     курса

Трафарэт набывае выгляд тэксту толькі з уключанымі фактычнымі звесткамі, якія могуць вар'іравацца ў залежнасці ад віду трафарэта.

3. *Анкета* — гэта пералік загадзя падрыхтаваных пытанняў. Яе адрозненне ад трафарэта ў тым, што пераменная інфармацыя звязана сэнсава з пытаннем і з'яўляецца асобным сказам. Тэкст анкеты размяшчаецца вертыкальна (гл. прыклад).

Прозвішча_______________

Імя ____________________

Імя па бацьку ____________

Год нараджэння__________

4. *Табліца* — пералік лічбавых або якіх-небудзь іншых звестак, размешчаных у вызначаным парадку па графах вертыкальнай і гарызантальнай плоскасцей (гл. табл. 1).

*Табліца 1*

**Становішча камандаў пасля пяці праведзеных гульняў**

| Каманда | Месца | Выйгрышы | Нічые | Пройгрышы | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Тарпеда (Жодзіна) | 1 | 4 | 0 | 1 | 10-3 | 12 |
| Днепр (Трансмаш) | 2 | 3 | 1 | 1 | 7-5 | 10 |
| Нёман | 3 | 3 | 0 | 2 | 4-4 | 9 |
| Шахцёр | 4 | 2 | 3 | 0 | 8-3 | 9 |
| БАТЭ | 5 | 2 | 3 | 0 | 8-4 | 9 |

У адным дакуменце дапускаецца сумяшчаць тэксты розных відаў. Часцей за ўсё сустракаюцца тэксты з лінейным запісам і табліцай.

Важнае значэнне для працы сакратара мае уніфікацыя тэкстаў службовых дакументаў, якая ажыццяўляецца на падставе стандартаў Беларусі (СТБ) і іншых інструкцыйных матэрыялаў. Альбомы формаў дакументаў выдаюцца ўпаўнаважанымі на гэта ўстановамі, у прыватнасці Дзяржаўным камітэтам па архівах і справаводстве пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Стылістыка і рэдагаванне.** Стылістыка як раздзел мовазнаўства займаецца даследаваннем ужывання моўных адзінак з пункту гледжання іх адпаведнасці зместу і мэце выказвання. Маючы некалькі адгалінаванняў, стылістыка выпрацоўвае і рэалізуе стылістычныя нормы ўжывання моўных сродкаў ва ўсіх функцыянальных стылях. Афіцыйна-справавы стыль якраз і рэалізуецца ў тэкстах службовай дакументацыі, а выяўленне захаванасці нормаў гэтага стылю таксама з'яўляецца часткай аналізу і праверкі тэксту. Такім чынам, практычная стылістыка збліжаецца з рэдагаваннем у тым сэнсе, што з'яўляецца падставай працэсу якаснага рэдагавання моўнага матэрыялу. Безумоўна, рэдагаванне — паняцце больш шырокае, чым стылістыка, яно ахоплівае ўсе бакі аналізу, праверкі і змянення тэксту службовай дакументацыі.

**Узровень рэдагавання.** Узровень рэдагавання суадносіцца з праверкай і праўкай тэксту ў залежнасці ад прынятай шкалы ацэнкі моўнага матэрыялу. Паняцце ўзроўню прымаецца як умоўнае для больш якаснага засваення прадмета рэдагавання і набыцця неабходных уменняў і навыкаў. У дапаможніку вылучаюцца наступныя ўзроўні рэдагавання:

— рэдагаванне на арфаграфічным узроўні — праверка і праўка тэксту з мэтай выяўлення і выпраўлення арфаграфічных памылак;

— рэдагаванне на лексічным узроўні — праверка і праўка тэксту з мэтай выяўлення і выпраўлення памылак у дакладнасці словаўжывання (лексікі і фразеалогіі);

— рэдагаванне на марфалагічным узроўні — праверка і праўка тэксту з мэтай выяўлення і выпраўлення памылак ва ўжыванні часцін мовы (словаформаў);

— рэдагаванне на сінтаксічным узроўні — праверка і праўка тэксту з мэтай выяўлення і выпраўлення памылак у пабудове словазлучэнняў і сказаў.

**Моўныя нормы**. Мова — сродак зносін паміж людзьмі. Яна можа найбольш дзейсна выконваць свае функцыі толькі тады, калі існуюць агульныя для ўсіх яе носьбітаў «няпісаныя» і «пісаныя» правілы — нормы. Моўныя нормы існуюць аб'ектыўна і рэгулююць розныя бакі функцыянавання мовы. Зафіксаваныя ў граматыках, даведніках і слоўніках, моўныя нормы становяцца своеасаблівымі «моўнымі» законамі, абавязковымі для ўсіх карыстальнікаў мовы, асабліва ў афіцыйных зносінах.

Вылучаюць нормы, уласцівыя толькі пісьмоваму маўленню, — арфаграфічныя (правапіс) і пунктуацыйныя (знакі прыпынку), і нормы, якія выяўляюцца ў вусным і пісьмовым маўленні, — арфаэпічныя (вымаўленне), акцэнталагічныя (націск), словаўтваральныя, марфалагічныя, сінтаксічныя, лексікасемантычныя, фразеалагічныя, стылістычныя і інш.

Для сакратара валоданне нормамі літаратурнай мовы — абавязковая падстава якаснай працы з тэкстам службовага дакумента і яго рэдагавання. Таму ўяўляецца вельмі важным мець на рабочым месцы разнастайны даведачны матэрыял па розных пытаннях моўнага ўнармавання, у першую чаргу слоўнікі розных тыпаў.

**Пытанні для самакантролю**

1. Што такое рэдагаванне і якія задачы яно выконвае?

2. Як вы разумееце паняцце «тэксту службовага дакумента»? Чым адрозніваюцца тэксты розных відаў?

3. У чым заключаецца сувязь паміж стылістыкай і рэдагаваннем?

4. Якая прычына вылучэння ўзроўняў рэдагавання? Адзначце важнасць ведання літаратурных нормаў для прафесійнай дзейнасці сакратара.

4. З дапамогай падручніка беларускай мовы ахарактарызуйце арфаэпічныя і акцэнталагічныя нормы. Чаму, на ваш погляд, гэтыя нормы характэрны не толькі для вуснай, але і для пісьмовай разнавіднасці мовы?

## Раздзел 1

# АГУЛЬНЫЯ ПЫТАННІ РЭДАГАВАННЯ ТЭКСТУ СЛУЖБОВАГА ДАКУМЕНТА

## 1.1. ЭТАПЫ РАБОТЫ НАД ТЭКСТАМ ДАКУМЕНТА

Рэдагаванне службовага дакумента дзеліцца на тры этапы і пачынаецца з яго прачытання. Пры гэтым пажадана аналізаваць кампазіцыю тэксту. У сувязі з тым, што службовы дакумент мае пераважна невялікі аб'ём, гэта праца зводзіцца да аналізу абзацнага чляНення тэксту. У час першага чытання пажадана рабіць алоўкавыя паметкі на палях або запісваць заўважаныя недахопы на асобным лісце.

На наступным этапе важна праверыць фактычны матэрыял: уключаныя ў дакумент звесткі, уласныя назвы (геаграфічныя назвы, прозвішчы і ініцыялы, назвы прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і інш.), спасылкі на іншыя дакументы або тэксты, бібліяграфічныя даныя. Істотныя заўвагі неабходна ўзгадніць з аўтарам. Добразычлівасць і прафесіяналізм у час праўкі выключае канфліктныя сітуацыі і неслужбовыя адносіны паміж сакратаром і аўтарам.

Трэці этап працы — праўка тэксту дакумента. Сакрактар рэдагуе тэкст, актыўна выкарыстоўваючы папярэднія заўвагі і накіды. На гэтым этапе праводзіцца таксама моўная, стылістычная праўка.

Усе змены ў тэксце ўносяцца чарнілам ці пастай чорнага, фіялетавага або сіняга колеру. Заўвагі пішуцца акуратна і разборліва; скарачэнне слоў недапушчальнае.

## 1.2. ВІДЫ ПРАЎКІ

Пры рэдагаванні выкарыстоўваюцца наступныя віды праўкі: праўка-вычытка, праўка-скарачэнне, праўка-пераробка і праўка-апрацоўка.

**Праўка-вычытка**. Заключаецца ў параўнанні надрукаванага або набранага на камп'ютэры тэксту з дакладным арыгіналам. Самая вялікая ўвага ў час праўкі-вычыткі надаецца візуальным (бачным на вока) памылкам: падмене літар з падобным напісаннем ці літар, размешчаных побач на клавіятуры; пе- растаноўцы літар; пропуску літар і складоў; лішнім літарам; адсутнасці прабелаў і інш.

Пры праўцы-вычытцы ўсе змены робяцца непасрэдна ў тэксце чарнілам ці пастай. Пасля гэтага выпраўлены тэкст передрукоўваецца і праводзіцца новая праўка-вычытка.

**Праўка-скарачэнне**. Выкарыстоўваецца ў тых выпадках, калі тэкст дакумента мае такія недахопы, як расцягнутасць, паўторы, абцяжаранасць аднатыпнымі фактамі і інш. Гэты від праўкі прыдатны і тады, калі тэкст мае строга вызначаны аб'ём, што якраз і з'яўляецца адным з патрабаванняў да службовага дакумента.

Праўка-скарачэнне патрабуе больш сур'ёзнага ўмяшальніцтва ў тэкст. Трэба імкнуцца да выбару эканомных і дакладных фармулёвак, скарачаць шматслоўе, недарэчную апісальнасць, замяняць пры неабходнасці складаныя сінтаксічныя канструкцыі больш простымі, адмаўляцца ад падрабязнага пералічэння, пабочных слоў і выразаў і да т. п. Пры гэтым важна сачыць, каб не былі парушаны кампазіцыя і звязнасць выкладу матэрыялу.

**Праўка-перапрацоўка**. Зводзіцца да стварэння новага варыянта тэксту на падставе сабранага аўтарам матэрыялу, якому трэба надаць літаратурную форму, абапіраючыся на паведамленыя факты або падзеі. Гэты від праўкі выкарыстоўваецца ў тых выпадках, калі аўтар дрэнна валодае літаратурнай мовай, калі няма адпаведнасці паміж відам дакумента і яго зместам. Сакратар як памочнік кіраўніка павінен у такіх выпадках дапамагаць падначаленым, праводзіць праўку-перапрацоўку, каб дакумент адпавядаў патрабаванням да канкрэтнага віду дакумента.

Праўка-перапрацоўка мае вялікае значэнне ў час працы над перакладзеным з іншай мовы тэкстам; асаблівая ўвага пры гэтым надаецца стылістычнаму рэдагаванню, бо перакладчык можа не ведаць усіх асаблівасцей няроднай яму мовы.

**Праўка-апрацоўка**. З'яўляецца комплексным, самым распаўсюджаным відам праўкі. Праводзячы праўку-апрацоўку, сакратар павінен унесці ў тэкст самыя розныя змяненні, у т. л. скарачэнне, дапаўненне, удасканаленне кампазіцыі. У працэсе гэтага віду праўкі ліквідуюцца фактычныя памылкі, хібы ў выбары моўных сродкаў, недахопы стылю, правяраецца адпаведнасць афармлення дакумента вызначаным патрабаванням. Усе істотныя змены неабходна ўзгадняць з аўтарам дакумента.

## 1.3. ТЭХНІКА ПРАЎКІ

Сакратар павінен свабодна валодаць сістэмай знакаў праўкі (карэктурных знакаў) і карыстацца імі ў выпадку неабходнасці, бо яны ставяцца на месцы выпраўлення і ўказваюць на яго характар. Карэктурныя знакі ўносяцца ў тэкст чарнілам ці пастай, а тлумачэнні робяцца на палях. Вялікія ўстаўкі ў тэкст размяшчаюцца на асобных лістах, нумаруюцца, а нумар устаўкі паўтараецца ў тэксце.
Карэктурныя знакі зацверджаны стандартам, таму іх правільнасць і дакладнасць абавязковыя для рэдактарскай працы. Асноўныя карэктурныя знакі прыведзены ў табл. 2.

## 1.4. АНАЛІЗ ФАКТЫЧНАГА МАТЭРЫЯЛУ

Сакратар павінен валодаць навыкамі аналізу і ацэнкі фактычнага матэрыялу, уключанага ў тэкст дакумента. Паводле слоў спецыялістаў, тэрмін «фактычны матэрыял» ахоплівае ўсе апорныя для тэксту элементы — паняцці і прадметныя адносіны.

Табліца 2

**Асноўныя карэктурныя знакі**[1]

| Карэктурны знак | Прыклады прымянення | Прызначэнне знака |
|---|---|---|
| \| ⌐ ¬ | спецыальны (я), канъюнктура (ь) | Замяніць адну літару іншай |
| ⊢⊣ | павялічыўся асабісты (ов) склад | Замяніць частку слова, слова або некалькі слоў |
| √ √ √ | дацьльготы (і); ведацьправы (свае) | Уставіць прапушчаную літару, слова ці некалькі слоў |
| B̿ B | сельскі дом культуры; многія Мінскія школы | Замяніць вялікую літару малой і наадварот |

[1] На падставе ГОСТ 7. 62— 90 «Знаки для разметки оригиналов и исправления корректурных и пробных оттисков. Общие требования».

| | | |
|---|---|---|
| ⊠ | Нягледзячы на неаднаразовыя патрабаванні, не прыняты меры па навядзенні парадку на складзе... | Ліквідаваць тэкст, размешчаны на двух ці некалькіх радках |
| | меньшы, праяздны | Выдаліць лішнюю літару |
| | пачаць у 8 гадзін раніцы не... у дальнейшым | Выдаліць частку слова, слова або некалькі слоў |
| | такога механзіму загаду падпісанага | Памяняць месцамі суседнія літары або словы |
| 2 1 | толькі 3 сустрэчы 2 асабістай 1 пасля дамовіліся | Памяняць паслядоўнасць слоў |
| | Новыя перасячэння мяжы звязаны з уступленнем суседзяў правілы . | Пераставіць слова або некалькі слоў з аднаго радка ў іншы |

*Працяг табл. 2*

| | | |
|---|---|---|
| | Па стану на 10 лістапада ўзарана толькі... | Зрушыць тэкст да ўказанай мяжы |
| | Вывучыць на памяць | Зрабіць прабел паміж словамі |
| | гэта так сама дапаможа | Ліквідаваць прабел паміж словамі |
| | Неабходна адзначыць, што такая сітуацыя назіраецца не толькі ў гэтай вобласці. | Павялічыць або паменшыць інтэрвал паміж радкамі |
| Z | Z Далейшая эксплуатацыя фермы прывядзе | Зрабіць абзац |
| | ...Склалася такая сітуацыя. Далейшая эксплуатацыя фермы прывядзе... | Набраць без абзаца |

*Заканчэнне табл. 2*

| | | |
|---|---|---|
| ℤ ℤ | ℤ Правілы карыстання ℤ | Зрабіць загалоўкам |
| — — — — | у такой складанай сітуацыі | Зрабіць разрадку слова (слоў) |
| ◡◡◡◡◡ | у с к л а д а н а й сітуацыі | Ліквідаваць разрадку |
| . . . . . . . . . . | Новыя персанальныя камп'ютэры | Адмяніць зробленую праўку |

## 1.4.1. Аналіз фактаў, іх праверка

Пры рэдагаванні неабходна разумець, што факты з'яўляюцца асновай кожнага службовага дакумента. Рыхтуючы або рэдагуючы яго, важна засяродзіцца на аналізе выкладзеных у дакуменце фактаў. Фактычны матэрыял павінен быць дакладным. Усе ініцыялы і прозвішчы пры неабходнасці правяраюцца ў аддзеле кадраў або супастаўляюцца з запісамі ў асабовых справах супрацоўнікаў; ініцыялы і прозвішчы работнікаў іншых арганізацый павінны быць удакладнены ў аўтара дакумента або самастойна (напрыклад, шляхам звароту да ўваходнай дакументацыі або тэлефанавання ў прыёмную арганізацыі, у якую дасылаецца дакумент). Падобным чынам правяраюцца назвы структурных падраздзяленняў сваёй арганізацыі, афіцыйныя назвы іншых прадпрыемстваў і ўстаноў.

Важнае значэнне ў тэксце дакумента мае лічбавы матэрыял. Ён можа правярацца і ў час праўкі-вычыткі, калі заўважаюцца памылкі ў датах або ў прыведзеных прыкладах. Часцей жа сакратару даводзіцца кансультавацца адносна лічбаў, звязаных з фінансавымі аперацыямі: тут недакладнасць пагражае выдаткамі і для аўтара дакумента, і для прадпрыемства ў цэлым.

Пры аналізе фактычнага матэрыялу ўдакладняюцца спасылкі на іншыя дакументы або на чые-небудзь выказванні, правяраюцца зноскі і бібліяграфія.

Фактычны матэрыял павінен быць дастатковым для вырашэння таго ці іншага пытання. Паўната звестак, улік усіх

фактараў маюць пераканаўчае значэнне ў час вынясення рашэння па канкрэтных праблемах дзейнасці суб'ектаў гаспадарання розных формаў уласнасці. Пры ўзнікненні спрэчак якраз фактычны матэрыял, уключаны ў дакумент, можа стаць тым аргументам, які вызначыць перавагу аднаго з бакоў.

Дакладнасць і паўната фактычнага матэрыялу вызначаюць якасць такіх службовых дакументаў, як дакладная і тлумачальная запіска, акт, справаздача, службовае пісьмо і інш.

Пры аналізе фактычнага матэрыялу таксама падаецца ўвага актуальнасці фактаў — ступені іх важнасці ў канкрэтны момант вуснага выказвання або стварэння тэксту. Напрыклад, на сходзе дакладчыку задаецца пытанне: *Што зроблена для аздараўлення работнікаў цэха?* Адказ начальніка цэха: *Заводскі прафілакторый не працуе ўжо пяць гадоў.* Безумоўна, такі адказ сведчыць аб неактуальнасці прыведзенага на сходзе факта: гэта інфармацыя стала вядома прысутным пяць гадоў таму. Калі б у адказе былі агучаны мерапрыемствы, праведзеныя ў межах цэха для аздараўлення, было расказана аб выдзяленні пуцёвак у прафілакторыі іншых прадпрыемстваў горада і інш., то такі фактычны матэрыял быў бы актуальным і поўным.

Дакладнасць, паўната і актуальнасць фактаў — галоўныя патрабаванні пры адказах на скаргі і прапановы грамадзян. Вызначаныя законам тэрміны адказу (адзін месяц) часам прымушаюць службовых асоб даваць звычайныя адпіскі на канкрэтныя скаргі і прапановы, што недапушчальна і павінна станавіц- ца прычынай для службовага разбіральніцтва.

### 1.4.2. Цытаты ў тэксце, іх праверка

*Цытатамі* называюцца дакладныя вытрымкі з выказванняў і твораў, закліканыя пацвердзіць або абвергнуць якую-небудзь думку. Цытата павінна суправаджацца спасылкай на крыніцу.

Тэкст цытаты змяшчаецца ў двукоссе без ніякіх змен. Калі ўсё ж у вялікай цытаце зроблены пропуск, то аб гэтым павінна сігналізаваць шматкроп'е або вуглавыя дужкі: *«...такая сітуацыя склалася ў выніку ... прымяненне недастаткова праверанага метаду» : «такая сітуацыя склалася ў выніку <...> прымяненне недастаткова праверанага метаду».* Пры скарачэнні недапушчальна змяненне агульнага сэнсу цытаты.

Нельга аб'яднoўваць у адной цытаце некалькі вытрымак, узятых з розных месцаў адной крыніцы, а кожная павінна афармляцца як асобная цытата.

У службовых дакументах указанне на крыніцу цытавання звычайна ўключаецца ў тэкст, прычым уваходзіць у двукоссе. Напрыклад: *У адпаведнасці з указаннем Упраўлення адукацыі «распаўсюдзіць вопыт ландшафтнага азелянення ўстаноў адукацыі па выніках праведзенага конкурсу (№ 34/82 ад 25 чэрвеня 2005 г.)» стварыць на прылеглай тэрыторыі СШ № 23 зялёны куток са штучным вадаёмам.*

У дакументах, якія выдаюцца друкарскім спосабам, спасылкі на крыніцу цытавання афармляюцца паводле правілаў афармлення бібліяграфічнага апісання.

### 1.4.3. Асаблівасці складання і рэдагавання бібліяграфічнага спіса

Працуючы з дакументам, сакратар можа сутыкнуцца з неабходнасцю скласці або адрэдагаваць бібліяграфічны спіс. Гэты аспект дзейнасці мае вялікае значэнне ў выпадку далейшай вучобы ў ВНУ, дзе спіс выкарыстанай літаратуры (напрыклад, у курсавой рабоце) афармляецца па агульных правілах.

Бібліяграфія бывае *рэгістравальная* (спіс усіх кніг па канкрэтным пытанні), *рэкамендацыйная* (спіс кніг, з якімі неабходна або карысна азнаёміцца) і *прыкніжныя (прыартыкульныя) спісы* выкарыстанай літаратуры (указваюцца выданні, на якія спасылаецца аўтар).

Спіс выкарыстанай літаратуры можа мець некалькі рубрык (частак), але ў кожнай з іх павінен захоўвацца алфавітны або храналагічны (бывае рэдка) парадак размяшчэння крыніц. Агульнапрынята, напрыклад, што адну рубрыку складаюць выданні, створаныя кірыліцкім пісьмом (беларуская, руская, украінская, балгарская, сербская і інш. мовы), а другую — кнігі, напісаныя лацініцай (англійская, нямецкая, французская, польская, чэшская і інш. мовы). Мова бібліяграфічнага апісання, як правіла, адпавядае мове выходных звестак дакумента. У адзіны спіс уключаюцца кнігі і асобныя артыкулы са зборнікаў. з энцыклапедый, часопісаў і газет.

Кожная новая крыніца афармляецца з абзаца без нумарацыі, калі іншае не абумоўлена спецыфікай тэксту. Напрыклад, спасылкі на цытаты ў тэксце мо- гуць афармляцца наступным чынам: [3. 15], [3. С. 15]. Першая лічба ў квадратных дужках якраз і абазначае нумар

выдання ў прыартыкульным (прыкніжным) спісе літаратуры. У выпадку, калі спасылкі на цытаты афармляюць як зноску, пры паўтарэнні размешчаных побач звестак запісваецца: Там жа.— С. 243 або Тамсама. — С. 243.

Бібліяграфія афармляецца на падставе Міждзяржаўнага стандарту «ГОСТ 7.1—2003. «Библиографическая запись. Библиографическое описание. Общие требования и правила составления» (да стандарту далучылася і Рэспубліка Беларусь).

Названым стандартам уведзена агульнае абазначэнне матэрыялу, для чаго выкарыстоўваюцца наступныя тэрміны: відэазапіс (видеозапись, video-recording); гуказапіс (звукозапись, sound recording); выяўленчы матэрыял (изоматериал, graphic); карты (карты, cartographic material); камплект (комплект, kit); кінафільм (кинофильм, motion picture); мікраформа (микроформа, microform); мультымедыя (мультимедиа, multimedia); ноты (ноты, music); прадмет (предмет, object); рукапіс (рукопись, manuscript); тэкст (текст, text); шрыфт Брайля (шрифт Брайля, braille); электронны рэсурс (электронный ресурс, electronic resource). Агульнае абазначэнне матэрыялу, апісанні якога пераважаюць у канкрэтным інфармацыйным масіве, можа быць апушчана. Пры неабходнасці ўключыць у бібліяграфічны спіс крыніцу, якая мае не разгледжаны ў тэме агульны матэрыял, трэба звяртацца да тэксту стандарту.

Звесткі аб кнізе ўключаюць у сябе наступную інфармацыю: аўтар, ініцыялы (калі аўтараў некалькі, запісваецца толькі першы); загаловак крыніцы; назва матэрыялу; звесткі, якія адносяцца да загалоўка; звесткі аб адказнасці; месца выдання, назва выдавецтва, год выдання; колькасць старонак. Пры афармленні артыкула пасля звестак аб адказнасці ўказваецца год выдання, нумар зборніка, часопіса або дата выхаду газеты і старонкі, на якіх змешчаны артыкул. У апісанні артыкула з газеты старонкі ўказваюць у тым выпадку, кал і іх колькасць перавышае восем.

У бібліяграфічным спісе забараняецца скарачаць прозвішчы аўтараў, назвы кніг і артыкулаў у любой частцы апісання, агульнае абазначэнне матэрыялу. Месца выдання пішацца поўнасцю, акрамя некалькіх агульнапрынятых скарачэнняў: М. — Масква, СПб. — Санкт-Пецярбург. Калі кніга паралельна выдавалася ў двух гарадах, іх назвы падаюцца праз кропку з коскай: *Мінск, Гомель*.

Слова Выдавецтва ў бібліяграфічным спісе не выкарыстоўваецца, а назва выдавецтва не бярэцца ў двукоссе. Калі выдаўцом кнігі з'яўляецца прадпрыемства, назва якога не супадае са словам

Выдавецтва,, запісваецца поўная назва: Выдавецкі Дом «Логас» (нельга: Логас).

Назвы кніг і артыкулаў не бяруцца ў двукоссе (калі яго няма ў самім загалоўку), напрыклад: *Шамякін, і.* ***Вазьму твой боль****, але: Стральцоў, Б.* ***«Колонка рэдактара» — змест і форма****.* Пры наяўнасці ў загалоўку дзвюх не падзеленых на тытульным лісце знакамі прыпынку назваў яны адасабляюцца кропкай, напрыклад: *Есенин, С.* ***Стихи. Поэмы*** *[Текст]/ С. Есенин. — Казань: Татарское книжное изд-во, 1975. — 336 с.*

Звесткі, якія адносяцца да загалоўка, пішуцца пасля двукроп'я з малой літары. Некалькі разнародных падзагалоўкаў, не падзеленых на тытульным лісце знакамі прыпынку, адасабляюцца двукроп'ем, а аднародныя звесткі — коскай: *Танк, М. Мой каўчэг [Тэкст]: вершы: 1989 — 1992 / М. Танк. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. — 207 с. і Курбека, І. Хітрыя літары [Тэкст]:* ***шарады, метаграмы, лагагрыфы, анаграммы*** *І. Курбека. — Мінск: Юнацтва, 1991. — 24 с.*

У бібліяграфічным спісе выкарыстоўваюцца адзіночныя (/) і двайныя (//) касыя рыскі. Адзіночная касая рыска пачынае звесткі аб адказнасці: аўтар, перакладчык, мастак, складальнік і інш. Калі аўтараў некалькі, дапускаецца паўтарэнне ўсіх іх пасля касой рыскі, а пры наяўнасці чатырох і больш аўтараў можна пакідаць толькі першага і далучаць у квадратных дужках | / інш.]:

*Іўчанкаў, В. Дыскурс беларускіх СМІ [Тэкст]: арга- нізацыя публіцыстычнага тэксту /* ***В.І.Іўчанкаў****. — Мінск: БДУ, 2003. — 257 с.*

*Стывенсан, Р. Востраў скарбаў [Тэкст]: раман /* ***Роберт. Льюіс Стывенсан; пер. з англ. мовы А.М. Асташонка; маст. У.В.Гладкевіч****. — Мінск: Юнацтва, 1993.- 239 с.*

*Нямецка-беларуска-рускі слоўнік [Тэкст] — Deutsch-belorussisch-russisches Wörterbuch /* ***Л.В.Браноўская [і інш.]; пад агул. рэд. У.І.Марцінеўскага, П.В.Садоўскага****. — 2-ое выд. — Мінск: БелСЭ, 1990. — 269 с.*

Двайныя касыя рыскі выкарыстоўваюцца пры афармленні артыкула або закончанай часткі крыніцы інфармацыі:

*Скарынкін У. Мой Петрарка [Тэкст] / У. Скарынкін//* ***Роднае слова. — 2005. — № 7. — С. 102 — 105.***

*Мальдзіс А. Чалавек — стварэнне гістарычнае [Тэкст] / А. Мальдзіс // З гісторыяй на «Вы»: публіцыстычныя артыкулы /* ***уклад. У. Арлова. — Мінск, 1991. — С. 46—71.***

Пры афармленні бібліяграфічнага спіса выкарыстоўваюцца уніфікаваныя формы скарачэнняў: і ін- шыя — і інш. (и другие — и др.; et alii — et al.); і гэтак далей — і г. д. (и так далее — и т. д.; et cetera — etc.); тэта значыць — г. зн. (то есть — т. е.; id est — i. e.); без месца — б. м. (без места — б. м.; sine loco — s. 1.); без выдаўца — б. в. (без издателя — б. и.; sine nomine — s. п.); паасобная пагінацыя — паас. паг. (раздельная пагинация — разд. паг.; pagina varia — pag. var.). Іншыя скарачэнні ўстанаўліваюцца нацыянальнымі стандарам!, напрыклад: над рэд. — пад рэдакцыяй; пер. — пераклад; склад. — складальнік; уклад. — укладанне (укладальнік); выд. — выданне, зап. — запіс, прадм. — прадмова, т. — том, кн. — кніга і інш.

**Асноўныя прыклады бібліяграфічнага апісання**
**(без агульнага абазначэння матэрыялу [Тэкст])**

**1. Адзін, два або тры аўтары**

*Сысоў, У.М.* З крыніц спрадвечных / У.М.Сысоў. — Мінск: Вышэйшая школа, 1997. — 415 с.

*Арашонкава, Г. У.* Кіраванне ў беларускай і рускай мовах: слоўнік-даведнік / Г.У.Арашонкава, В.П.Лемцюгова; пад. рэд. М.В.Бірылы, А.І.Падлужнага. — Мінск: Вышэйшая школа, 1991. — 303 с.

*Мартынов, М.И.* Философия: задания и упражнения: учеб.-метод. пособие для студентов вузов / М.И.Мартынов, Л.Г.Кравченко, С.АКиселева; под ред. В.Н.Шкурко. — Изд. 2-е, стереотип. — Минск: ТетраСистемс, 2001. — 304 с.

*Abel, E.* What's News. T he Media in American Society / E.Abel. — San Francisco, 1981. — 240 p.

2**. Чатыры аўтары і больш**

Сучасная беларуская літаратурная мова: практычныя заняткі / Н.В.Гаўрош [і інш.] — 3-яе выд., дапрац. і дапоўн. — Мінск: Вышэйшая школа, 1995. — 287 с.

**3. Калектыўны аўтар**

Кніга Беларусі, 1517 — 1917: зводны каталог / Дзярж. б-ка БССР імя У.І.Леніна, БелСЭ; склад. Г.Я.Галенчанка і інш.].— Мінск: БелСЭ, 1986. — 615 с.

**4. Шматтомавае выданне**

*Брыль, Я.* Выбраныя творы: у 3 т. / Я. Брыль. — Мінск: Ма~ стацкая літаратура, 1992—1993. — 3 т.

**5. Асобны том у шматтомавым выданні**

*Достоевский, Ф.М.* Собр. соч. В 15 т. Т. 6. Идиот: роман в четырех частях / Ф.М.Достоевский. — Ленинград: Наука, Ленингр. отд., 1989. — 672 с.

або

*Достоевский, Ф.М.* Идиот: роман в четырех частях / Ф.М.Достоевский. — Ленинград: Наука, Ленингр. отд., 1989. — 672 с. — (Собр. соч.: в 15 т. / Ф.М.Достоевский; т. 6).

**6. Зборнік твораў, прац, артыкулаў розных аўтараў**

Замежны дэтэктыў: зборнік / пер. з польск., англ., венг.; уклад. М.Лужаніна. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1991. — 383 с.

Зимний дуб: рассказы советских писателей / сост. и авт. вступ. статьи АП.Кудравец. — Минск: Юнацтва, 1983. — 237 с.

**7. Асобны закончаны твор, артыкул**

**7.1 З кнігі**

*Пэро, Ш.* Чырвоны каптурок / U1. Пэро // Чарадзейныя казкі; перакл. з фр. Зм. Коласа. — Мінск: Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр, 1993. — С. 23 — 28.

*Быкаў, В.* Сцюжа: аповесць / В. Быкаў // 36. тв.: у 6 т. — Мн.: Мастацкая літаратура, 1994. — Т. 6. — С. 5 — 127.

**7.2 Са зборніка**

*Юрэвіч, А.* З паэтычнага сінтаксісу Я .Коласа / А.Юрэвіч // Моўныя адзінкі і кантэкст/ Э.Д.Блінава [і інш.]. — Мінск: Вышэйшая школа, 1992. — С. 190 — 195.

*Auty, R.* Jasykove koncepce u Dubrovskego i Jungmanna / R.Auty // Slovanske spisovne jasyky v dobe obrozeni. — Praha, 1974. S. 122—124

**7.3 З энцыклапедыі**

*Сінчук, І.І.* Залатніковая проба / І.І.Сінчук // Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыклапедыя. — Мінск: БелЭН, 1993. — С. 259 — 260.

*Бареток, М.М.* Эсэ / М.М.Барсток // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. — Мінск: БелСЭ, 1987. — Т. 5. — С. 653.

**7.4 З часопіса**

*Туронак, Ю.* Беларускія Марыяны ў Друі / Юрый Туронак // Спадчына. — 1991. — № 5. — С. 51 — 56.
*Mandler, J.* A code in the node: the use of story schema in retrieval / J.Mandler // Discourse processes. — 1978. — Vol. 1. — P. 14-35.

**7.5 З газеты**

*Нікалаева, Н.* Як не стаць лёгкай ахвярай грыпу? / Н.Нікалаева // Звязда. — 2001. — 14 лістапада.
*Жалкоўскі, А.* Успомніць пайменна: да 65-годдзя ўз'яднан- ня Беларусі / А.Жалкоўскі // Народная газета. — 2004. — 16 верасня.
*Лукашык, У.* Дзе няма неба і сонца: гутарка з мастаком Уладзімірам Лукашыкам / гутарыў Яўген Рагін // Літарату- ра і мастацтва — 2001. — 2 лістапада. — С. 10 — 11.

**7.6 Электронныя рэсурсы**

Большая советская энциклопедия [Электронный ресурс]. — 30 т. на трех CD. — М.: Большая Рос. энцикл.; Новый диск, 2002.
*Караткевіч, У.* Сівая легенда [Электронны рэсурс]: аповесць / У. Караткевіч. — Рэжым доступу: http://www.uladzimir-karatkevich.com/bibl/bel/apovest /siv.html.

## 1.5. ЛАГІЧНЫЯ АСНОВЫ РЭДАГАВАННЯ

### 1.5.1. Асноўныя законы логікі

Для правядзення якаснага рэдагавання сакратару неабходна ведаць і выкарыстоўваць на практыцы асноўныя законы логікі: закон тоеснасці, закон супярэчнасці, закон выключанага трэцяга.

**1. Закон тоеснасці.** Фармулюецца наступным чынам: *Кожная думка ў працэсе аднаго разважання павінна мець адзін і той жа адпаведны, устойлівы змест.* Гэта значыць, што ў час разважання нельга падмяняць адзін прадмет думкі іншым, бо ўзнікне лагічная памылка — «падмена тэзіса».

Дапусцім, у час вытворчай нарады адзін з удзельнікаў зазначае: Наша сельскагаспадарчае прадпрыемства добра падрыхтавалася да ўборкі ўраджаю. У сакавіку — чэрвені 2003 г. адрамантавана 5 камбайнаў, зроблена ўшчыльненне кузаваў 12 аўтамабіляў, праведзены рамонт збожжасушыльных агрэгатаў. Як відаць, прадмет разважання выступоўцы — якасць падрыхтоўкі да

жніва. Але калі на парадку дня стаіць пытанне «Аб ходзе ўборачнай кампаніі па стану на 15 жніўня 2003 г.», то такое выступленне нельга кваліфікаваць інакш, як лагічную памылку.

Закон тоеснасці накіраваны супраць расплывістасці, беспрадметнасці суджэнняў. Незахаванне яго звязана таксама з няпэўнасцю паняццяў, якія выкарыстоўваюцца ў ходзе абмеркавання.

**2. Закон супярэчнасці**. Гучыць так: *Дзве супрацьлеглыя думкі аб адным і тым жа прадмеце, узятым у адзін і той жа час і ў адных і тых жа адносінах, не могуць быць адначасова праўдзівымі.* Веданне гэтага закона дапамагае быць паслядоўным у мысленні, у адстойванні свайго пункту гледжання, дазваляе пазбегнуць двухсэнсоўнасці, лагічнай супярэчлівасці пры аналізе фактаў, пры ацэнцы разнастайных працэсаў.

Разгледзім прыклад: *Па выніках I паўгоддзя 2004 г. самыя высокія паказчыкі мае ўчастак зборкі карпусоў. Не менш высокіх вынікаў дасягнуў і ўчастак фармоўкі.* У двух прыведзеных суджэннях размова вядзецца пра адзін і той жа час (I паўгоддзе), пра адны і тыя ж адносіны (вынікі працы ўчасткаў), але суджэнні супярэчаць адно аднаму, бо самыя высокія паказчыкі можа мець толькі адзін участак.

**3. Закон выключанага трэцяга.** Накіраваны супраць непаслядоўнасці, супярэчлівасці разважанняў: З двух супярэчных выказванняў у адзін і той жа час і ў адных і тых жа адносінах адно абавязкова сапраўднае. У логіцы супярэчнымі называюцца такія два суджэнні, у адным з якіх што-небудзь сцвярджаецца аб прадмеце ці аб з'яве, а ў другім тое ж самае аб гэтым прадмеце ці аб гэтай з'яве адмаўляецца, таму яны не могуць быць абодва сапраўднымі або абодва непраўдзівымі, Прывядзём просты прыклад супярэчных суджэнняў: гэта бібліятэка № 5 — гэта не бібліятэка № 5. Трэцяга суджэння паміж імі няма, адно з двух сапраўднае, другое — непраўдзівае.

У практыцы рэдагавання закон выключанага трэцяга прымушае падтрымліваць лагічнасць у пабудове выказвання, што мае важнае значэнне ў час прыняцця рашэнняў, кап і пры абмеркаванні пытання ўзніклі рознагалоссі. Напрыклад: *Усе члены калектыву магазіна «Расінка» ўступілі ў новы прафсаюз. Касір К.С.Ратніковіч не ўступіла ў новы прафсаюз.* Гэтыя два выказванні не могуць быць адначасова праўдзівымі. Або: *Рамонтны завод выканаў план паставак тавараў народнага спажывання. Але з-за прастою аднаго цэха не выкананы пастаўкі эмсіліраванага посуду.* Два суджэнні

могуць быць праўдзівымі ў розных сітуацыях, але адначасова не могуць быць сапраўднымі.

Існуе таксама закон дастатковай падставы, які фармулюецца так: «Усякая правільная думка павінна быць абгрунтавана іншымі думкамі, праўдзівасць якіх даказана». Гэты закон не дапускае галаслоўнасці сцвярджэнняў і вывадаў, патрабуе пераканаўчага пацвярджэння праўдзівасці нашых думак.

### 1.5.2. Памылкі ў доказах і азначэннях

У тэкстах дакументаў могуць сустракацца доказы і азначэнні, таму сакратар пры выкарыстанні павінен ведаць асноўныя патрабаванні да іх.

*Доказ* як лагічнае дзеянне мае ў сваім складзе тэзіс (тое, што даказваецца) і аргументы (суджэнні, якія пацвярджаюць прапанаванае палажэнне): *Майстэрня паспяхова прайшла мадэрнізацыю (тэзіс): набыты пяць новых станкоў (аргумент), абсталяваны тры новыя рабочыя месцы для інвалідаў (аргумент), адрамантавана індывідуальная сістэма вентыляцыі (аргумент).*

Працуючы над тэкстам доказу, сакратар прад'яўляе да яго крытэрыі, сфармуляваныя логікай для пабудовы доказу: 1) тэзіс і аргументы павінны быць выражаны ў зразумелай, адпаведнай форме; 2) довады не павінны супярэчыць адзін аднаму; 3) у ходзе доказу недапушчальная падмена тэзіса; 4) аргументы павінны быць неаспрэчнымі, іх сапраўднасць павінна быць загадзя вызначана.

Доказы могуць абгрунтоўвацца аргументамі — фактычнымі данымі, што часта сустракаецца ў дакументах. Такі прамы доказ найбольш пераканаўчы: Разгрузка цэменту 28 ліпеня 2002 г. не магла быць праведзена па той прычыне, што ўвесь дзень ішоў праліўны дождж. Пры ўскосным доказе патрабуецца выводзіць аргументы, якія лагічна звязаны з тэзісам, бо ў адваротным выпадку тэзіс не будзе пацверджаны.

*Азначэнне* — дакладнае раскрыццё зместу паняцця. Правільнае азначэннс ўключае родавую прыкмету і адметныя відавыя асаблівасці: *Гваздзік— травяністая дзікарастучая і садовая расліна (родавая прыкмета) з яркімі кветкамі і вострым пахам (відавыя асаблівасці).*

Усякае азначэнне павінна быць сапраўдным па значэнні, а ўказаныя прыкметы — самымі істотнымі для паняцця. У азначэнні не выкарыстоўваюцца паняцці, якія самі маюць патрэбу ў азначэнні. Нельга даваць азначэнне праз адмаўленне, бо адсутнасць тых або

іншых прыкмет яшчэ не раскрывае сутнасці паняцця: *Працiўнiк— гэта не сябар, не прыхільнік; трэба: Працiўнiк— той, хто процідзейнічае каму-небудзь, варожа адносяцца да каго-небудзь.*

Змест паняцця нельга раскрываць праз само азначэнне: Хабар — тое, што даецца з хабарам; трэба: *Хабар — грошы або рэчы,якія даюцца як подкуп з мэтай атрымання пэўнай выгады.*

З лагічнага пункту гледжання не могуць выкарыстоўвацца ў якасці азначэнняў кароткія тлумачэнні іншамоўных слоў: Дэпазіт — грошы; Флора — гэта расліны; трэба: *Дэпазіт— грошы, якія ўносяцца ў крэдытную ўстанову для захавання або атрымання даходу, Флора — сукупнасць усіх відаў раслін якой-небудзь мясцовасці.*

Лагічных памылак можна пазбегнуць толькі пры крытычным ацэньванні сэнсу кожнага слова, кожнай фразы, кожнага доказу або азначэння.

**Пытанні для самакантролю**

1. Ахарактарызуйце паслядоўнасць работы з тэкстам пры рэдагаванні.
2. Якія існуюць віды праўкі? У чым заключаюцца асноўныя асаблівасці кожнага з відаў?
3. Для чаго існуюць карэктурныя знакі? Якія правілы іх выкарыстання?
4. Раскажыце аб аналізе фактаў у тэксце і аб іх праверцы.
5. Ахарактарызуйце асноўныя правілы выкарыстання цытат у тэксце.
6. У чым заключаюцца асаблівасці бібліяграфічнага спіса? Раскажыце аб асаблівасцях афармлення ў спісе розных крыніц.
7. Якія асноўныя законы логікі вы ведаеце? Якое значэнне яны маюць для працэсу рэдагавання?
8. Якія патрабаванні існуюць да доказаў і азначэнняў?

## Тэмы рэфератаў

1. Энцыклапедыя як асноўнае даведачнае выданне. Агульная характарыстыка «Беларускай энцыклапедыі» (у 18 т.).

2. Асаблівасці цытатавання (на прыкладзе выкарыстаных цытат і іх афармлення у часопісах «Роднае слова» або «Беларуская мова і літаратура»).

3. Бібліяграфічны спіс у сучасных кніжных выданнях (на прыкладзе афармлення бібліяграфіі ў 2—3 кнігах беларускіх выдавецтваў).

4. З гісторыі законаў логікі.

5. Слоўнікавы артыкул у «Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы» і асаблівасці дэфініцыі (азначэння) слова.

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАДАННІ

1. *Надрукуйце тэкст (зрабіце камп'ютэрны набор) і правядзіце праўку-вычытку.*

Дзве старонкі, дваццаць ці дзвесце... А можа, тысячы тысяч? Усё адно, нават іх будзе мала, каб годна ўславіць цябе, родная беларуская мова. Таму што мільёны тваіх лю- дзей самім існаваннем сваім з самага пачатку дзён кожным трапным словам, кожнай любоўнай ці гнеўнай думкай, кожным знішчальным, здзеклівым, іранічным або, наадварот, добрым, лірычным сказам славяць цябе. І славіць будуць, пакуль не скончыцца жыццё людское і думка людская на Зямлі.

Мова Скарыны і Буднага, мова Багдановіча і Купалы, Багушэвіча і Коласа, мова соцень геніяў, што яшчэ прый- дуць. Мова інтэлігентаў беларускіх, імя якім — легіён. Мова настаўнікаў і паэтаў, вучоных і кампазітараў, але перш за ўсё мова дзесяці мільёнаў людзей па ўсім свеце — ад Уругвая да Далёкага Усходу і, галоўнае, на нашай беларускай зямлі.

Мова першай матчынай калыханкі і апошняга «бывай», мова старадаўніх архіваў і новых школ на Палессі, мова пажаўцелых статутаў і мова кахання. Мова плытагонаў, сялян, акадэмікаў і шахцёраў на саляных капальнях. Мова, якая можа ўсё; можа сказаць словы невыказанай пяшчоты і можа ўдарыць так, што не ўстанеш. Гнуткі, спявучы, адвечна новы інструмант, без якога нельга ўявіць сабе сваё жыццё, без якога радасць не ў радасць, каханне не ў

каханне, бяседа не ў бяседу, сяброўства не ў сяброўства і нянавісць не ў нянавісць.

Няма цябе — і вось няма суцяшэння ў горы. Няма цябе — і вось нямы язык, і нельга сказаць словаў радасці. А калі ўбіць сабе ў галаву цалкам дурную думку, што ў нейкім далёкім будучым цябе не будзе, то... нашто нам тады такая будучыня?

Таму што ўсе мы — ад настаўніка да паэта — любім цябе, таму што ты — самы важлівы наш здабытак, і мы ў меру сіл нашых не дазваляем і не будзем дазваляць, каб нехта выказваў да цябе пагарду.

(Уладзімір Караткевіч)

*2. Правядзіце праўку-скарачэнне. Укажыце лагічныя супярэчнасці ў тэксце.*

Рэктару... Наш горад даўно адчувае вострую патрэбу ў адкрыцці дзяржаўнай вышэйшай навучальнай установы. Хоць ён мае статус раённага цэнтра, але падобныя гарады, такія як Мазыр, Наваполацк ці Баранавічы, маюць свае універсітэты, а чым мы горшыя за іх?

Колькасць насельніцтва горада сюіадае больш за 100 тысяч чалавек. У горадзе ёсць 27 прамысловых прадпрыемстваў, 7 будаўнічых арганізацый, 29 прадпрыемстваў транспарту, 140 аб'ектаў службы быту. Расце недзяржаўны сектар. На прадпрыемствах і ва ўстановах горада працуюць звыш 58 тысяч чалавек. Сярод інжынерна-тэхнічных работнікаў толькі палова мае вышэйшую адукацыю. Невысокі ўзровень спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй сярод бухгалтараў.

У горадзе ёсць 27 сярэдніх навучальных устаноў і 6 прафтэхвучылішчаў. У школах горада займаюцца 25 тысяч навучэнцаў, у тым ліку ў 11-ых класах — 540 вучняў. Іх узрост не дазваляе нам на высокім узроўні праводзіць маладзёжныя фестывалі і конкурсы. Сучасны стадыён у час гульняў мясцовай каманды ў чэмпіянаце Беларусі па футболе запаўняецца толькі на трэць.

Штогод 300-400 выпускнікоў школ і іншых навучальных устаноў паступаюць у вышэйшыя навучальныя установы, і большасць з іх не вяртаецца ў горад. У многіх бацькоў узнікаюць матэрыяльныя цяжкасці з навучаннем дзяцей у ВНУ іншых гарадоў. Думаецца, што навучанне ў родным горадзе будзе спрыяць больш якаснай вучобе і паляпшэнню дэмаграфічнай сітуацыі ў нашым раёне.

Просім Вас разгледзець пытанне аб адкрыцці ў нашым горадзе філіяла Вашага універсітэта. Размясціць філіял можна на базе

тэхналагічнага тэхнікума. Яго навучэнцы будуць пераведзены ў тэхнікум аднатыпнага профілю ў іншы горад вобласці.

3. *Карыстаючыся «Беларускай энцыклапедыяй» (у 18 т.) або іншымі даведнікамі, адрэдагуйце імёны (імёны па бацьку) вядомых асоб Беларусі XX стагоддзя.*

Сямён Восіпавіч Прытыцкі, Ларыса Панцеляймонаўна Александроўская, Ігар Мікалаевіч Лучанок, Мечыслаў Ігнатавіч Грыб, Віктар Іванавіч Казлоў, Раман Раманавіч Шырма, Арнольд Міхайлавіч Кашкурэвіч, Пётр Міхайлавіч Машэраў, Валянціна Ігнатаўна Гаявая, Фёдар Паўлавіч Ждановіч, Святлана Аляксееўна Алексіевіч, Генадзь Станіслававіч Таразевіч, Стэфанія Мікалаеўна Станюта, Уладзімір Леанідавіч Бядуля, Валерый Віктаравіч Маслюк, Аляксандр Юр'евіч Мдывані, Браніслаў Інакенцьевіч Эпімах-Шыпіла.

**4.** *Выпраўце бібліяграфічны спіс і аформіце яго ў адпаведнасці з патрабаваннямі стандарту.*

**4.1** Бурак Л.І. Даведнік па пунктуацыі беларускай мовы. — Мн. Выд-ва БДУ. 1980. - С. 208.

Пятровіч Б. Піліпікі // Крыніца. Ст. 107—111, 1995. Нумар 10.

Н.Б.Ватацы. Шляхі. Гіет.-літ. артыкулы, — Мн.: «Маст. літ.». 1986. 175 с.

Адамовіч Я.М., Касцян М.1., В.У. Ляпёшкін. «Беларуская мова»: Зборнік практыкаванняў: Вучэб. дапаможнік. — Выш. шк., Мн., 1993. — 270 с.

А.Ханін. Няпразільныя сабакі: Планета жывёл/Звязда. 02.02.2002.— С. 4.

Бацькова З. Смяяцца не грэх. Сцэнар свята гумару для вучняЎ IX — Xl класаў // Роднае слова. № 3. 2002,— С. 86 — 90.

Философия: Учебное пособие для аспирантов / Под обшей редакцией проф. А.Г.Войтова. — Москва: «Издательско-торговая корпорация «Дашков и К0». 2003. — С. 512.

Мезенка Г. Гарадское ўпарадкаванне Беларусі ў люстэрку урбанізацыі //Спадчына. С. 56—57. № 1 за 1991.

Конан У.М. Мова і культура / Беларуская мова: Энцыклапедыя. — Мн., 1994: БелЭн. — 356—358 сс.

Я.Сахута. Статус, пацверджаны жыццём // Культура. 2004. 31 студз. — 6 лют. — С. 20.

Новый завет Господа нашего Иисуса Христа. — Минск, «Рісогр». - 1993. — 300 С.

Hartman P. Text als linguistisches Object / Beitrage zur Textlinguistik. — München, 1971. S. 45—58.

Белы сон: вершы і паэмы. Ларыса Геніюш. — Мн., 1990. — «Маст, літ.» — 351 с.

Овсянников О. Мангазейские шахматы / Шахматы в СССР. 1970. № 7. С. — 23.

5. *Знайдзіце лагічныя памылкі. Выпраўце выказванні і сказы.*

1. Павялічыць сваю памяць вялікай тэхнічнай складанасці не ўяўляе. 2. Адразу хачу сказаць, што ў гэтым здарэнні маёй віны зусім няма. Я знаходзіўся ў кабінеце 304, калі пачуўся шум у калідоры. Потым высветлілася, што там хтосьці пырснуў газам з балончыка. Я паглядзеў сваю сумку і зразумеў, што то быў менавіта мой балончык. 3. Патрабуецца спецыяліст для аддзела, які мае вышэйшую адукацыю. 4. Сапраўдны дакумент толькі той, які падпісаны кіраўніком прадпрыемства. 5. На Вашу скаргу паведамляем, што наша арганізацыя займалася падключэннем указанага дома да энерганосьбітаў. Пастаянныя адключэнні святла звязаны з недастатковай магутнасцю электракабеляў і іх зношанасцю, у выніку чаго на працягу 1 кіламетра зроблена 15 муфтаў. Такім чынам, мы робім усё магчымае. 6. Нават у рашэнні агульнага сходу 19.06.2003 было адзначана, што план за 1 паўгоддзе не выкананы, таму сёння я прапаную яшчэ раз абмеркаваць павелічэнне аб'ёмаў вытворчасці ў IV квартале 2003 года. 7. Йагурт — харчовы прадукт, выраблены з вяршкоў з фруктовымі дабаўкамі. 8. Нестабільнасць курсу беларускага рубля прыводзіць да зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва. 9. Паколькі студэнцкая навуковая канферэнцыя знаходзіцца пад пагрозай зрыву, прапаную: 1) прызначыць адказных за падрыхтоўку залы; 2) накіраваць запыт у рэктарат аб магчымасці выдзялення памяшканняў для пасяджэнняў секцый; 3) навесці парадак у інтэрнаце. 10. У тэкстах афіцыйна-справавога стылю недапушчальным з'яўляецца выкарыстанне метафар.

*6. Прачытайце азначэнне (дэфініцыю) паняцця «дэфіс» з «Тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы» (с. 195)*

ДЭФІС, -а, мн. -ы, -аў, м. Кароткая злучальная рыска паміждвума словамі (-), напр. груша-сірацінa, горад-герой, а таксама

знак пераносу частак слова з аднаго радка на другі і знак скарачэння, напр. б-ка, т-ва, у выглядзе такой рыскі.

*Выкажыце свае адносіны да выразу «злучальная рыска паміж двума словамі». Як, на ваш погляд, трэба ў такім выпадку адносіцца да дэфіса ў словах з-за, па-нашаму?*

## Раздзел 2
## АСНОВЫ РЭДАГАВАННЯ НА АРФАГРАФІЧНЫМ УЗРОЎНІ

Раздзел мовазнаўства, які вывучае правапісныя нормы літаратурнай мовы, называецца арфаграфіяй (правапісам). Аднолькавая перадача вуснага маўлення на пісьме ўсімі членамі грамадства садзейнічае паспяховаму ажыццяўленню зносін паміж імі. Гэта асабліва датычыцца мовы службовых дакументаў, дапушчаныя арфаграфічныя памылкі ў якіх сведчаць аб непрафесіяналізме як аўтара, так і сакратара.

У раздзеле «Асновы рэдагавання на арфаграфічным узроўні» разглядаюцца найбольш складаныя праблемы беларускай арфаграфіі, а таксама засяроджваецца ўвага на некаторых не вырашаных да цяперашняга часу пытаннях правапісу, з якімі можа сутыкнуцца сакратар у час рэдагавання.

### 2.1. ЦЯЖКАСЦІ Ў ПРАВАПІСЕ ГАЛОСНЫХ

#### 2.1.1. Правапіс о, э

Закон акання патрабуе напісання ў словах уласнабеларускіх і славянскіх не пад націскам літары а замест літар о і э: *дзевяноста, робат, Благавешчанск, Чарнігаў, Чарняхоўскі, Рабровіч, стол — стала, перарэзаць — пераразбаць, ацэньваць — ацаніць.*

Адносна напісання літар о — аў іншамоўных словах варта зазначыць наступнае: пасля зычных на канцы і ў сярэдзіне слова пішацца а на агульным правіле: *тарнада, Брайтан, фота, Чыкага, Раберціна, нета* на канцы слова пасля галосных не пад націскам літара о захоўваецца: *трыо, Антарыо, Токіо, імпрэсарыо; але: радыё.*

Літара э ў іншамоўных словах захоўваецца ў любым складзе незалежна ад націску: *эканоміка, рэвізор, дэкада, прынтэр, тэкстура, дэтэктар, Нахічэвань, Цэрэтэлі, Тэтчэр.* У невялікай колькасці даўно асвоеных слоў напісанне э — а падпарадкоўваецца агульным правілам: сакратар, майстар, літаратура, рамонт, бухгалтар, адрас, латарэя, характар і інш. Пад уплывам уласнабеларускага чаргавання *о — ы (крой — крыві, глотка — глытаць, бровы — брыво, гром — грымець)* некаторыя іншамоўныя словы пішуцца з літарай ы замест э: і*нжынер, рысора, брызент, дрызіна, цырымонія, канцылярыя*

*і інш.* Адпаведна напісанне ўсіх аднакарэнных слоў павінна захоўвацца з такімі ж асаблівасцямі: бухгалтарскі, сакратарыят, адрасавацць, рамантавацць, інжынірынгавы, брызентавы, цырыманіял, канцылярскі.

Па-ранейшаму выклікае вялікія складанасці напісанне а — э ў паслянаціскных складах. Правапіс такіх слоў неабходна правяраць па слоўніках*: камп'ютэр, Манчэстэр, шніцэль, ігрэк, Гендэль', але: Заграб, Гашак, Збышак.* Сустракаюцца розныя напісанні некаторых расійскіх гарадоў: *Чэрапавец і Чарапавец, Чэлябінск і Чалябінск, Стэрлітамак і Старлітамак, Новачэркаск і Новачаркаск, Чэркеск і Чаркеск...*

## 2.1.2. Правапіс е, ё

Закон якання патрабуе напісання ў словах уласнабеларускіх і славянскіх у першым складзе перад націскам літары я замест літар ё і е: *цёплы — цяпліца, сеяць — сяўба, Хмяльніцкі, Някрасаў, Бялград, Цярэшчанка, Пячора.* У іншых складах слова (акрамя першага пераднаціскнога) пры напісанні захоўваецца в: *зялёны — зелень — зеленаваты, лясны — леснічоўка, налёт — паляцець — вылет — вылецець, падзел — падзяліць — выдзеліць, лебедзь, колер, несвядомы.* У словах з каранёвым я і пачатковым я ў імёнах і прозвішчах гэта літара не змяняецца ў любым складзе слова: памяць, месяц, цягнік — цягнікі, цягач — цягача, мяцеж — мяцяжу, Ярашэвіч, Якубовіч.

У словах замежнага паходжання літара е захоўваецца ва ўсіх складах слова: методыка, перспектыўны, Бергольц, Меконг, Непал, Сенегал, Палесціна. Таксама не змяняецца е пасля літар г, к, х. кедроўнік, кефір, генетыка, гектар, герой, Херсон, Германія, Герасімаў. У невялікай колькасці даўно асвоеных слоў напісанне е — я падпарадкоўваецца агульнаму правілу: *дзяжурны, каляндар, яфрэйтар, сяржант, янот, яўрэй, ялейны, яхідны; пры рухомым націску ў слове каляндар: календара — календары.*
Выключай не складае напісанне некалькіх лічэбнікаў і вытворных ад іх слоў: дзевяты, дзесяты, семнаццаць, васемнаццаць; семсот, восемсот.

## 2.1.3. Правапіс галосных у складаных словах

Правапіс складаных слоў у асноўным падпарадкоўваецца наступнаму правілу: калі другая частка слова пачынаецца з націскнога склада, то ў першай частцы пішацца літара а (слова мае

адзін націск); кал і націск у другой частцы слова знаходзіцца не на першым складзе, то ў першай частцы ўзнікае пабочны націск і пад ім пішацца літара о: *вадаспад — водопровод, гарналыжны — горнапраходчы, бамбасховішча — бомбакіданне, паліклініка — політэхнічны, манаплан — монакрышталь, спортклуб — спортгарадок, ільнасе- мя — ільнозавод.*

Выключэнні з гэтага правіла аб'ядноўваюцца ў наступныя групы:

— некаторыя словы маюць пабочны націск незалежна ад націску ў другой частцы: *мовазнаўства, азотнакіслы, восемсот, манголавідны.* Правапіс першай часткі складаных слоў *нова- і нава-* трэба правяраць па слоўніках: *навабранец, навагодні, навамодны; нававыдадзены і нававыдадзены, нававыбраны і нававыбраны, навагрэчаскі і новагрэчаскі і інш.;*

— не змяняюцца пры напісанні часткі *фота-, мота-, што-, сто-, дзевяноста-, контр-, грос-: фотаздымак (але: фатаграфія), мотодром (але: мотоцикл), штодзённы, стотонны (але: стагоддзе), гросмайстар, контрмеры,*

— калі другая частка складанага слова пачынаецца з ў, то ў першай частцы заўсёды ўзнікае пабочны націск і пад ім пішацца о: холадаўстойлівы, збож- жаўборка;

— літара э ў першай частцы складанага слова не змяняецца: мэтазгодна, рэдкалессе.

Калі ў складаным слове больш за дзве часткі, то кожная з пачатковых частак мае свой пабочны націск, пад якім пішацца о: марозаводанепранікальны.

Як злучальныя галосныя ў складаных словах выкарыстоўваюцца літары а, о, е, я. Іх правапіс падпарадкоўваецца законам акання і якання: *высакаякасны, домаўладальнік, часопіс, Верхнядзвінск, верхненямецкі, Ніжнявартаўск, ніжнедняпроўскі, сярэднестатыстычны, сярэднясутачны, зернясховішча.*

Правілам правапісу складаных слоў падпарадкоўваецца першая частка вяліка- (веліка-): пры наяўнасці пабочнага націску перад ім пішацца склад вя-, пры адсутнасці — ве-: *Вялікабрытанія, вялікадзяржаўны; велікагрузны, велікасвецкі, велікавокі, велікалуцкі.*

### 2.1.4. Правапіс спалучэнняў галосных у іншамоўных словах

Правапіс спалучэнняў галосных у іншамоўных словах мае наступныя асаблівасці:

*— іо -іё, ыё* (пад націскам), ія, ыя (не пад націскам); на пачатку слова іо (пад націскам), іа (не пад націскам): *біёлаг, біялогія, патрыёт, патрыятызм, радыёла, прыярытэт, іон, іанізатар, Іарданія; але: Эфіопія;*

*— іа — ія, ыя: радыяцыя, дыялог, спецыяльны, піяніна, энтузіяст*

*— іе — іе, ые: гігіена, дыета, кліент, пацыент, іерогліф, іерэй;*

*— ео — ео, эо (пад націскам), еа, эа (не пад націскам): геолаг, геалогія, акардэон, леапард, тэарэма;*

*— еа — еа, эа: рэалізм, ідэал, Неапаль; але: акіян;*

*— йе —е канвеер, фае, феерверк, Феербах, Меерхольд, але: Йемен*

*— йо — ё (пад надіскам), я (не пад націскам): раён, маёр, раянаванне, маянэз.* На пачатку ўласных назваў спалучэнні йо, йа захоўваюцца: Нью-Йорк, Йаганесбург, Йашкар-Ала. Параўнаем таксама зафіксаванае ў слоўніку слова йагурт (не ягурт, не ёгурт і не йогурт).

## 2.1.5. Правапіс прыстаўных галосных

Характэрныя для беларускай мовы прыстаўныя галосныя ўзнікаюць на пачатку слоў з пачатковым збегам зычных гукаў, першы з якіх м, л або р. Пры пачатковым гуку м прыстаўны пішацца заўсёды: імгненне, імгла, імжа, імчацца. Пры пачатковых гуках л або р прыстаўны і пішацца тады, калі слова стаіць у пачатку сказа, пасля знакаў прыпынку і пасля слова, якое заканчваецца на зычны; пасля слова, якое заканчваецца на галосны, і не пішацца: Ільготы дадзены, перагляд ільгот: перагледзелі льготы; маладых ільвоў; вырабы з ільну; здача льнасемя; ён ірвануўся.

Прыстаўны гук а пішацца ў некалькіх словах: хлеб аржаны, хлеба ржанога; І той стары амшалы тын... (Я. Купала).

## 2.1.6. Правапіс і, ы, й пасля прыставак

Пасля прыставак на галосны замест пачатковага каранёвага і не пад націскам пішацца й: выйсці, перайграць, прайгравальнік, перайначыць, пайменна, няйнакш. Але калі каранёвае і ўтварае склад, яно захоўваецца нязменна: перайграць -- пераігрываць, выйграць — выігрываць, заікацца, заінелы, заіскрыцца, заінтрыгаваны.
Пасля прыставак на зычны замест пачатковага каранёвага і пішацца ы: разыграць, безыменны, зыначыць, безыдэйны. Аднак захоўваецца

пасля першай часткі складанага слова і пасля прыставак *між-, звыш-, дэз-, пост-, контр-, суб-, пан-: педінсты- тут, міжіндыйскі, звышідэйны, дэзінфармацыя, постіндустрыяльны, контрігра.*

## 2.2. ЦЯЖКАСЦІ Ў ПРАВАПІСЕ ЗЫЧНЫХ

### 2.2.1. Правапіс зычных у прыстаўках і на стыку прыстаўкі і кораня

Прыстаўкі на -б, -д падпарадкоўваюцца марфалагічнаму прынцыпу арфаграфіі і не змяняюцца ў любым слове: абвергнуць, абтынкаваны, адбіўная, адкідны, надмагілле, падшыпнік.

Прыстаўкі з- (с-) і на -з (-с) падпарадкоўваюцца фанетычнаму прынцыпу арфаграфіі: у становішчы перад звонкімі ў прыстаўцы пішацца з, перад глухімі — с: змена, скруглены, уздым, ускласці, раздаць, расфакусіроўка, цераспалосіца, безвынікова, бяздзейнасць, бесперспектыўны, бясплатна.

Калі апошняя прыставачная і пачатковая каранёвая зычныя аднолькавыя, то ў слове пішуцца дзве аднолькавыя зычныя: аббудоўванне, аддзел, рассцілаць, рассаднік (хваробы), бяззбройны. Выключэнні: расада, расаднік (месца вырошчвання расады), расол, расольнік.

Прыставачная с і каранёвая ч захоўваюцца нязменна: бесчаўнаковы (станок), расчэпка, расчахліць. Выключэнні: рошчына, шчасце, ушчуваць, нішчымны і вытворныя ад іх. Неабходна сачыць і за пачатковым каранёвым збегам шч, бо пропуск ш змяняе значэнне слова: расшчапіць і расчапіць, расшчэп, расшчабёнка.

### 2.2.2. Правапіс спалучэнняў зычных у карані і на стыку кораня і суфікса

Правапіс зычных у словах з суфіксам -ск- праілюструем своеасаблівымі формуламі: д + ск — дск; т + ск — цк; ч + ск = цк; к + ск = цк (акрамя слоў замежнага паходжання, дзе захоўваецца кск), с + ск = ск (ее + ск = ск)~, з, г, ж, х, ш + ск — зск, гск, жск, хск, шск: *заводскі, канадскі; адвакацкі, брэсцкі; ткацкі, баранавіцкі; юнацкі, глыбоцкі, але: узбекскі* (выключэнне: *калмыцкі); вільнюскі, палескі; каўказскі, гаагскі, парыжскі, казахскі, балхашскі, але: тварыскі.*

Пры наяўнасці ў слове суфікса -ств- адбываецца сцяжэнне зычных: кіраўніцтва, агенцтва, банкруцтва, хараство, таварыства, птаства, прыгоства, але: лесаводства, вынаходства.

На стыку кораня, які заканчваецца на н, і суфіксальнага н пішацца два н: бяздонны, аконны, камен- ны; таксама: імянны, племянны. У суфіксах -an-, -ён-, -ян- пішацца адно н: *дашчаны, сцюдзёны, драўляны,* у суфіксах -енн-, -энн два н: *казарменны, фірменны, страшэнны.* У беларускіх дзеепрыметніках нн не пішацца ніколі (толькі адно н!): *перакапаны, стэнаграфаваны, пазнаёмлены, задаволены, асветлены.*

У беларускай мове няма арфаграмы «невымоўныя зычныя», таму правільныя напісанні: шматмесны, позна, сэрцабіццё, праязны, выязны, крапасны, абласны, міласэрны, посны, шчаслівы, Кранштат, Шміт, Брант. У прыметніках, утвораных ад іншамоўных назоўнікаў, спалучэнне тн не змяняецца: *контрастны, баластны, фарпостны, кампостны, аванпостны.*

### 2.2.3. Правапіс д — дз, т — ц

Паводле законаў дзекання і цекання ў беларускіх (і славянскіх) словах на месцы літар д і т у становішчы перад е, ё, ю, я, і, ь, [в’] пішуцца дз і ц: *надзея, дзённы, ладдзю, нарадзіцца, моладзь, дзверы; мяцеліца, цёмна, цвёрды.* Прыставачнае д і суфіксаль- нае т перад [в’] не змяняюцца: падвезці, у таварыстве.

У іншамоўных словах д і т пераважна не змяняюцца: дэкрэт, тыгель, дырыжор, тэніс, дэбет, крэдыт. У некаторых іншамоўных словах звычайна перад ю пішуцца дз і ц: *дзюшэс, дзюна, дзюраль, дзюбель, Цюрынгія, Цюмень, цюлень, цюль, эцюд, нацюрморт, уверцюра; але: турма, авантура.*

Перад суфіксамі -ін-, -ір-, -ёр-, -еец-, -ейск-, -ік- у іншамоўных словах пішуцца дз і ц: *жэлацін, каранцін; камандзір; сарціроўка; гвардзеец — гвар- дзейскг, лунацік.*

Складанасці ўзнікаюць у напісанні д — дз, т — ц ва ўласных назоўніках, у тым ліку замежнага паходжання, бо не ўсе яны могуць быць зафіксаваны разнастайнымі даведнікамі: Мацвей, Дзмітрый, Ціхан, Цімур, Ціт; Дзвіна, Тыбет, Браціслава, Тэхас, Цюрых, Мантэвідэо; Гарыбальдзі, Дзідро, Дэкарт, Стэндаль, Дзюкло, Дадышкіліяні.

## 2.2.4 Правапіс падоўжаных зычных

У беларускай мове падаўжэнне ўзнікае ў становішчы [з’], [дз’], [л’], [н’], [с'], [ц’] і зацвярдзелых [ж], [ч], [ш] паміж галоснымі і пры падоўжаным вымаўленні (падаўжэнне [дз] передаецца на пісьме ддз): палоззе, суддзя, вяселле, насенне, бязлессе, багацце, узбярэжжа, прыгранічча, узвышша; параўн.: вусце, Паволжа, прадвесне. Сучасныя правілы патрабуюць не падаўжаць [с’] і [л’] ва ўласных імёнах і вытворных ад іх і ад слова *ліць: Ілья, Ільін, лью, Касьян, Касьянаў.*

Не пішуцца падвойныя літары ў іншамоўных словах: карэспандэнт, *каса, маса, тона, Генадзь, Ала, Іна, Ота. Выключэние: ванна, манна, бонна, мадонна, панна, Жанна, Мекка, мецца, дурра, донна.*

## 2.2.5 Правапіс прыстаўных зычных

Цяжкія выпадкі ўзнікаюць у асноўным пры напісанні прыстаўнога [в], якое пішацца ў пачатку слова, пасля прыставак і пасля першай часткі складанага слова.

У названых выпадках *в* узнікае перад каранёвым у і націскным о: *вуліца, навука, чарнавусы: вобласць, навошта, шматвопытны.* Пажадана запомніць напісанне слоў *павук, цівун, Навум, Тадэвуш, Матэвуш* і вытворных ад іх: *павуцінне, Цівуноў, Навуменка,* а таксама ніводзін (параўн.: ні адзін), *Лявон, Ларывон, Радзівон.* Заўсёды пішацца в у вытворных словах ад *востры, вока, навокал: вастрыць, вачаняты, наваколле.*

Не пішацца *в* тады, калі націск сыходзіць з о (г. зн. ужо пішацца а): *вокны — окно — падаконнік, возера — азёры, вобад — абады;* перад у прыставачным і перад у, якое развілося з в: узгорак, участак, улада, унук, удава; перад У і О: *Украіна, Уша, Орша, Осла;* у словах замежнага паходжання: *опера, оптом, ордэн, унікальны, унія, урна,* а таксама ў словах наогул (параўн.: *увогуле), окаць.*

## 2.2.6. Правапіс ў (у)

Прымяненне агульнага правіла, што ў пішацца пасля галосных (паводле указа, заўтра, улоў), выклікае некаторыя цяжкасці ў наступных выпадках:

— пасля двукосся і перад двукоссем і пасля дэфіса, калі папярэдняе слова (частка слова) заканчваецца на галосны, ў пішацца

заўсёды: газета «Рэспубліка» увяла; у пастанове запісана, што «указаныя нормы...»', па-ўдарнаму, паўночна-ўсходні,

— ў пішацца ў пачатку іншамоўных слоў, калі слова пачынаецца ў мове-арыгінале з «au» («ау»): аўдыторыя, аўдыт, аўкцыён, аўдыенцыя, аўдыё, аўт;

— пры напісанні ў у сярэдзіне іншамоўных слоў існуюць шматлікія рознагалоссі, напрыклад: паўза, каўчук, лаўрэат, маўзер, Каўнас, гаўптвахта, але: фауна, сауна, клаунада, Саудаўская Аравія, таму напісанне трэба правяраць па слоўніках;

— у канцавых спалучэннях іншамоўных слоў у часцей за ўсё ўтварае склад, таму ў не пішацца: сімпозіум, Алатау, кансіліум, баул, локаут, аул, тэрарыум, трыумф;

— *у* не скарачаецца ў іншамоўных словах, якія пачынаюцца з *уні-*, і некаторых іншых спалучэннях: да універмага, пры універсітэце, ва універсаме, пасля заключэння уніі, каля урны;

— не скарачаецца вялікая літара У: Валянціна Уладзіміраўна, рака Уша, на Украіне, станцыя метро «Усход»;

— у паэтычных тэкстах парушэнне правіла правапісу ў выклікана жаданнем аўтараў захаваць рытміку радка; у вершах можна сустрэць у пасля зычных і знакаў прыпынку, у на пачатку слова пасля галосных, скарочаную У(вялікую літару). Але гэтыя парушэнні не павінны пераносіцца на тэксты афіцыйна-справавога стылю.

Варта спыніцца і на напісанні некаторых імён і прозвішчаў, якія ў рускай мове пачынаюцца з пачатковых спалучэнняў зычных з першым В. Агульнапрынята пісаць у такіх выпадках літару *У*: *Уладзімір, Уладзіслаў, Улас, Усевалад, Увядзенскі, Уласаў, Уласік, Урангель, Уронскі, Урубель, Урублеўскі.*

## 2.3. НЕКАТОРЫЯ ДАДАТКОВЫЯ ПРАВІЛЫ ПРАВАПІСУ

### 2.3.1. Правапіс мяккага знака і апострафа

**Мяккі знак** п і ш а ц ц а толькі пасля свісцячых з, с, дз, ц і санорных л, н для іх змякчэння.

**Раздзяляльны мяккі знак** пішацца ў іншамоўных словах пасля перагічаных зычных перад е, ё, ю, я, і: Лавуазье, манпансье, мадзьяр, парцье, медальён, каньяк. Як было зазначана ў п. 2.2.4, ь пішацца ў словах Ілья, Касьян, налью і т.п. Да канца не вырашана праблема напісання ь у імёнах па бацьку, напрыклад: Васіль — Васілевіч (або Васільевіч — ад Васілій), Генадзь — Генадзевіч (або Генадзьевіч — ад Генадзій). Калі імя не мае варыянта і заканчваецца

на -ш, то ь пішацца заўсёды: Савелій — Савельевіч, Вікенцій — Вікенцьевіч, Сіланцій — Сіланцьевіч, таксама: Васільеўскі востраў.

**Апостраф** пішацца перад е, ё, ю, я і націскным і пасля прыставак (у тым ліку іншамоўных) на зычны: пад'ёмнік, аб'яднанне, раз'ём, з'езд, кан'юнкту- ра, ін'екцыя; пасля першай часткі складанага слова двух-, трох-, чатырох-: двух'ярусньг, у сярэдзіне слоў пасля цвёрдых зычных, акрамя *з, с, дз, ц, л, н і ў: бар'ер, п'еса, выб'ю, інтэрв'ю, Арэф'еў, Аляб'еў, В'етнам; але: здароўе, салаўі.*

**Змякчальны мяккі знак** пішацца толькі пасля ўказаных у пачатку пункта шасці зычных для іх змяк- чэння: прамень, мазь, касъба, стрэльба, дзьму, цьма (ь захоўваецца і тады, калі наступны цвёрды стано- віцца мяккім: касьбе, стрэльбе, дзьме, цьмяны).

**Мяккі знак пішацца** таксама ў наступных выпадках: 1) у дзеясловах загаднага ладу: будзь — будзьце, скінь — скіньце, агледзься; 2) у некаторых назоўніках перад канчаткам -мі: людзьмі, дзецьмі, грудзьмі; 3) перад суфіксам -чык, калі слова без яго заканчваецца на -нь: праменьчык, каменьчык, карэньчык, агеньчык, струменьчык; 4) перад суфіксам -ск- у прыметніках, утвораных ад назваў месяцаў на -нь, ад слова восемь і ад кітайскіх назваў: студзеньскі, чэр- веньскі, ліпеньскі, жнівеньскі, снежаньскі, восеньскі, цяньшаньскі, таксама: травеньскі (майскі); 5) у суфіксах -еньк~, -эньк-, -аньк-: маленькі, даражэнькі, 6) у складаных лічэбніках: пяцьдзесят, дзевяцьсот; 7) у часціцы (постфіксе) -сьці: дзесьці, хтосьці', 8) у прыслоўі ледзьве.

**Мяккі знак не пішацца** ў слове менш (меншы); паміж падоўжанымі зычнымі: жаданне, калоссе; пасля зацвярдзелых і губных зычных: печ, мыш, голуб, сем, Об, накіп, перад суфіксам -ск- у выпадках, не адзначаных у п. 4: конскі, любанскі, казанскі, цюменскі.

### 2.3.2. Напісанне слоў разам і праз злучок

***Складаныя назоўнікі***

**Пішуцца разам:**

— складанаскарочаныя назоўнікі і назоўнікі са злучальнай галоснай: педсавет, агітпункт, бульбаўборка, сенакасілка

— назоўнікі з іншамоўнымі часткамі авія-, агра-, аўдыё-, аўта-, аэра-, бія-, вела-, відэа-, гідра-, кіна-, контр-, макра-, мікра-, метэа-, стэрэа-, фота-, электра- і інш., а таксама з іншамоўнымі прыстаўкамі анты-, інфра-, ультра-, квазі-, псеўда-, пан-, *авіятранспарт, агратэхніка, аўтатраса, аэраздымкі, мікрасхема, гідраэлектраста-*

*нцыя, макрапаказчыкі, стэрэаапаратура, інфраструктура, контратака,* але: *контр-адмірал,* з уласнымі імёнамі ўказаныя замежныя прыстаўкі пішуцца праз злучок: *анты-Дзрынг, пан-Еўропа;*

— назоўнікі з першай часткай — дзеясловам загаднага ладу на -і, -ы: прайдзісвет, вярцідуб, сарвігалава, але: перакаці-поле;

— агульныя назоўнікі з пасткай паў-: паўвёскі, паўшклянкі, паўлітра, паўаркуша (з уласнымі назвамі паў- пішацца праз злучок: паў-Гомеля, паў-Украіны).

**Пішуцца праз злучок:**

—складаныя назоўнікі без злучальнай галоснай, якія маюць значэнне аднаго слова: прэмер-міністр, генерал-лейтэнант, вагон-рэстаран, сон-трава;

— складаныя адзінкі вымярэння: кілават-гадзі- на, тона-кіламетр, налавека-дзень, але: працадзень;

— састаўныя назвы палітычных партый, напрамкаў і іх прыхільнікаў: сацыял-дэмакратызм, сацыял- дэмакрат;

— іншамоўныя назвы напрамкаў свету: норд-ост, норд-вест; назоўнікі з іншамоўнымі часткамі обер-, ун- тэр-, лейб-, штаб-, віцэ-, экс-, міні- *обер-лейтэнант, унтэр-афіцэр, лейб-гвардыя, штаб-кватэра, віцэ-прэзідэнт, экс-міністр, міні-праект, міні-кампютэр;*

— назоўнікі з аднаслоўным прыдаткам: горад-герой,

— састаўныя ўласныя назоўнікі: Давыд-Гарадок, Буда-Кашалёва, Дунін-Марцінкевіч, Жан-Жак, Жа- ліо-Кюры.

**Складаныя прыметнікі**

**Пішуцца разам прыметнікі, утвораныя:**

— ад назоўнікаў, якія пішуцца разам: наваполацкі, свінагадоўчы, заатэхнічны, кінематаграфічны;

— ад спалучэння двух слоў, у якім адно залежыць ад другога: *сельскагаспадарчы (сельская гаспадарка), старажытнагрэчаскі (Старажытная Грэцыя), далёкаўсходні (Далёкі Усход), усходнеславянскі (усходнія славяне); іншамоўны (іншая мова), трохгадовы (тры гады), чыгуналіцейны (ліць чыгун);*

— ад спалучэння прыслоўя і прыметніка пры абазначэнні аднаго паняцця: *высокапрафесійны, вечназялёны, глыбокапаважаны, малагабарытны.* Калі прыслоўе і прыметнік (дзеепрыметнік) маюць

самастойнае значэнне, яны пішуцца асобна: матэрыяльна адказная асоба, прама прапарцыянальны, высока ўзняты, добра арганізаваны.

**Пішуцца праз злучок прыметнікі, утвораныя:**

— ад складаных назоўнікаў, якія пішуцца праз злучок: давыд-гарадоцкі, буда-кашалёўскі, віцэ-прэзідэнцкі;

— ад спалучэння імя і прозвішча: рамэн-раланаўскі;

— ад дзвюх і больш асноў, якія абазначаюць раўнапраўныя паняцці або якасць з дадатковым адценнем ці адценне колеру: шахматна-шашачны, літаратурна-музычны, кісла-салодкі, светла-блакітны;

— ад спалучэння дзвюх асноў з першай часткай усходне-, заходне-, паўночна-, паўднёва-, якія абазначаюць напрамкі або ўваходзяць у склад геаграфічных назваў: паўночна-ўсходні, паўднёва-заходні, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, Усходне-Еўрапейская раўніна, Усходне-Кітайскае мора. Праз злучок пішуцца таксама ўласныя назвы з першай часткай Цэнтральна-: краіны Цэнтральна-Еўрапейскай ініцыятывы.

**Прыслоўі**

**Пішуцца разам прыслоўі, утвораныя далучэннем:**

— прыназоўнікаў да прыслоўяў: назаўжды, паслязаўтра;

— прыназоўнікаў да кароткіх прыметнікаў: дабяла, здалёк;

— прыназоўнікаў у, на да лічэбнікаў і поўных прыметнікаў: удвух, натрое, урассыпную, але: у адно, па двое;

— прыназоўнікаў да займеннікаў: нашто, зусім; але на што звярнулі ўвагу, працаваць ні за што;

— прыназоўнікаў са склонавымі формамі назоўнікаў, якія самастойна не ўжываюцца: уперамешку, напагатове, неўзабаве, неўпапад;

— прыназоўнікаў са склонавымі формамі назоўнікаў ранак, верх, ніз, перад, зад, бок, гара, высь, дяль, век, пачатак, раз, ноч пры адсутнасці залежных слоў: зранку, ззаду, уверсе, спачатку, якраз, уначы, угары, але: з пачатку твора, з боку лесу,

— часткі што да назоўнікаў і сама да прыслоўяў: штодзень, штораніцы, штогод, таксама, тамсама.

**Пішуцца праз злучок прыслоўі:**

— з прыстаўкай па- і суфіксамі -аму, -яму, -ому, -му, -цку, -ску, -ы, -ае, -ое, -яе: па-ўдарнаму, па- летняму, па-старому, па-свойму, па-брацку, па-май- стэрску, па-чалавечы, па-першае;

— утвораныя паўтарэннем аднаго слова, часам з далучэннем прыстаўкі да другой часткі: ледзь-ледзь, як-ніяк, дзе-нідзе, калі-нікалі, сам-насам, воляй-няволяй, раз-пораз, крыж-накрыж, мала-памалу. Праз злучок пішацца таксама тэхнічны тэрмін на-гара.

Пішуцца ***асобна*** спалучэнні прыназоўнікаў з назоўнікамі, якія адказваюць на пытанні прыслоўяў: *дзень у дзень, дзень пры дні, час ад часу, на памяць, у пару, за мяжу, у абмен, у адзіночку, без агляндкі, без разбору, з ходу, з разбегу, з размаху, на ляту, на віду, на бягу, на жаль, на вока, як след, усё роўна, без дай прычыны...*

**Прыназоўнікі, злучнікі, часціцы**

**Пішуцца разам** складаныя прыназоўнікі і вытворныя злучнікі: замест, наконт, накшталт, нібыта, адтаго, прытым, прычым, паколькі; часціца (постфікс) -сьці з займеннікамі і прыслоўямі: якісьці, кудысьці.

**Пішуцца праз злучок:**

— складаныя прыназоўнікі: з-за, з-пад, па-за, па- над;

— часціцы абы-, -небудзь з займеннікамі і прыс- лоўямі: абы-як, хто-небудзь, але: калі ж небудзь, абы з кім; часціца -такі пасля дзеясловаў (зрабіў-такі) і ў словах усё-такі, зноў-такі, даволі-такі, так-такі (у іншых выпадках гэта часціца пішацца асобна: усё ж такі, ён такі адказаў).

### 2.3.3. Ужыванне вялікай літары

З вялікай літары пішуцца: прозвішчы, імёны, імёны па бацьку, псеўданімы, мянушкі людзей, клічкі жывёл, аднаслоўныя назвы выданняў, устаноў, прадпрыемстваў, арганізацый, твораў (у двукоссі) і геаграфічныя і астранамічныя назвы (без двукосся): Васіль Мікалаевіч Тананушка, Максім Танк, Мурка, газета «Звязда», часопіс «Нёман», завод «Прамень», выдавецтва «Полымя», аповесць «Адшчапенец», рака Сож, горад Мазыр, Месяц, Венера.

З вялікай літары пішуцца ўсе словы ў назвах дзяржаў: Федэратыўная Рэспубліка Германія; найвышэйшых урадавых устаноў: Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь; найвышэйшых пасад і званняў: Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Герой Рэспублікі Беларусь; найвышэйшых міжнародных арганізацый: Арганізацыя Аб'яднаных Нацый; поўныя назвы ордэнаў (акрамя слоў ордэн і ступень): ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэн Айчыннай вайны I ступені, ***але***: ордэн Дружбы народаў.

У неаднаслоўных назвах прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, выданняў, свят, адзнак, твораў, дакументаў з вялікай літары пішацца першае слова: Міністэрства транспарту і камунікацыі, Нацыянальная акадэмія навук, Беларускі навукова-даследчы інстытут земляробства, выдавецтва «Навука і тэхніка», Дзень настаўніка, раман «Глыбокая плынь», закон «Аб мовах»; але: Дзень Перамогі, Вялікая Айчынная вайна.

З вялікай літары пішуцца прыналежныя прыметнікі, утвораныя ад уласных імён, з суфіксамі -ее-, -ёв-, -ёў, -ое-, -ае-, -аў, -ін-, -ын- Купалавы пераклады, Цётчыны вершы, Багдановічаў трыялет. Калі ж у прыналежным прыметніку з'яўляецца суфікс -ск-, то прыметнік пераходзіць у разрад адносных і пішацца з малой літары: брылёўскі стыль, купалаўскія мясціны, уласныя назвы з падобнымі прыметнікамі пішуцца з вялікай літары: Коласаўскае свята, Караткевічаўскія навуковыя чытанні.

У афіцыйна-справавым стылі з вялікай літары пішуцца агульныя назвы дзяржаўных дакументаў Дэкрэт, Указ, Закон, Пастанова, калі пасля гэтых слоў выкарыстана афіцыйная назва: ільготы ўсталяваны Законам Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2004 год».

Назвы пасад і званняў пішуцца з малой літары: памочнік міністра, намеснік старшыні, народны паэт Беларусі, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь.

### 2.3.4. Правілы пераносу слоў

Традыцыйны працэс стварэння і друкавання тэксту вымушае рабіць пераносы ў патрэбных месцах на канцы радка. Аўтаматычны перанос слоў, закладзе- ны ў камнютэрныя праграмы, не гарантуе ад маг- чымых памылак, таму пры праўцы-вычытцы тэксту патрабуецца праверка пераносаў.

Перанос слоў робіцца па складах з улікам марфемнай структуры слова: сак-ра-тар; нельга: сакр- атар, аднак адну літару

нельга пакідаць на радку або пераносіць на наступны, хоць яна і ўтварае склад: ар-мія', нельга: а-рмія, армі-я. У такім выпадку некаторыя словы нельга падзяляць пераносам: Азія, якар, Ала, Іван.

Пры пераносе забараняецца:

— пакідаць на канцы радка або пераносіць на наступны дзве аднолькавыя літары, якія стаяць паміж галоснымі: смец-це, узбярэж-жа (падзяляецца таксама падоўжаны гук [дз']: раз-вод-дзе, суд-дзя); пераносіць на наступны радок частку слова, якая пачынаецца з й, у, ы, ь, ' (апострафа): зай-сці, заў-ва-жыць, пау-та-рыць, па-ды-сці, нель-га, кар'- ер (калі з ў пачынаецца другая частка складанага слова, яна пераносіцца на наступны радок: се-на-ўбор- ка, нельга: се-наў-бор-ка);

— падзяляць пераносам [дз], [дж], калі яны абаз- начаюць адзін гук: ва-дзі-цель, ха-джу, але: пад- зем-ны, пад-жаў-ціць,

— адрываць апошнюю зычную прыстаукі, калі ко- рань пачынаецца з зычнай: пад-нес-ці; нельга: па- днес-ці. Калі корань пачынаецца з галоснай, прыс- таўка можа падзяляцца: без-ава-рый-ны і бе-за-ва-рый- ны;

— адрываць ад кораня адну зычную і далучаць да прыстаўкі (або пачатковую зычную другой часткі складанага слова і далучаць да першай часткі): пе-ра- браць, раз-на-стай-ны; нельга: пе-раб-раць, раз-нас- тай-ны;

— разбіваць аднаскладовыя часткі складанаскарочаных слоў і абрэвіятуры, у тым ліку з лічбамі: гаркам, БелТА, ЮНЕСКА, ТУ-104 (нельга, напрыклад, МАЗ- / 530);

— адрываць ініцыялы ад прозвішчаў, умоўныя скарачэнні ад прозвішчаў, скарочаныя назвы ад лічбаў, нарошчаныя канчаткі ад лічбаў; раздзяляць умоўныя скарачэнні: Ф. М. Да-ста-еў-скі (нельга: Н. М. / Семяновіч), праф. Вік-та-раў (нельга: праф. / Віктараў), 2005 г. (нельга: 2005/г.), 18-му (нельга: 18- / му), г. зн. (нельга: г. / зн.).

Пры наяўнасці збегу зычных у корані слова пера- нос адвольны; пры збегу зычных на стыку кораня і суфікса не рэкамендуецца (але можна) падзяляць суфікс: ся-стра, сяс-тра, сяст-ра, каў-каз-скі, не рэк.: каўказс-кі.

Словы, напісаныя праз злучок (акрамя вышэйпададзеных выпадкаў), дазваляецца пераносіць на месцы злучка, прычым пры друкаванні на наступ- ным радку злучок не паўтараецца: з-/за, па-/ беларуску, сам- / насам; можа сустрэцца і такі выпадак: сам-на- / сам.

## Пытанні для самакантролю

1. У чым заключаюцца асноўныя цяжкасці пры напісанні о, э — а ?
2. Чым неабходна кіравацца пры вызначэнні правільных напісанняў з літарамі е, ё — я?
3. Раскажыце аб асаблівасцях правапісу галосных у складаных словах.
4. Якія змены спалучэнняў галосных адбываюцца ў іншамоўных словах?
4. У чым прычына знікнення ў адным і тым жа слове прыстаўных галосных?
5. Якія змены адбываюцца ў словах на стыку прыстаўкі і кораня?
6. Якія змены адбываюцца ў слове на стыку кораня і суфікса?
7. Пры якіх умовах пішуцца раздзяляльны мяккі знак і апостраф?
8. Якія праблемы існуюць пры напісанні слоў разам і праз злучок?
9. Якое значэнне для сакратара мае правільнасць ужывання вялікай літары?
10. У чым заключаецца неабходнасць існавання правілаў пераносу слоў? Якія асноўныя патрабаванні гэтых правілаў?
11. Раскажыце пра найбольш цяжкія для вас выпадкі арфаграфіі.

## Тэмы рэфератаў

1. Прынцыпы беларускай арфаграфіі.
2. З гісторыі беларускай арфаграфіі.
3. Праблемы беларускай арфаграфіі.
4. Ужыванне вялікай літары ў назвах найвышэйшых органаў дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь.
5. Вялікая літара ў назвах узнагарод Рэспублікі Беларусь.
6. Аналіз асноўных памылак у правілах пераносу слоў (на прыкладзе тэкстаў з газет «Звязда», «Настаўніцкая газета», «Культура», «Літаратура і мастацтва» і інш.).

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАДАННІ

7. Выпраўце арфаграмы з парушэннем правапісу галосных, запішыце словы. Вусна растлумачце праўку.

Індакс, высвятліць, сержант, вынясці, фатаздымак, Цяндракоў, кодакс, далікатэс, канцэлярыя, тэрмас, хутка мчацца, акардыён, ільнопункт, шадэўр, натарыўс, забяспячэнне, ёд, цегніка, дэрыжор, мецяжу, спякгакль, радыятар, высокаякасны, іянізацыя, цэрымонія,

планава-уліковы, Вялікабрытанія, дэталь, Токіа, крэпастны, кіяскёр, фізіолаг, вадаправод, прынтар, чэмпіанат, мотакрос, інцэдэнт, вясельчак, інжэнерны, дзевяты, латэрэйны, Шаляговіч, вялікагрузны, дэманстраваць, мядзведзяня, выляцець, дынаміт, робат, вострапосы, запаведзь, бюллетэнь, прымясь, адажыю, Чыкаго, цвік ржавы, Тэтчэр, спеліёлаг.

8. Выпраўце арфаграмы з парушэннем правапісу зычных, запішыце словы. Вусна растлумачце праўку.
Агрэссіўны, увогулле, асяродзе, грынвічскі, Тадэўш, фірмены, навотмаш, сартыроўка, аванцюра, манна, алавянны, брацкі, кантрасны, расадзіць, ушчуваць, разкінуцца, адцзел, кішэнны, аткаркаваны, церазпалосіца, расцілаць, опера, шчэпшчык, брэскі, фарпостны, расчапіць вагоны, таварышскі, расшчапіць дошку, формены, уверцюра, расада, завострапы, счастлівы, сардцавіна, збіцца, імянны, асветленны, наогул, перасажаны, дверы, падцвердзіць, тверды, поены, меца, танны, аткорм, грынвіцкі, усчынацца, вабластны, наваколье, откуп, камандыр, вагонны, сменны, удава, выязднь, нецвярозы, расольнік, опіс.

9. Перакладзіце словы з рускай мовы на беларускую. Запішыце.

9.1 Компьютер, ольховый, накипь, корреспондент, инъекция, специалист, кандидат, штутгартский, стекломасса, осиповичский, льняной, голландский, университетский, множество, меньше, прецедент, претендент, подойти, открыть, голубь, глубоководный, майонез, взвод, отблеск, гамма, авторапли, воднотранспортный, Льва, коллега, Дармштадт, Геннадий, типографский, карантин, артиллерия, диаграмма, литейщик, львы.

9.2 Глотать, дежурный, спроектировать, пьеса, Алла, выменять, ионизатор, Ошмяны, пол-лимона, оценить, коллектив, пианино, мгла, Двина, заочник, аудитория, судья, лавсан, бухарестский, здоровье, юго-восточный, конвейер, одноименный, смастерить, Лион, симпозиум, милосердный, предсъездовский, балластный, несвижский, фойе, сафьяновый, конъюнктура, многосменный, вильнюсский, авантюрист, измерять.

10. Знайдзіце словы, у якіх зроблена арфаграфічная памылка, выкліканая няправільнай пастаноўкай націску. Адрэдагуйце сказы.

I. Корпус 1946 года пабудовы на завадской тэрыторыі патрабуе тэрміновага рамонту, 2. Аб'ём валавага ўнутранага прадукту павялічыўся на 2 працэнты. 3. Ніводная краіна свету не мае такой развітай сістэмы сацыяльнага і пенсійнага забеспячэння, якую стварылі шведы. 4. Прадукцыя гэтай буйнай прамысловай фірмы павялічвае канкурэнцыю на рынку Беларусі і прымушае нас удасканальваць тэхналогію вытворчасці. 5. Матэрыяльная дапамога сіратам будзе павялічана на некалькі дзесяткаў тысяч рублёў. 6. Не горшая наша прадукцыя па сваіх якасцях і выглядзе ў параўнанні з агароднінай і садавінай, прывезенай з іншых краін. 7. Неабходна падтрымка сям'і праз жыллёвую палітыку, праз гарантыю працоўных месцаў для моладзі, праз сістэму адукацыі і ахову здароўя, адпаведную крэдытную і падаткавую палітыку. 8. Вырабы нашага сумеснага прадпрыемства — своеасаблівы фенамен на рынкавай прасторы СНД. 9. Высакаразвітая эканоміка і моцная сістэма сацыяльнай абароны — вось ты:я падставы, якія дапамогуць краіне развівацца паслядоўна.Ю. Толькі ў 10 гадзін вечара скончылася паседжан- не камісіі па надзвычанных сітуацыях.

11. Зрабіце праўку сказаў на арфаграфічным узроўні.

11.1. 1. Вытворчыя магутнасьці аб'яднання дазваляюць забяспечыць кармаўборачнай тэхнікай любое сельска-гаспадарчае прадпрыемства. 2. Пажар распачаўся пасля абедзенага перапынку ў адным с бытавых пакояў, размешчанных побач са сталовай. 3. Наступная рэкламмная кампанія плануецца намі ў Токіа, сталіцы Японіі. 4. Клуб часта не мае грошай, каб арэндаваць памяшканне для правядзення чарговай справаздачна выбарнай канферэнцыі. 5. Мы прагназуем зараз «рэцыдыў» у памеры 10% ад усіх амністыраваных, аднак жыцёвая практыка паказвае, што не меньш як кожны трэці з іх вяртаецца на атачынны шлях. 6. На плантацыі Віаленція вырошчваецца больш за дзьвесце відаў рэдкіх ле- кавых раслін. 7. Камісія абыйшла і вызначыла стан пляцоўкі, якая размешчана паміж уліцамі Усходняя і Бяды. 8. Нам удалося ўстанавіць, што на ферме сапсаваўся вадаправод, з за чаго кароў паілі вадой з прывезеннай цыстэрны. 9. Раней кожная гадавіна аварыі на Чарнобыльскай АЭС адзначалася «усплёскамі актыўнасці» спецыялістаў, якія праводзілі шмат- лікія канферэнцыі і сімпозіўмы.

11.2. 1. Дырэктар створанага ЗАТ «Каскад» адзначыў, што прадпрыемству патрэбен партнёр, які гарантуе забяспячэнне гігантскіх абьёмаў паставак на бартарнай аснове. 2. Мы падлічылі, што фактычныя страты Беларускай чыгункі ад, пасажыраў-льготнікаў летась зклалі 817 міліярдаў рублёў. 3. У обласці па ўтрыманні жэлеза 46% проб вады з гарацкіх і 68% з сельскіх вадаправодаў не атпавядаюць нармацівам. 4. Па лізінгу перацалі фірме новыя цегачы «Івека», сучасныя паў-прычэпы, якія атпавядаюць сусветным стандартам. 5. У выніку ўзнікнення пытанняў адносна пунктаў даннага кантракта просім тэрмінова паведаміць нам або ўнесьці рэдакцыю, якая будзе атпавядаць Вашым патрабаванням. 6. Звяртацца на камбінат для пакупкі рассады клубнід вы маеце магчымасць штодзённа з 9 да 18 гадзін, а фірменыя магазі- ны працуюць у той жа час ва ўсіх раёнах горада. 7. Вызначэнне або змяненне памеру надбаўкі пры пераходе у наступную стажавую группу праводзіцца па стане на 1 чысло месяца, за які выплачваецца надбавка. 8. Аб Вашай згодзе і падрыхтаваннасці да гэтых тэрмінаў аттэстацыі просім інфармаваць нас да 15 снежня 2002 года. 9. Беларуская дэлегацыя ўдзельнічала ў пасяджэнні рабочай групы «Прымусовыя работы / рабская праца» у Бонне.

12. Адрэдагуйце тэкст загада на арфаграфічным узроўні.

У перыяд праходжання медыцынскай камісіі па призыве 2005 года выяўляна 11 прызыўнікоў, якія часова непры- годныя да вайсковай службы і падлягаюць абследаванню і лячэнню ў 5-й гарацкой паліклініцы. Для правядзення лячэбнапрафілактычных мерапрыемстваў юнакам прызыўнікам 1980 — 1987 гадоў нараджэння з выяўленнымі захворваннямі

ЗАГАДВАЮ:

1. Замацаваць на лячэнне і назіранне да ўрачоў-спецыялістаў пералічанных у дадатку прызыўнікоў.

2. Урачам-спецыялістам забеспечыць назіранне прызыўнікоў згодна з загадам № 93 міністэрства аховы здароў'я ад 01.08.1998. Пры ўзнікненні пытанняў, якія не закранаюцца у гэтым загадзе, кіравацца інструкцыямі Міністэрства і загадамі па паліклініцы.

3. Лечачым урачам звярнуцца ў навучальныя установы і на прадпрыемствы з патрабаваннем накіроўваць сваіх прызыўнікоў пры

самастойнай неяўцы ў паліклініку для правядзення лячэбнапрафілакгычных мерагірыемстваў.

Гал.урач

Кантроль за выкананнем загада ўскласці на намесніка галоўнага ўрача па лячэбных пытаннях Г. А. Мацьвеенку.

## Раздзел 3
## АСНОВЫ РЭДАГАВАННЯ НА ЛЕКСІЧНЫМ УЗРОЎНІ

Рэдагаванне на лексічным узроўні ахоплівае аналіз і праўку ўсёй сукупнасці слоў і ўстойлівых спалучэнняў слоў (фразеалагізмаў) у тэксце на прадмет іх адпаведнасці замацаваным у слоўніках значэнням.

### 3.1. СТЫЛІ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

Кожная нацыянальная мова на працягу развіцця выпрацоўвае і замацоўвае спецыяльныя нормы ўжывання моўных сродкаў, характэрныя для той або іншай маўленчай сітуацыі, што стала асновай для вылучэння функцыянальных стыляў. Адрозніваюць наступныя функцыянальныя стылі: гутарковы, навуковы, публіцыстычны, мастацкі, афіцыйна-справавы. Адны з асноўных адрозненняў пры стылістычнай дыферэнцыяцыі праяўляюцца менавіта ў лексіцы.

**1. Гутарковы стыль.** Шырока выкарыстоўваецца ў неафіцыйных зносінах людзей, у сферы быту, г.зн. функцыяніруе пераважна ў вуснай форме, але можа мець і пісьмовую разнавіднасць — у дзённікавых запісах, прыватных лістах. Для стылю характэрна ўжыванне стылістычна зніжаных, прастамоўных слоў і фразеалагізмаў, дыялектызмаў і жарганізмаў: *кленічы, жмінда, халадзіна, туфта, прачуць, турнуць, швэндацца, драць горла.*

Больш шырока, чым у іншых стылях, выкарыстоўваюцца мянушкі і клічкі, размоўныя формы імён, словы з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі: *Велікан, Анюта, Вася, вочкі, даражэнькі; прыналежныя прыметнікі: сынаў, Валіны рэчы, Шураў канспект; выклічнікі: ой, шусь, цыц.*

Практычна не сустракаюцца ў гутарковым стылі тэрміны, абстрактная лексіка, словы замежнага паходжання. Але ўсё ж пераважная большасць лексікі гутарковага стылю — словы агульнаўжывальныя, нейтральныя.

**2. Навуковы стыль.** Выкарыстоўваецца ў навуковых даследаваннях, таму мае шырокі дыяпазон лексічных адрозненняў у залежнасці ад галіны ведаў: філасофія, матэматыка, хімія, эканоміка, радыёэлектроніка і г. д. У тэкстах навуковага стылю шырока прадстаўлена навукова-тэхнічная тэрміналогія і абстрактная лексіка,

практычна адсутнічае эмацыянальна-экспрэсіўная лексіка, абмежавана ўжыванне мнагазначных слоў.

З-за неабходнасці выкарыстання аб'ёмных доказаў вялікае значэнне маюць: злучнікавая падпарадкавальная сувязь (таму што, таму, калі, каб): пабочныя словы і ўстаўныя канструкцыі (па-першае, такім чынам, значыць); прыслоўі (спачатку, потым, затым, адразу, спераду). У тэкстах навуковага стылю не рэдкасць сустрэць разнастайныя графікі, схемы, табліцы, аб'ёмны лічбавы матэрыял, нагрувашчанне формул.

Дакладнасць стылю патрабуе паўтарэння аднолькавых тэрмінаў нават у межах аднаго сказа. Праілюструем гэта двума прыкладамі: Калі ўваходным дыяпазонам з 'яўляецца частковы радок, ён шматразова капіруецца ва ўсе радкі выходнага дыяпазону такім чынам, што яго левая клетка супадае з левымі клеткамі радкоў выходнага дыяпазону (А.І.Кучынскі. Практычнае выкарыстанне ПЭВМ); Інфінітыў — гэта застылая, нязменная форма назоўніка з дзеяслоўнай асновай (назоўніка, утворанага ад дзеяслова), які скланяўся, як назоўнікі былога чацвёртага скланення (з аосновою на і) тыпу мышь, тьсть (Ф.М.Янкоўскі. Гістарычная граматыка беларускай мовы).

**3. Публіцыстычны стыль.** Абслугоўвае сферу масавай камунікацыі і функцыяніруе ў тэкстах газет, часопісаў, на радыё і тэлебачанні, у сусветнай сетцы.
Інтэрнэт, а таксама ў публічных прамовах. Асноўньм функцыі стылю — інфармаванне і ўздзеянне, таму пераважная большасць лексікі — агульнаўжывальныя словы: народ, перамога, дэманстрацыя, пратэст, конкурс.

З мэтай уздзеяння на чытача (гледача, слухача) могуць выкарыстоўвацца эмацыянальна-экспрэсіўныя словы, размоўная лексіка, сродкі вобразнасці: айчына, велічны; прыхватызацыя, тусоўка, круты, нарадзіўся талент, вясна чалавека, светлы настрой.

Многія публіцыстычныя тэксты прасякнуты ацэначнай (станоўча ці адмоўна афарбаванай) лексікай, якая дазваляе аўтару такім чынам выказваць свой пункт гледжання на тэму твора. Чыста інфармацыйныя паведамленні амаль безацэначныя, а такія жанры, як каментарый, нарыс, фельетон, нясуць у сабе значны элемент ацэнкі.

**4. Мастацкі стыль** (стыль мастацкай літаратуры). Займае асаблівае месца. У ім шырока выкарыстоўваюцца сродкі розных

стыляў мовы, таму што ён выконвае не толькі агульную для іншых стыляў камунікацыйную функцыю, але і ўласцівую толькі яму эстэтычную функцыю — актыўна ўздзейнічаць на чытача праз стварэнне яркага мастацкага вобраза, дэталёвае апісанне з'яў і фактаў рэчаіснасці, моўную характарыстыку персанажа і г. д. Для стылю характэрны экспрэсіўнасць, ужыванне шматлікіх вобразных сродкаў мовы (метафар, эпітэтаў, параўнан- няў і інш.), прастамоўнай лексікі, дыялектызмаў. Паэтычная разнавіднасць мастацкага стылю адрозніваецца рытмічнасцю мовы, наяўнасцю (не абавязкова) рыфмы, інтанацыяй.

Вялікая разнастайнасць мастацкіх тэкстаў дазваляе размяжоўваць мастацкі стыль асобных пісьменнікаў і нават асаблівасці стылю аднаго аўтара ў розныя перыяды яго творчасці.

**5. Афіцыйна-справавы стыль**. Абслугоўвае афіцыйныя адносіны паміж дзяржавай, грамадзянамі і суб'ектамі гаспадарання. Стыль адрозніваецца сваёй стабільнасцю, замкнёнасцю і стандартызаванасцю. Нягледзячы на вялікую разнастайнасць справаводчых дакументаў, іх мова строга падпарадкоўваецца патрабаванням дакладнасці фармулёвак, стандартызаванасці пабудовы, неасабовасці характару тэксту.

У залежнасці ад сферы выкарыстання ў афіцый-на-справавым стылі можна выдзеліць некаторыя падстылі:

— *дыпламатычны,* які характэрны для тэкстаў ноты, камюніке, канвенцыі, мемарандума, міжнароднага пагаднення і інш.; заканадаўчы, які рэалізуецца ў тэкстах канстытуцыі, закона, дэкрэта, указа, кодэксаў;

— *судаводчы*, які характэрны для тэкставай дакументацыі ў працэсе судовага разгляду;

— *адміністрацыйна-канцылярскі,* які выкарыстоўваецца ў сферы рэгулявання адносін паміж грамадзянінам і дзяржавай або наймальнікам, паміж суб'ектамі гаспадарання.

Кожны від службовага дакумента можна разглядаць як своеасаблівы жанр адміністрацыйна-канцылярскага падстылю: заява, загад, пратакол, характарыстыка, акт, дагавор, палажэнне, службовае пісьмо і інш. Для іх характэрны наяўнасць устойлівых зваротаў, якія можна лічыць стандартам стылю або жанру, напрыклад: У ходзе праверкі выяўлена наступнае (акт); За час працы зарэкамендаваў сябе са станоўчага боку (характарыстыка); З мэтай выканання пастановы... ЗАГАДВАЮ (загад); У сувязі са складаным матэрыяльным становішчам сям'і прашу (заява); Парадак дня

(пратакол). Гэта дазваляе весці размову і аб своеасаблівай фразеалогіі стылю.

Афіцыйна-справавы стыль характарызуецца адсутнасцю размоўных і дыялектных слоў, а таксама большасці фразеалагізмаў, якія маюць пераважна размоўную афарбоўку. Шырока прадстаўлены аддзеяслоўныя назоўнікі (зацвярджэнне, спыненне, перамяшчэнне, камандзіраванне), дзеепрыметнікі і дзеясловы залежнага стану (была праведзена праверка, дапамога аказана, забараняецца), аднародныя члены сказа.

У якасці загаднага ладу выкарыстоўваюцца асабовыя формы дзеясловаў і інфінітыў (загадваю, накладаецца штраф, прызначыць). Формы загаднага ладу дзеяслова сустракаюцца пераважна ў разнастайных інструкцыях (уключыце, замацуйце, праверце).

Усе патрабаванні да афіцыйна-справавога стылю склаліся па традыцыі і з'яўляюцца натуральнымі менавіта для гэтага стылю маўлення. Безумоўна, перанос гэтых асаблівасцей у іншыя стылі будзе разглядацца як стылістычная памылка (канцылярызмы ў публіцыстыцы, мастацкай літаратуры, вусным маўленні). Як зазначае вядомы даследчык стылістыкі беларускай мовы М.Я.Цікоцкі, «ведаць і паважаць нормы гэтага стылю неабходна так, як і наогул нормы літаратурнай мовы. Нельга пагадзіцца з тымі, хто схільны лічыць афіцыйна-справавы стыль, мову канцылярскіх дакументаў нейкім пудзілам»[1].

## 3.2. СЛОВА — АСНОВА ДЛЯ РАЗУМЕННЯ ТЭКСТУ

Праўка ўключае ў сябе як абавязковы элемент працу над лексікай, таму што слова — аснова для разумення тэксту, асноўная адзінка мовы.

Кожнае слова мае план выражэння і план зместу, якія ўтвараюць арганічнае адзінства. План выражэння складаецца з гукавой і пісьмовай формы слова, план зместу ўключае ў сябе значэнне і сэнс. Значэн- не слова з'яўляецца стабільным, зафіксаваным у слоў- ніках паказчыкам, а сэнс рэалізуецца ў канкрэтных маўленчых сітуацыях.

Лексічнае значэнне слова вызначаецца суаднесенасцю слова з прадметамі і з'явамі рэчаіснасці, якім у нашай свядомасці адпавядаюць пэўныя паняцці.

---

[1] Цікоцкі М.Я. Стылістыка тэксту / М.Я. Цікоцкі, Мінск: Беларуская навука, 2002, С. 182

Таму асноўнай функцыяй слова з'яўляецца назыўная. Напрыклад, слова сканер асацыіруецца і з канкрэтным прадметам (прыстасаваннем), і з паняццем аб пэўных прадметах.

Неабмежаваная колькасць прадметаў і з'яў рэчаіснасці прыводзіць да таго, што адно слова можа абазначаць некалькі паняццяў, і ў выніку ўзнікае мнагазначнасць слова (полісемія). Адназначныя словы маюць толькі адно значэнне: самалёт — лятальны апарат, цяжэйшы за паветра, з рухавіком і нерухомымі крыламі; мнагазначныя — два і больш значэнняў: валюта — 1) грашовая сістэма краіны, а таксама грашовыя адзінкі гэтай сістэмы; 2) грошы замежных краін, якімі карыстаюцца ў міжнародных разліках.

Слова трэба выкарыстоўваць у строгай адпаведнасці са значэннем, якое фіксуецца ў тлумачальных слоўніках беларускай мовы. Найбольш аўтарытэтнымі сярод іх з'яўляюцца два акадэмічныя выданні:

«Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» ў пяці тамах (пяты том у дзвюх кнігах), выдадзены ў 1977— 1984 гадах, складаецца болын як са 100 тысяч слоў і фразеалагізмаў;

1) «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (1996) змяшчае звыш 65 тысяч слоў і разлічаны на шырокае кола чытачоў.

2) На падставе акадэмічных слоўнікаў выдаюцца невялікія па аб'ёме тлумачальныя слоўнікі для школ, якія таксама могуць быць выкарыстаны сакратаром пры рэдагаванні тэксту.

## 3.3. ПАМЫЛКІ, ЗВЯЗАНЫЯ З НЯВЕДАННЕМ ЗНАЧЭННЯ СЛОВА

Праца з тэкстам на лексічным узроўні немагчыма без паглыбленага аналізу славаўжывання на адпаведнасць замацаванаму за словам значэнню. Праўка ў такіх выпадках часта зводзіцца да лексічнай замены недакладна выкарыстанага слова на іншае.

Разгледзім прыклад. Сакратар атрымаў для друкавання тэкст службовага пісьма, у якім утрымліваўся наступны сказ: На працягу дзвюх нядзель ішлі няспынныя дажджы, таму ўборка збожжавых зацягваецца на нявызначаны тэрмін. Пры даследаванні лексічнага значэння слоў выяўляецца, што слова нядзеля зафіксавана ў тлумачальных слоўніках са значэннем сёмы дзень тыдня, агульны дзень адпачынку. Сэнс сказа, такім чынам, скажаецца, бо атрымліваецца, што дажджы пачыналіся кожныя дзве нядзелі і спыняліся ў кожны наступны панядзелак, а астатнія дні можна было працягваць жніво. Безумоўна, павінна быць прапанавана наступная

рэдакцыя сказа: На працягу двух тыдняў ішлі няспынныя дажджы, тамуўборка збожжавых зацягваецца на нявызначаны тэрмін.

Яшчэ прыклады, у якіх неабходна рабіць лексічныя замены:

*Супрацоўнікамі нашага ўпраўлення вынайдзена і канфіскавана чарговая партыя падробных 100-доларавых банкнотаў. Вынайсці* — працуючы творча, стварыць што-небудзь новае, невядомае раней: праўка — выяўлена або знойдзена.

*Зыходным пунктам нашай бяседы давайце возьмем той факт... Бяседа* — збор гасцей з пачастункам: праў- ка — гутаркі.

*Зменшылася колькасць страшных прадпрыемстваў наогул па раёне — да 11 працэнтаў ад іх агульнага чысла. Чысло* — дзень у парадкавым радзе іншых дзён гэтага месяца; дата: праўка — ліку або колькасці.

*А самая лепшая туш для павек з прадстаўленых на конкурс выпрабляецца на гродзенскай фірме «Аркабела». Павека* — рухомая складка скуры, якая прыкрывае вока. Даводзіцца толькі здзіўляцца, якім чынам можна нанесці туш на павекі і як гэта будзе выглядаць; праўка — веек.

Як відаць з прапанаваных прыкладаў, праца са словам — вельмі адказны этап рэдагавання, які патрабуе ўважлівасці і пастаяннага звароту да тлумачальных слоўнікаў.

## 3.4. ЛЕКСІЧНАЯ СПАЛУЧАЛЬНАСЦЬ

Для правільнага выкарыстання слоў неабходна ўлічваць магчымасць іх лексічнай спалучальнасці і здольнасць злучацца паміж сабой. Напрыклад, можна сказаць учыніць крадзеж, але нельга — учыніць подзвіг (здзейсніць), можна сказаць адыгрываць ролю, але нельга — адыгрываць значэнне (мець).

Памылкі ў парушэнні лексічнай спалучальнасці ліквідуюцца лексічнымі заменамі:

*На нашай жывёлагадоўчай ферме важнае значэнне цяпер удзяляюць падрыхтоўцы кармоў.* Праўка: ...важнае значэнне цяпер надаецца...

У *раёне сістэма сацыяльнага забеспячэння тых, хто аддаваў інтэрнацыянальны доўг, працуе амаль без збояў.* Праўка: ...выконваў... доўг...

*Задачай цяперашняй экспедыцыі з'яўляецца даследаванне пытанняў старажытнага клімату і праблем узаемаадносін плямёнаў каменнага стагоддзя з навакольным асяроддзем.* Праўка: ...каменнага веку...

## 3.5. ДАКЛАДНАСЦЬ ПРЫ ВЫБАРЫ СЛОВА З СІНАНІМІЧНАГА РАДА

Сінонімы — словы з аднолькавым або з вельмі блізкім значэннем: рыса — лінія, невялікі — малы — дробны — мізэрны — мініяцюрны.

Семантычныя сінонімы адрозніваюцца адценнямі значэнняў, таму пры выбары слова з такога сінанімічнага рада неабходна ўлічваць найбольш прыдатнае значэнне сіноніма і яго лексічную спалучальнасць. Напрыклад, сінонімы апынуцца — аказацца маюць агульнае значэнне трапіць куды-небудзь, і выкарыстанне слова апынуцца са змененым значэннем павінна разглядацца як недакладнасць: Дакладчык апынуўся (праўка: аказаўся) непадрыхтаваным даваць абгрунтаваныя адказы.

Нюансы значэнняў могуць быць ледзь заўважнымі, але гэта не дазваляе пакідаць падобныя памылкі без увагі: Праход да цягнікоў метрапалітэна здзяйсняецца (праўка: ажыццяўляецца) праз турнікеты; К.Б.Масленікава валодае дадатнымі (праўка: станоўчымі) рысамі характару, Цэх афарбоўкі згубіў (праўка: страціў) надзею на перамогу ў спаборніцтве; У прыватных гаспадарках сялян зменшылася колькасць хатняй (праўка: свойскай) жывёлы; Брыгада Кацюшэнкі да канца квартала ўзвядзе (праўка: пабудуе) падземныя гаражы.

Стылістычныя сінонімы ўзнікаюць паміж словамі з ідэнтычным значэннем, якія адносяцца да розных сфер ужывання (стыляў): зразумець (агульнаўж.) — скеміць (разм.), падатак (агульнаўж.) — наборы (разм.).

Семантыка-стылістычныя сінонімы маюць адрозненне і ў значэннях. Часцей за ўсё семантыка-стылістычныя сінонімы маюць у сваім радзе менавіта размоўныя словы, ужыванне якіх у афіцыйна-справавым стылі абмежавана патрабаваннямі стандарту дакумента.

Пры ўзнікненні цяжкасцей у час рэдагавання неабходна звяртацца да тлумачальных слоўнікаў, а таксама да «Слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў» М.К.Клышкі (1993).

## 3.6. АСАБЛІВАСЦІ ЎЖЫВАННЯ МНАГАЗНАЧНЫХ СЛОЎ І АМОНІМАЎ

Само азначэнне мнагазначнага слова гаворыць пра тое, што яно адно, але мае некалькі значэнняў; амонімы — некалькі слоў (звычайна два), якія гучаць і пішуцца аднолькава. Праілюструем афармленне мнагазначнага слова і амонімаў у тлумачальным слоўніку:

Мнагазначнае слова:
**Шанаваць.** 1. Беражліва адносіцца, не расходаваць што-н. дарэмна. Ш. сваё здароўе. Ш. грошы. 2. Адносіцца з пашанай, павагай да каго-, чаго-н., цаніць што-н., прытрымлівацца чаго-н. Ш. народныя традыцыі. Ш. свой аўтарытэт. Ш. парадак.

Амонімы:
**Купюра** 1. Скарачэнне, пропуск у тэксце (навуковым, літаратурным, музычнвым). Верш надрукаваны з купюрамі
Купюра 2 {спец.). Каштоўная папера — аблігацыя або грашовы знак. Сторублёвая к.

Выкарыстоўваючы ў тэксце сказы з мнагазначнымі словамі і амонімамі, неабходна сачыць, каб быў створаны такі кантэкст, які дазволіць чытачу зразумець іх значэнне. У адваротным выпадку можа ўзнікнуць недапушчальная шматзначнасць фразы*: Мы дамовіліся, што на сённяшнім свяце абавязкова павінна быць бабка (незразумела, або старая жанчына, або ежа, або іншае); праўка: Мы дамовіліся, што да сённяшняга свята павінна быць прыгатавана смачная бабка.*

Яшчэ прыклады:
Прапанаваны вамі тэрмін не можа задаволіць навукоўцаў лабараторыі (праўка: тэхнічны тэрмін або нас); Лісічкі прымаюцца па 5 тысяч рублёў за кілаграм (праўка: Грыбы-лісічкі...); Прадаўца ўласнай сельгаспрадукцыі можна падабраць і ў калгасе (праўка: ...можна знайсці і сяродработнікаў калгаса); Мы прагледзелі Вашы прапановы (праўка: Мы азнаёміліся з Вашымі прапановамі); Дысцыпліна ў студэнцкай групе К-45 кульгае горш, чым у сярэднім па інстытуце (праў- ка: Паказчыкі дысцыпліны ў студэнцкай групе К-45 ніжэйшыя за сярэднеінстытуцкія).

Для ўдакладнення значэння слова можна карыстацца тлумачальнымі слоўнікамі або «Слоўнікам амонімаў беларускай мовы» В. Дз. Старычонка (1991).

## 3.7. НЕАДРОЗНЕННЕ ПАРОНІМАЎ

**Паронімы** — словы, блізкія ў напісанні і гучанні, але розныя паводле значэння: гліняны — гліністы, адрасант — адрасат, абагуліць — абагульніць.

Безумоўна, не ведаючы значэнняў пары слоў-паронімаў, нельга быць упэўненым у дакладнасці выбранага слова; штучная замена паронімаў не павінна дапускацца. Таму незамяняльныя наступныя выразы з паронімамі: акруговая камісія — акружная шаша, абагуліць маёмасць — абагульніць паказчыкі, старшына роты — старшыня калгаса, аперацыйны пакой — аператыўны план, дзейны чалавек — дзейсны метад, бескарысны занятак — бескарыслівыя людзі, кватэры для камандзіраваных — камандзіровачнае пасведчанне, канструктыўная прапанова — канструкцыйныя асаблівасці, планаваць сваю дзейнасць — планіраваць над зямлёй, шкада патрачанага часу — дождж нарабіў шкоды і інш.

Некаторыя групы паронімаў складаюцца больш чым з двух слоў. Можна прапанаваць наступны прыклад: асабісты (свой, уласны) — асаблівы (незвычайны) — асабовы (у складзе тэрмінаў: асабовы займеннік; асабовая справа — папка з дакументамі на аднаго чалавека; асабовы склад — агульны спіс работнікаў; асабовы рахунак — адкрыты ў банку адной асобай) — асобны (які знаходзіцца на адлегласці ад усіх, не такі, як ва ўсіх) — асобы (звычайна складаны, небяспечны). Таму патрабуюць рэдагавання наступныя сказы: Сакратар падшывае новыя дакументы ў асабістую (праўка: асабовую) справу супрацоўніка. У асабісты (праўка: асабовы) склад многіх школ уключана пасада псіхолага; Студэнту Петручэню будзе прапанавана асобае заданне (калі яно не звязана з нейкай небяспекай для студэнта, то патрабуецца праўка: асобнае або асаблівае).

Пры рэдагаванні можна карыстацца тлумачальнымі слоўнікамі або «Слоўнікам паронімаў беларускай мовы» С. М. Грабчыкава (1994).

## 3.8. ПЛЕАНАЗМЫ І ТАЎТАЛОГІЯ

**Плеаназмы** — словы, значэнне якіх уваходзіць у тлумачэнне іншых слоў сказа; гэта — лішнія словы. Прывядзём просты прыклад: у чэрвені месяцы; слова чэрвень мае значэнне шосты месяц каляндарнага года, і, як можна заўважыць, слова месяц уваходзіць у азначэнне, таму варта ліквідаваць яго: у чэрвені.

Патрабуецца праўка наступных выразаў: падрыхтаваць прэйскурант цэн (прэйскурант — даведнік цэн на тавары і паслугі), праўка: падрыхтаваць прэйскурант:; з 'явілася свободная вакансія юрысконсульта (вакансія — свабодная, нікім не занятая пасада), праўка: з'явілася вакансія юрысконсульта; жадаем усяго самага найлепшага (найлепшы — самы лепшы), праўка: жадаем усяго найлепшага.

Некаторыя асобныя сказы: Лакалізацыя і ліквідацыя эпідэміі захворвання дызентэрыяй у горадзе Горкі Магілёўскай вобласці абышлася абласному бюджэту ў 3,2 млрд рублёу; праўка: эпідэміі дызентэрыі; Застаецца дадаць, што усе вышэйпамянёныя гастрольныя спектаклі будуць пачынацца а 19-ай гадзіне вечара; праўка: а 19-ай гадзіне.

Адначасова зазначым, што плеаназмы могуць сустракацца і пры выкарыстанні фразеалагізмаў (у прыкладах лішнія словы ўзяты ў дужкі): атрымаць (першае) баявое хрышчэнне; (хітра) абвесці вакол пальца; белыя (снегавыя) мухі (нечакана) як снег на галаву. жадаем (шчыра і) ад усяго сэрца і інш.

**Таўталогія** — паўтарэнне ў межах сказа аднолькавых або аднакаранёвых слоў. Гэта надае выказванню ненатуральнае гучанне, указвае на няўважлівасць аўтара. Пры ліквідаванні таўталогіі робяцца сінанімічныя замены або выказванне будуецца па-іншаму: А ў агульнадзяржаўныя паказчыкі ўліваюцца ж і паказчыкі дасягненняў нашага завода; праўка: ... вынікі працы нашага завода; Настаўнік прапануе дзецям прачы-таць зробленыя імі запісы і робіць заўвагі да гэтых запісаў; праўка: ...да іх.

Як ужо адзначалася, паўтарэнне аднолькавых слоў-тэрмінаў дапускаецца ў навуковым стылі, што адпавядае і патрабаванням афіцыйна-справавога стылю з яго дакладнасцю фармулёвак і адсутнасцю розначытанняў.

## 3.9. СТЫЛІСТЫЧНАЯ АФАРБОЎКА СЛОВА

Даследчыкі вылучаюць эмацыянальна-экспрэсіўную і функцыянальна-стылістычную афарбоўкі (канатацыю) слова, якія адрозніваюцца сваім змястоўным напаўненнем.

*Эмацыянальна-экспрэсійная канатацыя* далучаецца да асноўнага значэння слова і нясе элемент ацэнкі: гэта могуць быць і адназначныя словы тыпу валадар, усемагутны, манюка, чысцёха; і

пераносныя значэнні мнагазначных слоў у дачыненні да чалавека: варона, арол, пілаваць, грызці і словы з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі: дзіцятка, сонейка, даміна. Прыведзеныя прыклады паказваюць, што словы з эмацыянальна-экспрэсіўнай канатацыяй утрымліваюць станоўчую або адмоўную ацэнку, таму іх выкарыстанне ў тэкстах афіцыйна-справавога стылю павінна строга кантраляваацца, а выяўленыя ў сказах — выпраўляцца.

Эмацыянальна-экспрэсіўныя моўныя сродкі супрацьпастаўлены нейтральным: праўда, кіраўнік, дзіця...

*Функцыянальна-стылістычная канатацыя* моўных сродкаў адлюстроўвае іх прыналежнасць да пэўнага функцыянальнага стылю, таму адрозніваюць агульнаўжывальныя моўныя сродкі (могуць выкарыстоўвацца ва ўсіх стылях) і моўныя сродкі функцыянальна абмежаванага выкарыстання, Напрыклад, у парах разведка — рэкагнасцыроўка, прыкмета — сімптом, стаўленік — крэатура, даведацца — пранюхаць першае слова — агульнаўжывальнае, другое — абмежавана ў выкарыстанні навуковым, афіцыйна-справавым або размоўным стылямі.

Моўныя сродкі функцыянальна абмежаванага выкарыстання такім чынам падзяляюцца на групы ў залежнасці ад сферы выкарыстання, што фіксуецца ў слоўніках стылістычнымі паметамі. Сярод іх можна вылучыць наступныя: паэт. — паэтычнае, высок. — высокага стылю, нар.-паэт. — народна-паэтычнае, разм. — размоўнае, абл. — абласное, гіст. — гістарыч- нае, кніжн. — кніжнае, афіц. — афіцыйнае, спец. — спецыяльнае, праф. — прафесійнае і інш.

Заўважце, што паметы паэт., высок., нар.-паэт., разм., абл., гіст. будуць сігналізаваць аб неабходнасці замены такіх слоў у тэкстах афіцыйна-справавога стылю, напрыклад: Наш будаўніны атрад кожны дзень панынае працу на зараніцы (слова зараніца мае памету паэт., таму патрабуецца праўка: ...вельмі рана або з узыходам сонца).

Іншыя стылістычныя паметы (кніжн., афіц., спец., праф.) не з'яўляюцца падставай для праўкі сказа. Аднак тэксты дакументаў, прызначаных для шырокага кола грамадства, павінны мець як мага менш слоў са стылістычнымі паметамі.

Разгледзім асаблівасці некаторых груп стылістычна абмежаванай лексікі.

1. **Архаізмы і гістарызмы**. Архаізмы выпалі з актыўнага слоўніка нацыі і ў асноўным выцесніліся агульнаўжывальнымі сінонімамі, але часам могуць выкарыстоўвацца ў некаторых стылях: дойлід (архітэктар), штандар (сцяг), фэст (свята, фестываль), дзіда

(піка, кап'е). Гістарызмы — словы, што зніклі разам з паняццем, якое яны азначалі: дарэктар, шляхціц, войт, саўнарком, Вярхоўны Савет. Устарэлыя словы шырока выкарыстоўваюцца ў мастацкім і публіцыстычным стылях для стварэння каларыту эпохі, у навуковым стылі (гісторыя, этнаграфія, археалогія і інш.) — для раскрыцця тэмы даследавання. Часам устарэлыя словы могуць сустракацца ў найменнях устаноў, у назвах дакладаў і напрамкаў даследавання, што прыводзіць да функцыянавання падобнай лексікі і ў афіцыйна-справавым стылі: *«Шынок у Лявона», «Карчма», «Дайнова», «Бортніцтва на Беларусі», «Аб Мінскім кляштары дамініканцаў».*

**2. Неалагізмы**. Адлюстроўваюць новыя паняцці ў галіне вытворчасці, навукі, тэхнікі, палітыкі, спорту, мастацтва і г. д. Такімі словамі трэба карыстацца вельмі асцярожна і толькі ў тых выпадках, калі новае паняцце немагчыма перадаць наяўнымі моўнымі сродкамі. Пры адсутнасці ўласнага слова неалагізм можа атрымаць шырокае распаўсюджанне і вельмі хутка страціць адценне навізны, напрыклад: камп'ютэрызацыя, віртуальны, біёніка, армрэслінг, ксеракс і інш.

Неалагізмы могуць стварацца аўтарамі тэкстаў, што не заўсёды апраўдана, бо патрабуецца дадатковае тлумачэнне; такія словы выходзяць за межы лексікі афіцыйна-справавога стылю. Неалагізмы ў мастацкім стылі шырока выкарыстоўваюцца майстрамі пяра: Блукаюць грыбазбіры, // Якоча рэхам лес (П.Панчанка); У тым гаі жыў апошні нехацімец (А.Куляшоў); Ліфт — радавы арміі,// што завецца ліфтвафэ (Р.Барадулін), але ў большасці выпадкаў не становяцца агульнаўжывальнымі словамі.

**3. Прафесіяналізмы** — спецыфічныя словы, якімі карыстаюцца прадстаўнікі асобных прафесій і спецыяльнасцей. Функцыянаванне прафесіяналізмаў — пераважна гутарковы стыль, іх ужыванне ў тэкстах дакументаў абмежавана: Вадзіцель Д.В.Глушчанка атрымаў нязначныя траўмы, бо ўтрымаўся за абаранак (праўка: за рулявое кола); Таварняк праследаваў у напрамку на Маладзечна (праўка: таварны цягнік).

Прафесіяналізмы сінанімічныя тэрмінам, якія маюць больш шырокае распаўсюджанне і з'яўляюцца лексічнай нормай літаратурнай мовы. У тэкстах дакументаў канкрэтнага прадпрыемства, установы або арганізацыі тэрміны становяцца неад'емнай часткай лексікі. Бясспрэчна, павінен быць час для засваення сакратаром на працоўным месцы тэрміналогіі свайго прадпрыемства.

4. **Жарганізмы** — спецыфічныя словы якой-небудзь сацыяльнай групы, напрыклад у студэнтаў і навучэнцаў: пара, банан, хвост, плавець, шпоры. У апошні час з шырокім распаўсюджаннем

Інтэрнэту і мабільнай сувязі пашырыўся жаргон (слэнт) іх карыстальнікаў, які актыўна ўплывае на вуснае маўленне маладога пакалення: комп (камп'ютэр), даслаць на мыла (даслаць на адрас электроннай пошты, ад E-mail), Ася (ад ISQ), сімка (SIM-карта)...

Жарганізмы не павінны засмечваць тэксты афіцыйна-справавога стылю, а таксама вуснае маўленне сакратара.

**5. Словы замежнага паходжання**. Многія запазычаныя словы даўно ўвайшлі ў шырокае ўжыванне і страцілі сваю іншамоўную афарбоўку: пінжак, паліто, фактар, хакей, стадыён, трамвай і інш. Папаўненне мовы запазычанымі словамі выклікана развіццём навукі і тэхнікі, гэты працэс няспынны і аб'ектыўны.

Аднак пры наяўнасці беларускага адпаведніка выкарыстанне такога слова абмяжоўваецца спецыяльнымі мэтамі. Напрыклад, з аб'явы: Паездка на Свіцязь адбудзецца ў бліжэйшы ўік-энд. Запіс у прафкаме. Па-першае, запазычанне ўік-энд нічым не матывавана; па-другое, няма дакладнасці ў тым, паездка будзе толькі адзін дзень ці два (у суботу, у нядзелю або два дні); па-трэцяе, у выпадку пакідання паперы на дошцы аб'яў да панядзелка хтосьці можа падумаць і пра наступны «ўік-энд». Адрэдагаваная аб'ява можа мець наступны выгляд: Паездка на Свіцязь адбудзецца ў бліжэйшыя выхадныя (6 і 7 жніўня). Запісацца можна ў прафкаме.

Перанасычэнне мовы дакумента запазычанымі словамі часам стварае эфект залішняй «узнёсласці»: Некаторыя цэхі аб'яднання не мабілізуюць унутраных рэсурсаў на фарсіраванне выканання плана III квартала. Больш простым і зразумелым можа быць выпраўлены варыянт: Некаторыя цэхі аб'яднання не выкарыстоўваюць сваіх магчымасцей для выканання плана III квартала.

## 3.10. КАНЦЫЛЯРЫЗМЫ І ШТАМПЫ

**Канцылярызмы** — характэрныя для афіцыйна-справавога стылю моўныя адзінкі (словы і выразы), ужыванне якіх у іншых стылях сведчыць пра няўменне аўтара праводзіць стылістычную дыферэнцыяцыю, дарэчна карыстацца ўсімі моўнымі сродкамі.

Увядзенне без патрэбы канцылярызмаў зніжае культуру вуснага і пісьмовага маўлення, таму сакратару важна арыентавацца ў маўленчай сітуацыі, пазбягаць падобных выразаў па-за тэкстам дакумента. Напрыклад, сказ У пытанні паляпшэння харчавання ў сталовай вялікае значэнне мае прысядзібная школьная гаспадарка з-за выдзеленых канцылярызмаў набывае расплывісты сэнс, характарызуецца недакладнымі фармулёўкамі, таму патрабуецца

праўка: Дзякуючы прысядзібнай школьнай гаспадарцы палепшылася харчаванне ў школьнай сталовай.

Канцылярызмы з'яўляюцца разнавіднасцю штампаў — шырока распаўсюджаных у моўнай практыцы слоў і выразаў з цьмяным лексічным значэннем і са сцёртай эмацыянальнай афарбоўкай. Штампам можа стаць любая не раз паўтораная моўная адзінка: прыняць меры, засяродзіць увагу, у разрэзе асобных брыгад, сябраваць з кнігай, другі хлеб, чорнае золата і інш. Пра зменлівасць моўных штампаў можа сведчыць, напрыклад, шырокае выкарыстанне ў апошні час пабочных слоў скажам так: Мы рыхтуемся атрымаць на спаборніцтвах, **скажам так**, не апошняе месца. Пазбаўляцца ад моўных штампаў — гэта значыць рабіць сваё маўленне больш дакладным і разнастайным, індывідуальным.

Ад штампаў неабходна адрозніваць моўныя стандарты (клішэ), якія выкарыстоўваюцца як гатовыя мадэлі пры канструяванні адпаведнай маўленчай сітуацыі і не выклікаюць негатыўных адносін: у якасці доказу, з гэтага вынікае, пацвердзім сказанае (навуковы стыль); прызначыць на пасаду, дагаворныя бакі, накласці спагнанне (афіцыйна-справавы стыль); органы выканаўчай улады, сілавыя структуры, служба быту (публіцыстычны стыль); Сардэчна запрашаем!, Калі Вас не абцяжарыць..., Вялікі дзякуй!(гутарковы стыль).

## 3.11. ПАМЫЛКІ, ВЫКЛІКАНЫЯ ЎПЛЫВАМ РУСКАЙ МОВЫ

Сітуацыя беларуска-рускага двухмоўя актыўна ўплывае на працэсы функцыянавання як беларускай, так і рускай мовы. Заўважана, што руская мова на Беларусі таксама мае некаторыя лексічныя асаблівасці: беларускія словы пранікаюць у рускія тэксты і выкарыстоўваюцца або як спецыфічныя ўкрапленні (напрыклад, словы «памяркоўны», «шыльда»), або як незаўважныя для аўтара лексічныя памылкі.

Неапраўданае змешванне рускай і беларускай лексікі ўспрымаецца як паказчык нізкай моўнай культуры, а засмечаная русізмамі беларуская мова атрымала назву трасянка (гэта слова ўжо фіксуецца слоўнікамі).

Уменне заўважаць неапраўдана выкарыстаныя рускія словы ў беларускіх тэкстах сведчыць аб свядомым размежаванні дзвюх моў. Такія навыкі набываюцца ў працэсе навучання і ўдасканальваюцца ў час прафесійнай дзейнасці.

Памылкі часта тлумачацца наяўнасцю міжмоўных амонімаў: бескарысны (бел.) — бескорыстный (рус.) — беларускаму слову бескарысны адпавядае рускае бесполезный, а рускаму слову бескорыстный адпавядае беларускае бескарыслівы; уехаць (бел.) — уехать (рус.)— беларускае слова уехаць мае значэнне трапіць унутр, рускае уехать — паехаць адкуль-небудзь; беларускае плот — рускае забор, рускае плот — беларускае плыт і інш. У размежаванні падобных слоў можа дапамагчы «Белорусско-русский паралексический словарь-справочник» (1985) пад рэдакцыяй А.Я.Міхневіча.

Пры рэдагаванні тэкстаў дапамагаюць не толькі тлумачальны, але і перакладныя руска-беларускія і беларуска-рускія слоўнікі, бо памылкі могуць узнікаць з-за частковага перасячэння значэнняў слоў. Напрыклад: У пункце 5 сапраўднай пастановы адсутнічае спасылка на тэрмін выканання. Сапраўдны адпавядае рускаму настоящий, якое пры перакладзе мае некалькі адпаведнікаў: настоящее время — цяперашні час, эта подпись настоящая — гэты подпіс сапраўдны, параграфы настоящего учебника — параграфы гэтага (дадзенага) падручніка, таму ў сказе патрабуецца замена слова сапраўднай на гэтай (дадзенай).

Некаторыя словы неапраўдана змяняюцца на аднолькавыя з рускай мовай, як, напрыклад, выраз браць (узяць) удзел у канферэнцыі замяняецца на прымаць удзел у канферэнцыі, хоць першы выраз таксама ўтрымлівае нарматыўную лексіку і больш адпавядае характару мовы.

Нятворчы пераклад слоў з іншай мовы атрымаў назву калькаванне, і гэты працэс вельмі пашыраны. Варта спыніцца на калькаванні толькі аднаго рускага слова дело. Нават даследчыкі рускай стылістыкі адзначаюць яго неапраўданае пашырэнне, а ў беларускай мове яго калька справа часта проста засмечвае тэксты.

Слова справа ўжываецца без абмежаванняў толькі з некаторымі значэннямі: Спецыяліст у ваеннай справе; Міністэрства замежных спраў; Асабовая справа Цярэшкі; Папка для спраў; Вядзецца справа аб забойстве. Іншыя значэнні гэтага слова могуць быць рэалізаваны па-іншаму: узяцца за справу — узяцца за працу (работу); гэта справа адміністрацыі — гэта клопат адміністрацыі; становішча спраў на заводзе — становішча на заводзе; зрабіць дрэнную справу — зрабіць дрэнны ўчынак; справа ў тым, што — пытанне (праблема) у тым, што; справа была ў красавіку — гэта было ў красавіку; не можам дапамагчы ў гэтай справе — не можам дапамагчы ў гэтым; у чым справа? — што здарылася?; на самай справе — у сапраўднасці, сапраўды; то і справа паўтараюцца памылкі

— раз за разам (раз-пораз) паўтараюцца памылкі; мець справу з камісіяй— мець дачыненне да камісіі; ясная справа — вядомая рэч, атрымаць за справу — атрымаць па заслугах, пусціць у справу — пусціць у ход; першай справай — перш за ўсё (перш-наперш) і інш. У першую чаргу патрабуецца праўка тых сказаў, у якіх паўтараецца слова: Справа ў тым, што разгляд гэтай крымінальнай справы зацягнуўся з-за перадачы яе іншаму следчаму; праўка: Праблема (Рэч, Пытанне) у тым...

Як можна заўважыць, слова справа ўваходзіць у склад некаторых фразеалагізмаў (фразем), якія, будучы скалькаванымі, могуць успрымацца як пародыя на беларускую мову: ён справу гаворыць — ён слушна гаворыць; і справа з канцом — дый годзе; справа ў капелюшы — усё ў парадку.

У тэкстах і вусным маўленні ўжытыя ўласнабеларускія фраземы маюць адметнае значэнне і паказваюць на веданне аўтарам глыбінных пластоў беларускай мовы, а скалькаваныя — на яе штучнасць. Адзначым выпадкі, якія патрабуюць рэдагавання:

*Інжынер Мельнічэнка быў праў, калі сцвярджаў... Заўважаецца, па-першае, немілагучнасць фразы, у якой узнікае непатрэбная рыфма: праў — сцвярджаў, і, па-другое, быў праў — калька з рускага выразу был прав, адрэдагаваны выраз: Інжынер Мельнічэнка меў рацыю, калі сцвярджаў... або Інжынер Мельнічэнка правільна сцвярджаў...;*

*Нельга пагадзіцца з кропкай погляду расфасоўшчыцы Ананьевай; праўка: Нельга пагадзіцца з пунктам гледжання расфасоўшчыцы Ананьевай;*

*Тон у конкурсе цырульніцкага майстэрства задавалі віцябляне, праўка: Рэй у конкурсе цырульніцкага майстэрства вялі віцябляне;*

*Фабрыцы выгадна ўдзельнічаць у гэтым праекце, паколькі прадпрыемства будзе атрымліваць прэстыжныя заказы, па крайняй меры, да 2007 года; праўка: прынамсі.*

Пададзім прыклады замены яшчэ некаторых фразем: ісці сваёй чаргой — ісці сваім парадкам; для віду — для (дзеля) прыліку; яшчэ б — дзіва што; вось іменна — праўда што; на днях — гэтымі днямі; бачыцъ наскрозь — бачыць навылет; нічога сабе — нішто сабе; не ў духу — не ў гуморы; на кожным кроку — што ні крок; два боты пара — абое рабое; чортава дзюжына — чортаў тузін; як ні ў чым не бывала — як нічога ніякага; не да дабра — не на добрае; але не тут-то было — ды дзе там; па душах — па шчырасці; у канцы канцоў —

урэшце (нарэшце); дзень ад дня — што ні дзень; з дня ў дзень — дзень пры дні; ні ў якім выпадку — ні ў якім разе; сваімі вачамі бачыць — на свае вочы бачыць; як гаворыцца — як кажуць (так бы мовіць).

**Пытанні для самакантролю**

1. Ахарактарызуйце стылі беларускай літаратурнай мовы.
2. Чаму слова — асноўная адзінка для разумення тэксту?
3. Чым неабходна кіравацца пры выкарыстанні любога слова? Як пазбегнуць памылкі ўдакладнасці яго ўжывання?
4. Што такое лексічная спалучальнасць?
5. Якія памылкі могуць сустракацца пры выбары слоў-сінонімаў?
6. Як трэба ўдакладняць значэнне мнагазначных слоў і амонімаў?
7. Ахарактарызуйце памылкі пры ўжыванні паронімаў.
8. Як пазбавіцца ад плеаназмаў і таўталогіі ў сказе?
9. Што такое стылістычная афарбоўка слова? У чым адрозненне эмацыянальна-экспрэсіўнай і функцыянальыіа-стылістычнай канатацыі?
10. У чым заключаюцца асаблівасці ўжывання архаізмаў, гістарызмаў, неалагізмаў, прафесіяналізмаў, жарганізмаў, іншамоўных слоў?
11. Ахарактарызуйце памылкі, выкліканыя ўплывам рускай мовы.

## Тэмы рэфератаў

1. Шляхі фарміравання ўласнабеларускай лексікі.
2. Шляхі запазычання іншамоўных слоў.
3. Ужыванне ў «Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы» стылістычных памет.
4. Спосабы пераносу значэнняў слова.
5. Тропы і іх ужыванне ў розных стылях.
5. Характарыстыка маладзёжнага слэнгу (Інтэрнэт-слэнгу).
6. Фразеалагічныя зрашчэнні, адзінкі і злучэнні, іх адрозненне.
7. Стылістычная прыналежнасць фразеалагізмаў.
8. Аналіз міжмоўных (беларуска-рускіх) амонімаў.

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАДАННІ

13. Вызначце з дапамогай «Слоўніка паронімаў беларускай мовы» або «Тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы» адрозненні ў значэннях слоў-паронімаў. Складзіце словазлучэнні з кожнай парай слоў, запішыце.

13.1 Перыферыйны — перыферычны, абагуліць — абагульніць, старшына — старшыня, акруговы — а кружны, аператыўны — аперацыйны, адрасат — адрасант, запаведны — запаветны, маляр — муляр, факт — фактар, шкода — шкада, тэлефанавац ь — тэлефанізавац ь, эфектны — эфектыўны.

13.2 Дрэўка — дрэўца, бескарысны — бескарыслівы, палатны — палатачны, асабісты — асабовы, камандзіраваны — камандзіровачны, канструкцыйны — канструктыўны, атамнік — атамшчык, адборны — адборачны, планавац ь — планіравац ь, скарбонка — скарбніца, дзейны — дзейсны.

14. Спішыце. Няправільныя варыянты словазлучэнняў адрэдагуйце.

Станоўчы характар, дадатны электрод, станоўчае сальда, дадатныя эмоцыі.

Здзейсніць перавод грошай, ажыццявіць выкананне плана, здзейсніць гераічны ўчынак, здзейсніць службовы падлог, ажыццявіць продаж, учыніць крадзеж.

Раскрыць вокны, раскрыя вочы, разгарнуць кнігу, адчыненыя дзверы, адкрыць сход, раскрыты часопіс, адкрыць нешта новае, распачаць спрэчкі.

Апынуцца ў кабінеце, аказацца непадрыхтаваным, апынуцца ў цяжкім становішчы, апынуцца на месцы старшыні, аказацца ў доме адпачынку.

Згубіць час, страціць здароўе, згубіць важны дакумент, згубіць пасаду, страціць дэталь.

Хатнія рэчы, хатнія гусі, свойская жывёла, даматканы ручнік, саматканая посцілка.

15. Адрэдагуйце выразы з плеаназмамі.

Закончыць будаўніцтва да канца чэрвеня месяца, падрыхтавалі прэйскурант цэн, зрабіць да 20 гадзін вечара, атрымаць першае баявое хрышчэнне, жадаем усяго самага найлепшага, хітра абвесці вакол пальца, нарадзіцца ў шчаслівай кашулі, песня канчаткова спета.

16. Адрэдагуйце сказы з таўталогіяй і іншымі лексічнымі памылкамі. Замяніце неапраўдана ўжытыя рускія словы.

1. Мы былі ўражаны, калі даведаліся, што штогод у свеце ад хвароб памірае больш за 8 мільёнаў малышоў. 2. Начальнік упраўлення

адзначыў, што галоўнае патрабаванне, якое прад'яўляецца да галоўнага рухавіка таргоўлі, — даступнасць. 3. Даводзіцца нейрахірургу Скляраву ў нечым сабе адказваць, шукаць дадатковую працу, бо грошай, якія дзяржава плаціць яму за штодзённую, нялёгкую і адказную працу хірурга, на ўсё не хапае. 4. Для вострых кішэчных інфекцый характэрна цыклічнасць: звычайна яны актывізуюцца праз каждыя два гады на трэці год. 5. У межах гэтай праграмы ўрад таксама плануе адкрыць спецыяльны сайт у Інтэрнэце, каб адкрыць яго карыстальнікам доступ да розных урадавых службаў. 6. Але Мікалай Козел адмаўляецца размаўляць пра беларускія грошы, бо лічыць сябе звязаным з гэтай самай таямніцай. 7. Трэба прызнаць, што робіцца недастаткова намаганняў, каб змагацца з абаротам наркотыкаў і нелегальнай іміграцыяй.

17. Паспрабуйце адрэдагаваць сказы карыстальнікаў ПЭВМ і мабільных тэлефонаў.

1. Цэлых пяць гадзін тусіў у інэце. 2. Гэта прога не можа быць карыснай для мяне. 3. Штосьці я не магу дазваніцца, таму трэба праверыць палкі. 4. Відаць, у мяне ляснуўся венік. 5. Сайт не дае магчымасці зліваць інфармацыю. 6. Калі ласка, дайце тэлефон: у мяне галодная трубка. 7. Кабура вельмі якасная і не перашкаджае на рабочым месцы. 8. Цяжка сказаць, ты ламер або чайнік. 9. Бачыце, набыў жалеза і радуец- ца гэтаму.

18. Адрэдагуйце сказы з няправільным ужываннем слова справа і з іншымі памылкамі.

1. У гэтай справе мы значна адстаём ат іншых краін. 2. Справа ў тым, што гэтыя семьі з 1994 года жывуць у нумарах раённай гасцініцы. 3. Калі так справы пойдуць і далей, дык абьяднанне вельмі хутка застанецца без валюты. 4. Цяпер жа вяскоўцам прадпісана мець справу толькі з раённымі нарыхтоўчымі канторамі, якія добра калі разлічацца праз пэўны тэрмін, але па меньшай закупачнай цане. 5. У канцы канцоў, справа не ў гэтым. 6. Апрача кармлення рабочых у час сяўбы і жатвы, і астатні час працаўнікам сталовай і буфета не прыходзіцца сядзець без справы. 6. На выхадныя старшыня адправіў усіх сваіх намеснікаў па калгасных фермах, каб чыноўнікі ўласнымі вачыма ўбачылі ход спраў. 7. Так што справа не толькі ў надвор'і, а ў гаспадарлівых атносінах да зямлі і працы. 8. Справа была позней восеншо. 9. Кіраўніцтва Брэсцкага аблвыканкама палічыла патрэбным папярэдзіць кіраўнікоў раёнаў і гаспадарак обласці аб

персанальнай адказнасці за стан спраў у жывёлагадоўлі. 10. Справа, аднак, ускладняецца тым, што ў прадпрыемства пакуль недастаткова магчымасцей для асваення новай вытворчасьці. 11. Не гледзячы на неаднаразовыя заклікі да узаемнага супрацоўніцтва, справа так і не зрушылася з месца. 12. Атрымаць тут гандлёвае места — справа складаная, але не для ўсіх.

19. Адрэдагуйце сказы са скалькаванымі фраземамі.

1. Камісія на кожным кроку заўважала недахопы і парушэнні правілаў аховы працы. 2. Яшчэ б, як не радавацца, бо гэта першы кампакт-дыск нашага гурта. 3. Прадпрыемства яшчэ адстае ад многіх замежных фірмаў у наладжванні кантактаў з Тайванем, а тон тут задае Расія. 4. У апошні месяц года цэх дзень ад дня не выконвае плана з-за адсутнасці камплектацыі для зборкі персанальных камп'ютэраў. 5. Галоўная гераіня ўрачыстасці выглядала нічога сабе, у асноўным дзякуючы макіяжу. 6. Можна падзяліць пункт погляду Вітгенштэйна, які сцвярджаў: усё, што можна сказаць, можна сказаць зразумела. 7. Пасля заканчэння навучальных устаноў некаторыя выпускнікі працуюць на дзяржаўных прадпрыемствах толькі для віду, пераходзячы потым у камерцыйныя арганізацыі. 8. Праведзеныя вучэнні дапамогуць, па крайняй меры, хоць падтрымаць баяздольнасць войскаў.

20. Спішыце. Правядзіце рэдагаванне на лексічным узроўні сказаў з загада.

1. Папярэдзіць указаных у загадзе ліц за нядзелю да мерапрыемства. 2. Праінструктаваць правілы тэхнікі бяспекі (адказны Крывашэй С.Л.). 3. Арганізаваць атэстацыйную камісію ў наступным складзе. 4. В.С.Сідарэвічу напісаць план асенняга легкаатлетычнага злёту. 5. Напрыканцы конкурсу зрабіць вынікі аб правядзенні конкурсу, 6. Нам. дырэктара знайсці будаўнічую брыгаду для правядзення рамонту дзіця- чага сада. 7. Абсталяваць мужчынскі і жаночы туалеты сані- тарна-тэхнічнымі сродкамі. 8. Кантроль за выкананнем ус- класці на заг. адцзялення К.С. Смірнову. 9. Прывесці спіс асоб, прабыванне якіх на рабочым месцы ў час правядзення праверкі абавязковае. 10. Запрасіць парикмахера, візажыста і стыліста для распрацоўкі індывідуальнага іміджу ўдзельні- цы конкурсу.

21. Правядзіце рэдагаванне тэксту службовага пісьма на лексічным і арфаграфічным узроўнях.

Паважаны Андрэй Уладзімеравіч, добры дзень!
Нашы намеранні астаюцца раннейшымі. Мы хацелі бы палучыць ад вас тавар па ўзгодненным ў Мінску спісе, але пакуль мы не разлічыліся с вамі за раннейшую пастаўку, я лічу, што набіраць новы тавар было б памылковым.

Справа ў тым, што форс-мажорныя абставіны, выклі- канныя крызісам у Расіі, не пазваляюць зрабіць аплату згодна з кантрактам у патрэбны час і вызываюць у нас пачуццё разгубленнасці. Мяркуем аплату рабіць часткамі, пасля стабілізацыі курсу рассійскага рубля да доллара США, калі банк сможа зрабіць нармалёвую канвертацію. Зараз пакуль гэта немагчыма.

У Беларусі курс на рынку ўжо каля 2 тысяч рублёў за 1 доллар США.

Усе падзеі ў Расіі адлюстроўваюцца моцным ростам коштаў у Беларусі. Безналічны курс ужо каля 2,5 тысячы рублёў за 1 доллар США.

Мірон Васільявіч тэлефанізаваў мне, прапаноўваў гітары на рэялізацыю (на 50 дзён), але я, канечне, адказаўся, так як застаюцца нерэалізованнымі па крайняй меры па 100 гітар і саксафонаў, пастаўляных у адпаведнасці з ранней- шым кантрактам у лютым месяцы гэтага года.

Пакуль нам не да бабінага лета і машыны.

Вялікае прывітанне і самыя найлепшыя пажаданні Стэле.

**Раздзел 4**
# АСНОВЫ РЭДАГАВАННЯ НА МАРФАЛАГІЧНЫМ УЗРОЎНІ

## 4.1. АСАБЛІВАСЦІ ЎЖЫВАННЯ НАЗОЎНІКАЎ

Назоўнік дзякуючы сваёй асноўнай граматычнай катэгорыі — прадметнасці мае вялікае значэнне для кожнага тэксту, і ў першую чаргу тэксту кніжнага стылю, якім і з'яўляецца афіцыйна-справавы, Неабходнасць адмовы ад ужывання некаторых займеннікаў, замены дзеяслоўнага выказніка на дзеяслоўна-іменнае спалучэнне, паўтарэння адных і тых жа найменняў, што абумоўлена імкненнем да дакладнасці, выклікае вялікую патрэбу ў частым звароце да назоўніка.

Памылкі ў тэкстах могуць быць выкліканы цяжкасцямі ў вызначэнні роду, ліку, адушаўлёнасці-неадушаўлёнасці, функцыянаваннем варыянтных канчаткаў, якія маюць розную стылістычную афарбоўку, і іншымі прычынамі.

### 4.1.1. Цяжкасці ва ўжыванні назоўнікаў, звязаныя з катэгорыямі роду, ліку, адушаўлёнасці-неадушаўлёнасці

1. Вялікае значэнне пры выбары формаў роду назоўнікаў маюць замацаваныя слоўнікамі варыянты, якія, на жаль, не заўсёды пазначаны стылістычнымі паметамі і вар'іруюцца ў розных выданнях.

Раўнапраўныя формы жаночага і мужчынскага роду маюць назоўнікі салата і салат, клавіша і клавіш, таполя і топаль; стылістычна абмежаваную форму жаночага роду — назоўнікі сахарын (сахарына — разм.), санаторый (санаторыя — уст.), цуд (цуда — разм.); стылістычна абмежаваную форму мужчынскага роду мае назоўнік ціша (ціш — разм.), пры выбары формы назоўніка зала — зал перавага аддаецца форме жаночага роду. Часам род назоўнікаў можа размяжоўваць значэнні слоў: гваздзік (расліна) — гваздзіка (прыправа); прастор (рус. простор) — прастора (рус. пространство).

Толькі ў форме жаночага роду павінны ўжывацца назоўнікі акруга, гонта, гусь, жырафа, замша, камода, кішэня (кішэнь), макарона, плацкарта, спазма, ухаба, шпона і інш. Слова табака ў значэнні тытунь мае размоўную афарбоўку.

Пад уплывам рускай мовы парушаецца род назоўнікаў мужчынскага роду ахапак, боль, валяр'ян, гармонік, жаль, медаль, насып, палын, пачак, продаж, пыл, сабака, стэп, туфель, цень,

шынель, юхт, яб- лык; назоўнікаў з часткай —піс: вопіс, жывапіс, запіс, летапіс, машынапіс, перапіс, подпіс, роспіс, рукапіс і інш., а таксама назоўнікаў ніякага роду брыво, сцябло, шчаўе.

Род назоўнікаў вызначае і тып скланення, таму патрабуецца рэдагаванне наступных выразаў: *аздоблены якасным шпонам — аздоблены якаснай шпонай, выбарчага округа — выбарчай акругі, узнагароджаны медаллю Францыска Скарыны — узнагароджаны медалём Францыска Скарыны, новай салдацкай шынелі — новага салдацкага шыняля, апошняй перапісі — апошняга перапісу, аддзел продаж — аддзел продажаў, доўгага сцебля — доўгага сцябла, займацца маслянай жывапіссю — займацца алейным жывапісам.*

Назвы асоб па прафесіі, пасадзе, званні і родзе заняткаў маюць пераважна форму мужчынскага роду, нават калі абазначаюць асобу жаночага полу. У афіцыйна-справавым стылі прыметнікі дапасуюцца да такіх назоўнікаў у мужчынскім родзе, а дзеясловы прошлага часу — у жаночым родзе, калі падобныя назоўнікі маюць пры сабе прыдатак: Новы галоўны рэдактар С. М. Ковалёва...; Малодшы навуковы супрацоўнік Н. У. Рашэтнікава ў выступленні спынілася... Пашыраныя ў размоўным, публіцыстычным і мастацкім стылях назоўнікі касірка, лабарантка, мастачка, настаўніца, сакратарка і пад. застаюцца па-за межамі тэкстаў афіцыйна-справавога стылю.

Род абрэвіятур вызначаецца па апорным слове: ААН (ж. р., арганізацыя), ВНУ (ж. р., установа), БелТА (н. р., агенцтва), ЦУМ (м. р., магазін), БДУ (м. р., універсітэт), МУС (я. р., міністэрства).

Пры вызначэнні роду нескланяльных назоўнікаў кіруюцца значэннем слова: мужчынскі род — назвы ўсіх жывых істот, асоб мужчынскага полу, гарадоў, часопісаў (поні, фламінга, кенгуру; аташэ, парцье; Дэлі, Сочы, Тбілісі); жаночы род — назвы асоб жаночага полу, дзяржаў, рэк, гор, пустынь, газет (пані, мадам, Мэры, Перу, По, Ай-Петры, Гобі, «Юманітэ»); ніякі род — неадушаўлёныя назоўнікі і назвы азёр (бюро, алібі, леча, турнэ, Антарыо). Выключэнне складаюць рэдкія для беларускай мовы назоўнікі: івасі (рыба, ж. р.), цэцэ (муха, ж. р.), кальрабі (гатунак капусты, ж. р.), беры-беры (хвароба, ж. р.).

Існуе праблема вызначэння роду нядаўна запазычаных іншамоўных слоў (яшчэ не зафіксаваных у слоўніках): куцюр'е, папарацы, экшн (м. р.), бістро, джакузі, партфоліо (и. р.), еўра (м. і н. р.), тату, фэнтэзі (н. і ж. р.) і інш.

2. Большасць назоўнікаў мае адзіночны і множны лік, прычым у беларускай мове ў назоўным склоне пераважаюць канчаткі -ы, -і (-а, -я не існуюць): завод — заводы, цэх — цэхі, прафесар — прафесары,

дырэктар — дырзктары, адрас — адрасы, брат — браты, пашпарт — пашпарты, імя — імёны.

Толькі ў множным ліку ўжываюцца назоўнікі абставіны, грудзі, дзверы, крупы, каноплі і назвы большасці лясных ягад: брусніцы, журавіны, чарніцы, дурніцы (буякі), суніцы і інш. (адзіночны лік азначае адну ягаду). Патрабуецца рэдагаванне наступных выразаў: З трохсот кілаграмаў грэцкай крупы... (праўка: грэцкіх круп); Асаблівую трывогу выклікае тая абставіна, што ў гэтым дакуменце... (патрабуецца замена слова, бо размова вядзецца не пра многія абставіны; праўка: тая акалічнасць); Чарніцу закупляюць многія магазіны спажывецкай кааперацыі (праўка: Чарніцы).

У адзіночным ліку ўжываюцца некаторыя назоўнікі, якія абазначаюць рэчыўнасць, зборнасць і абстрактнасць: чарніла, сталь, вада, віно, ячмень, жыта, чытанне, бляск, радасць, смех і інш. Для стварэння эфекту множнасці гатункаў дапускаецца выкарыстанне множнага ліку рэчыўных назоўнікаў: Вынікам першага этапа стаў выпуск высокаактанавых бензінаў А-92 і АІ-95 і экалагічна чыстага дызельнага паліва; сухія віны, мінеральныя воды.

У некаторых выпадках выкарыстанне множнага ліку замест адзіночнага і адзіночнага замест множнага мае вузка прафесійны характар; у дакументацыі такія намылю трэба выпраўляць: Дзякуючы добраму лячэнню мы можам кантраляваць у хворых цукры (праўка: утрыманне цукру); У садах Гомельскай вобласці будзе добры яблык (праўка: ураджай яблыкаў); А з запланаваных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да зімы ўдаецца праводзіць толькі невялікія рамонты цеплавых камунікацый (праўка: невялікі рамонт).

3. Адушаўлёнасць-неадушаўлёнасць назоўнікаў — граматычная катэгорыя, якая выразна праяўляецца пры скланенні назоўнікаў у множным ліку: форма вінавальнага склону ў адушаўлёных назоўнікаў супадае з формай роднага склону, у неадушаўлёных — з формай назоўнага склону (,інжынер, Р. інжынераў, В. інжынераў. адушаўлёны назоўнік; надзея, Н. надзеі, В. надзеі: неадушаўлёны назоўнік; дзіця, Р. дзяцей, В. дзяцей адушаўлёны назоўнік).

Граматычны паказчык адушаўлёнасці-неадушаўлёнасці не заўсёды супадае з рэальным сэнсам слова. Напрыклад, назоўнікі мярцвяк, нябожчык — адушаўлёныя, а труп — неадушаўлёны: знайшлі мерцвяка, успомніць нябожчыка, але: нясуць труп. Назвы ніжэйшых арганізмаў (мікроб, бактэрыя, вірус, амёба, інфузорыя) часцей ужываюцца як неадушаўлёныя: даследаваць вірусы, вывучаць бактэрыі; выразы даследаваць вірусаў, вывучаць бактэрый характэрны для прафесійнага маўлення. Назвы шахматных фігур і картаў у гульнях,

назвы некаторых танцаў могуць успрымацца як адушаўлёныя назоўнікі: паставіць ферзя, класці караля, танцаваць гапака.

Калі адушаўлёны назоўнік становіцца найменнем неадушаўлёных прадметаў, то захоўваецца паказчык неадушаўлёнасці: рамантаваць знішчальнік, запусціць штучны спадарожнік, перадаць у вытворчасць лічбавы «Віцязь».

### 4.1.2. Асаблівасці канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку

Правільнае ўжыванне канчаткаў мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку — праблема не толькі граматычная, але і стылістычная, бо выбар канчатка моцна звязаны з семантыкай (значэннем) слова.

Паводле патрабаванняў граматыкі канчатак -а (-я) маюць назоўнікі, якія абазначаюць: 1) адушаўлёнасць: агранома, сябра, бабра, салаўя; 2) часткі цела: носа, ілба, хваста; 3) канкрэтныя прадметы і іх часткі: стала, нажа, тэлевізара, рычага, руля; 4) адзінкі вымярэння, у т. л. дакладны час: грама, гектара, літра, года, месяца, чэрвеня, чацвярга; 5) навуковыя і тэхнічныя тэрміны: інтэграла, дыялога, катэта, санета; 6) прадпрыемствы, установы, арганізацыі, вайсковыя падраздзяленні: завода, камітэта, саўгаса, трэста, палка, штаба; 7) агульныя і ўласныя геаграфічныя і астранамічныя назвы і паняцці: ручая, берага, раёна, пасёлка, Мазыра, Нёмана, Марса; 8) танцы і гульні: вальса, хакея, тэніса, покера, прэферанса.

З канчаткам -у (-ю) ужываюцца: 1) рэчыўныя назоўнікі: лёду, алюмінію, аспірыну, пяску, шоўку, супу, кампоту; 2) зборныя назоўнікі: калектыву, натоўпу, багажу, посуду, агрэсту, лесу, гаю, бярэзніку, чабору, бэзу; 3) абстрактныя назоўнікі са значэннем: а) паняццяў, якасцей, прымет: абавязку, гіпнозу, блакіту, ідэалу, настрою; б) дзеянняў, працэсаў, стану, адчуванняў, пачуццяў: адпачынку, бою, набору, працэсу, перапісу, апетыту, сну, спакою; в) напрамкаў у прасторы, месца і недакладнага часу: верху, маршруту, краю, лугу, свету, фармату, часу, моманту; г) грамадскіх фармацый, навуковых тэорый (звычайна з суфіксам -ізм): капіталізму, рэалізму, гуманізму, д) захворванняў: інфаркту, радыкуліту, раку, грыпу, е) з'яў прыроды, стыхійных бедстваў: ветру, галалёду, смерчу, пажару; ё) падзей у асабістым і грамадскім жыцці: экзамену, конкурсу, юбілею, кірмашу, фестывалю. Выключэнні: твару (частка цела), аўса (зборны), хлеба (рэчыўны).

***Заўважце:*** даволі грувасткае правіла размежавання канчаткаў можна выкарыстаць толькі тады, кал і вядома значэнне слова і існуюць навыкі аднясення яго да адпаведнага разраду: бейсбола (гульня), тварагу (рэчыўны), стыку (месца), мыса (геаграфічнае паняцце), прынцыпу (абстрактны), сказа (тэрмін), ампера (адзінка вымярэння), тыражу (зборны), цытрамону (рэчыўны), змроку (з'ява прыроды) і г. д.

У беларускай мове налічваецца прыкладна 200 мнагазначных назоўнікаў і слоў-амонімаў, якія маюць розныя канчаткі ў залежнасці ад значэння слова.[1] Часцей за ўсё патрабуецца рэдагаванне канчаткаў менавіта такіх слоў. Трэба ведаць, напрыклад, што назвы дрэў і назвы матэрыялаў з дрэў маюць розныя канчаткі (канкрэтны і рэчыўны назоўнік); каля дуба, мэбля з дубу; падысці да ясеня, столі к з ясеню. Назоўнікі ў розных трупах могуць адрозніваца наступнымі значэннямі:

— **абстрактны — канкрэтны:** загаду (дзеянне) — загада (дакумент), дагавору (дзеянне) — дагавора (дакумент), з'езду (дзеянне) — з'езда (сход), пропуску (дзеянне) — пропуска (дакумент), пераводу (дзеянне) — перавода (дакумент на грашовае адпраўленне), пад'езду (дзеянне) — пад'езда (частка дома), курсу (напрамак) — курса (год, прадмет), заводу (дзеянне) — завода (прадпрыемства), лістападу (дзеянне) — лістапада (месяц), раку (хвароба) — рака (жывёліна), тэрміну (час) — тэрміна (слова), тромбу (смерч) — тромба (згустак), току (электрарух) — тока (памяшканне) і інш.;

— **зборны — канкрэтны**: апарату (органы) — апарата (прыбор), саду (дрэвы) — сада (установа), парку (дрэвы, сукупнасць транспарту) — парка (месца стаянкі); народу (у зборным значэнні са словамі многа, мала, шмат) — народа (у іншых выпадках), інструменту (сукупнасць прылад) — інструмента (адна прылада) і інш.;

— **рэчыўны — канкрэтны**: бастону (тканіна) — бастона (танец, гульня), каменю (як матэрыял) — каменя (асобны кавалак пароды), індыкатару (рэчыва) — індыкатара (прыбор), бялку (рэчыва) — бялка (частка вока або яйка), тамату (паста) — тамата (адзін памідор) і інш.

Узнікаюць цяжкасці і пры выкарыстанні рэчыўных і абстрактных назоўнікаў, якія ўваходзяць у склад наймення прадпрыемстваў і калектываў. Паводле значэння гэтыя назвы

---

[1] Больш падрабязны разгляд такіх назоўнікаў зроблены ў артыкуле: Жаўняровіч П. Парка ці парку? Асаблівасці семантыкі назоўнікаў мужчынскага роду і яе уздзеянне на канчаткі роднага склону/ П. Жаўняровіч // Роднае слова. 2004 №8 С.33—35; № 9 С. 29—33.

павінны мець канчаткі -а (-я): прадукцыя гродзенскага «Азота», вырабы вілейскага «Зеніта», хакеісты «Крышталя». Каб пазбегнуць такіх супярэчнасцей, пажадана выкарыстоўваць падобныя назоўнікі як нязменныя прыдаткі: прадукцыя Гродзенскага ВА «Азот.», вырабы Віцебскага завода «Зеніт», хакеісты каманды «Крышталъ».

### 4.1.3. Асаблівасці канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду у месным склоне адзіночнага ліку

Канчаткі назоўнікаў мужчынскага роду залежаць не толькі ад характару асновы, але і ад значэння слова. Гэта перш за ўсё датычыцца асабовых назоўнікаў (абазначаюць прозвішчы, імёны, імёны па бацьку, назвы людзей па спецыяльнасці, пасадзе, родзе заняткаў, нацыянальнасці і пад.).

Назоўнікі з зацвярдзелай (на ж, ш, дж, ч, р, ц) і мяккай асновай маюць канчаткі -ы, -і, але асабовыя — канчаткі -у, -ю: у кадры, на катэджы, па зайцы, у продажы, аб выйгрышы, на плашчы, у музеі, на камені, на рублі, аб гандлі, але аб аўтару, аб Ігару, аб Аляксандру, аб гледачу, аб іспанцу, аб Васілю, пры Алесю Івашкевічу, аб герою, аб мужу. Выразы ў цяню, у гаю, аб дню (неасабовыя) лічацца памылковымі (праўка: у цені, у гаі, аб дні).

Назоўнікі з цвёрдай асновай маюць канчатак -е незалежна ад. значэння слова: у місе, па раёне, на з'ездзе, у воцаце, у ліфце, у выглядзе; аб беларусе, аб Іване, аб дэпутаце, аб Івашыне, аб Тарасе Барысаве. Аднак у асабовых назоўнікаў пашыраецца канчатак -у, які падручнік для старэйшых класаў сярэдняй школы кадыфікуе як варыянтны да канчатка -е. Відаць, выбіраючы канчатак, трэба кіравацца мілагучнасцю фразы: аб дзедзе Аркадзю — лепш: аб дзеду Аркадзю, аб Ціце Бялове — лепш: аб Ціту Бялову, аб Ніле Сымонавічу Гілевічу — лепш: аб Нілу Сымонавічу Гілевічу. Іншы выхад з такога становішча заключаецца ў змяненні склону падобных назоўнікаў шляхам удакладнення фразы: Аб Альберце Макаравічу Серабракове — Аб паводзінах (узнагароджанні, заахвочванні) Альберта Макаравіча Серабракова; Далейшыя спрэчкі былі засяроджаны на Мацвею Восіпавічу Кажадубе — Далейшыя спрэчкі былі засяроджаны на паведамленні (дакладзе, выступленні) Мацвея Восіпавіча Кажадуба. Выключэнні ў канчатках неасабовых назоўнікаў нешматлікія: гэта ўстойлівыя выразы на хаду, на ляту, а таксама выраз на пасту (пры абазначэнні месца, пасады): стаяў на пасту, доўгі час знаходзіўся на пасту кіраўніка.

Назоўнікі з асновай на -к заўсёды маюць канчатак -у: у замку, на блоку, у банку, аб парушальніку, пры ўладальніку, у Мінску, аб Краўчуку.

Назоўнікі з асновай на -г, -х у пераважнай большасці маюць таксама канчатак -у: на рынгу, у Гонконгу, аб выбуху, у тварагу, на мітынгу, на Бугу, аб Алегу, аб моху (імху). Некалькі ўласнабеларускіх на- зоўнікаў (іх трэба запомніць) змяняюць зычную асновы -г —>-з, -х —>-с і маюць канчатак -е: *астрог — у астрозе, бераг — на беразе, верх — на версе, гарох— у гаросе, кажух — у кажусе, круг — у крузе, луг — на лузе, нарог — на нарозе, начлег — на начлезе, наверх — на паверсе, нарог — на парозе, плуг — на плузе, рог — на розе, снег — у снезе, стог — на стозе, струг — у струзе* і некаторыя іншыя.

Назоўнік двор мае розныя канчаткі ў залежнасці ад значэння слова: калі абазначае «не ў памяшканні», «на адкрытым паветры», «у прыродзе», то мае качатак -э, калі абазначае «месца каля будынкаў» — канчатак -ы: Адпачываем на дварэ; На дварэ пахаладнела; Паставіць лаўку ў двары. Форма на розе выкарыстоўваецца тады, калі рог адносіцца да жывёлы; форма на рагу — калі рог абазначае вугал: на розе каровы — на рагу вуліцы.

### 4.1.4. Асаблівасці канчаткаў назоўнікаў у родным склоне множнага ліку

Правільны выбар канчатка назоўніка ў родным склоне множнага ліку залежыць ад прыналежнасці да тыпу скланення.

1. Назоўнікі І скланення (жаночага роду з канчаткамі -а, -я) маюць нулявы канчатак, калі аснова заканчваецца на адну зычную: баз, змен, куль, ліній, моў, палат, стрэх, і канчаткі -аў, -яў, калі аснова заканчваецца збегам зычных: спазмаў, паверхняў, ваннаў, мышцаў, просьбаў, скаргаў (пры апошнім -к у збегу зычных — нулявы канчатак з узнікненнем беглай галоснай -ä-, -е- папак, бутэлек, касілак, талерак).

Вялікая група назоўнікаў са збегам зычных паралельна можа ўжывацца з нулявым і поўным канчаткам, але, кіруючыся вышэйпры- гаданым спосабам, поўны канчатак таксама будзе правільным: дамб — дамбаў, секунд — секундаў, лінз — лінзаў, каманд — камандаў, норм — нормаў, казарм — казармаў, соцень — сотняў.

Стылістычна абмежаваныя мастацкім і размоўным стылямі поўныя канчаткі ў назоўнікаў без збегу зычных на канцы асновы: бярозаў, моваў, перспектываў, групаў, тысячаў; у афіцыйна-

справавым стылі павінны выкарыстоўвацца формы бяроз, моў, перспектыў, груп, тысяч (але: роляў, шаляў).

Назоўнікі II скланення (мужчынскага роду без канчаткаў і ніякага роду) маюць асноўныя канчаткі -аў, -яў, -оў, -ёў незалежна ад роду: вучняў, сяброў, рублёў, дакументаў, стагоддзяў, кілаграмаў, лімонаў, міністэрстваў, правоў, разоў, войскаў, гадоў, мораў, месцаў, вокнаў.

Нулявы канчатак маюць назоўнікі, якія абазначаюць назвы электрычных і магнітных адзінак вымярэння: ампер, вольт, ом, рэнтген і інш.

Паралельныя формы могуць выкарыстоўвацца ў некаторых найменнях асоб па нацыянальнасці і родзе заняткаў: башкіраў — башкір, цыганоў — цыган, балгараў — балгар, салдатаў — салдат, а таксама: крылаў — крыл, броваў — броў (у апошні час перавага аддаецца першай форме).

Назоўнікі III скланення (жаночага роду без канчаткаў) маюць канчатак -ей пад націскам і паралельныя канчаткі -ей і -яў не пад націскам: абласцей, гусей, часцей, бандэролей — бандэроляў, сувязей — сувязяў, мадэлей — мадэляў, ведамасцей — ведамасцяў (параўн. таксама: рэчаў, даляў, начэй, мышэй).

Пры выбары формаў некаторых назоўнікаў (напрыклад, множналікавых) могуць узнікаць цяжкасці, таму трэба звяртацца да слоўнікаў: грошай, ведаў, тэфтэляў, ясляў, абставін, зносін, паводзін, дроў, круп, людзей, грудзей, дзвярэй, дражджэй і інш.

Выкарыстаўшы ў тэксце які-небудзь варыянтны канчатак назоўніка, пры яго паўтарэнні ў тым жа склоне трэба ўжываць аднолькавую форму. Напрыклад, выбраўшы ў пачатку тэксту фірмаў і каштоўнасцяў, нельга ў далейшым выкарыстоўваць формы фірм і каштоўнасцей, бо гэта будзе стылістычнай памылкай.

### 4.1.5. Асаблівасці некаторых формаў назоўнікаў

Назоўнікі I скланення з асновай на -г, -к, -х у давальным і месным склонах адзіночнага ліку змя- няюць зычную асновы і маюць канчаткі: -г ->-з —е; -.х —>-с—е, -к —-ц — ы (не пад націскам) або -э (пад націскам): дзякуючы перамозе, на страсе, у аптэцы, на рацэ. Звычайная няўважлівасць або няўменне вызначаць склон назоўніка выклікае прыкрыя памылкі: вынікі закупцы (Р. скл., праўка: закупкі) збожжа; аб данцы (М. скл., канчатак пад націскам, праўка: дачцэ) кіраўніка; гэтай цацке (Д. скл., кіраўніка: цацкы) патрабуецца рамонт; аб мухе (М.скл., праўка: мусе) цэцэ.

Сустракаюцца памылкі ў выкарыстанні канчатка -і назоўнікаў I скланення з мяккай асновай: аб песне (праўка: песту, дапамога ў гульне (праўка: гульні); па пустыне (праўка: пустыні).

Стылістычна абмежаваныя выкарыстаннем у мастацкім, публіцыстычным і размоўным стылях канчаткі назоўнікаў I скланення ў творным склоне адзіночнага ліку -ою, -ёю, -аю, -яю; у тэкстах афіцыйна-справавога і навуковага стыляў выкарыстоўваюцца -ой, -ёй, -ай, -яй; заключыць дагавор з фірмаю (праў- ка: фірмай) «Квант»; абкласці кафляю (праўка: кафляй).

3. Не ўжываюцца ў афіцыйна-справавым і навуковым стылях формы некаторых назоўнікаў III скланення ў творным склоне адзіночнага ліку: даланёй замест далонню, крывёй замест кроўю; але: моцай (нельга моццў).

4. Ад некаторых канкрэтных назоўнікаў можа ўтварацца як форма множнага ліку, так і зборная форма, напрыклад: корань — карані (мн. л.) — карэнне (адз. л., зборны назоўнік). З-за змешвання дзвюх формаў узнікаюць памылкі, якія могуць выпраўляц- ца двума спосабамі: у выніку ўздзеяння рэнтгенаўскіх праменняў...; праўка 1: рэнтгенаўскіх прамянёў (промняў)... і праўка 2:рэнтгенаўскага прамення... Да такіх назоўнікаў адносяцца ліст, камень, пяро, бервяно, колас, галіна і інш.

5. Назоўнікі — назвы маладых істот у беларускай мове маюць ніякі род і канчаткі -я або -ё: дзіця, жарабя(е), цяля(е), ягня(ё), а пры дапамозе суфікса - ян- (-ан-) утвараюцца новыя формы: целяня, кенгураня, ільвяня. Пры скланенні ў адзіночным ліку ў Р., Д. і М. склонах назоўнікі набываюць устаўку — яц-і; канчатак -і; у творным склоне ўстаўка страчваецца, а назоўнік мае канчатак -ём (-ом); у множным ліку падобныя назоўнікі набываюць устаўку -ят-: без парасяці, даць корм жарабяці, карова з цялём, разам з дзіцем (дзіцём — размоўная форма), заапарк напоўніўся цюлянятамі.

6. Агульныя назоўнікі набываюць канчаткі ў залежнасці ад роду асобы: з маці-адзіночкай, з бацькам-адзіночкам, аб забойцы (ж. р.), аб забойцу (м. р.). Падобным чынам змяняюцца размоўныя формы імён: аб Сашы (ж. р.), аб Сашу (м. р.), пры Жэні (ж. р.), пры Жэню (м. р.). Сірата змяняецца заўсёды як назоўнік жаночага роду: з сіратой Вольгай, з сіратой Мікалаем.

7. Назоўнік маці ўжываецца пераважна ў адной форме ва ўсіх склонах адзіночнага і множнага ліку (можа таксама змяняцца з устаўкай -ер-): без сваёй маці, многія маці; абышліся без маці некаторых выхаванцаў. Назоўнік дзяўчына ў множным ліку мае фор- му дзяўчаты (не дзяўчыны, форма дзяўчыны ўжываецца толькі з

лічэбнікамі два, тры, чатыры): шмат дзяўчат, заводскія дзяўчаты, але: тры дзяўчыны.

8. Стылістычныя адрозненні выяўляюцца ў варыянтах канчаткаў некаторых назоўнікаў у творным склоне множнага ліку. Сярод іх людзі: людзьмі і людзямі (разм.); грудзі: грудзьмі і грудзямі (разм.); госці: гасцямі і гасцьмі (разм.); косці: касцямі і касцьмі (разм.), параўн.: палегчы касцьмі; слёзы: слязамі і слязьмі (разм.), п а р а ў н .: заліцца слязьмі; грошы: грашамі і грашыма, грашмі (разм.); дзверы: дзвярамі, дзвярыма і дзвярмі (разм.); вочы: вачамі, вачыма і вачмі (разм.); плечы: плячамі, плячыма і плячмі (разм.), вушы: вушамі і вушыма, вушмі (разм.).

9. Найменні населеных пунктаў, якія маюць форму ніякага роду, скланяюцца як агульныя назоўнікі: пад Гроднам, у Маладзечне, за Жодзінам, у Заполлі, паміж Сянном і Лепелем, у Астрыне.

### 4.1.6. Асаблівасці ўжывання прозвішчаў

1. Скланяюцца мужчынскія прозвішчы на зычны, акрамя прозвішчаў на -ых і націскное -о: аб Кавальчуку, аб Кісялю, пры Сувораве(у), разам з Барысавым, Вялюгіным (параўн.: над Кобрынам, Барыса- вам, Талачыном — гарадамі); але: дапамагчы Барановых, без Сусло. Замежныя прозвішчы на -ын (-ін) у творным склоне маюць канчатак -ам: Грынам, Дар- вінам.

2. Не скланяюцца жаночыя прозвішчы на зычны і на націскное -о: аб Вользе Кавальчук, разам з Галінай Лобан, без Юліі Яско.

3. Прозвішчы, якія суадносяцца з прыметнікамі, змяняюцца як прыметнікі: Васілеўскага, Васілеўскай; Тарчэўскім, Тарчэўскай. Падобныя прозвішчы на -ой захоўваюць націск на канчатку: Талстога, Крамскога.

4. Прозвішчы на -га, -ка, -ха, якія ўзыходзяць да назваў прадметаў жаночага роду з ненаціскным канчаткам, павінны скланяцца па-рознаму ў залежнасці ад полу асобы. Прадэманструем гэта ў табліцы:

Табліца 3

| Склон | Мужчынскі род | Жаночы род |
|---|---|---|
| Н. | *Фёдар Кніга, Аляксандр Саладуха, Мікалай Сарока* | *Інга Кніга, Зоя Саладуха, Маргарыта Сарока* |
| Р. | *Фёдара Кнігі, Аляксандра Саладухі, Мікалая Сарокі* | *Інгі Кнігі, Зоі Саладухі, Маргарыты Сарокі* |
| Д. | *Фёдару Кнігу, Аляксандру Саладуху, Мікалаю Сароку* | *Інзе Кнізе, Зоі Саладусе, Маргарыце Сароцы* |
| В. | *Фёдара Кнігу, Аляксандра Саладуху, Мікалая Сароку* | *Інгу Кнігу, Зою Саладуху, Маргарыту Сароку* |
| Т. | *Фёдарам Кнігам, Аляксандрам Саладухам, Мікалаем Сарокам* | *Інгай Кнігай, Зояй Саладухай, Маргарытай Сарокай* |
| М. | (аб) *Фёдару Кнігу, Аляксандру Саладуху, Мікалаю Сароку* | (аб) *Інзе Кнізе, Зоі Саладусе, Маргарыце Сароцы* |

5. Прозвішчы на -а, -я (акрамя ўказаных у п. 4), якія ўзыходзяць да назваў прадметаў жаночага роду з ненаціскным і націскным канчаткам, скланяюцца як назоўнікі І скланення незалежна ад полу асобы: Кацярынай Дзюбай, Вікенціем Дзюбай, Карнеем Пчалой, Дзянісам Сумятнёй; аб Кацярыне Дзюбе, Вікенцію Дзюбе, Карнею Пчале, Дзянісею) Сумятні. Дарэчы, мужчынскія імёны Ілья, Кузьма змяняюцца падобным чынам: Ільёй, Кузьмой; аб Ільі, Кузьме.

6. Прозвішчы на -а, якія паходзяць ад назваў прадметаў ніякага роду, скланяюцца пры абазначэнні асоб мужчынскага полу, і не скланяюцца пры абазначэнні асоб жаночага полу: Нічыпарам Шылам, Любоўю Шыла; аб Нічыпару Шыле, Любові Шыла.

7. Прозвішчы на -а, -я, якія не суадносяцца з назвамі прадметаў, скланяюцца ў тым выпадку, калі адносяцца да мужчыны (як у левай калонцы табл. 3): з Бандарэнкам, Каратчэнем; аб Бандарэнку, Каратчэню.

Няма агульнага пункту гледжання наконт скланення такіх прозвішчаў, калі яны адносяцца да жанчыны: або скланяць, як у правай калонцы табл. 3, або зусім не скланяць: з Дар'яй Бандарэнкай, Хрысцінай Каратчэняй; аб Дар 'і Бандарэнцы, Хрысціне Каратчэні

або з Дар 'яй Бандарэнка, Хрысцінай Каратчэня; аб Дар'і Бандарэнка, Хрысціне Каратчэня.

Прозвішчы, адзначаныя ў пунктах 4 — 7, пажадана скланяць паводле ўзору табл. 3, што нашмат аблягчае іх ужыванне і канкрэтызуе род асобы ў тэксце. Пакуль жа сакратар павінен выбраць аднастайны варыянт і карыстацца ім у дачыненні да падобных прозвішчаў.

## 4.2. АСАБЛІВАСЦІ ЎЖЫВАННЯ ПРЫМЕТНІКАЎ

Прыметнік як часціна мовы, якая абазначае прымету прадмета, шырока прадстаўлены ў афіцыйна-справавым стылі. З трох разрадаў (якасныя, адносныя і прыналежныя) часцей ужываюцца якасныя і адносныя.

Існуюць стылістычныя асаблівасці некаторых склона вых формаў прыметнікаў жаночага роду адзіночнага ліку. Канчаткі роднага склону ас. -ое, -яе і творнага -аю, -ою, -яю з'яўляюцца прыналежнасцю мастацкага стылю, таму ў мове дакументаў не выкарыстоўваюцца: захаванне старадаўняе (праўка: старадаўняй) традыцыі; здавалася новаю (праўка: новай) тэмай.

Прыналежныя прыметнікі (дырэктараў подпіс, Васілёвы рэчы, гаспадыніна клапатлівасць) у афіцыйных тэкстах практычна не прадстаўлены, а. замяняюцца іменнымі словазлучэннямі (подпіс дырэктара, рэчы Васіля, клапатлівасць гаспадыні).

Аднак у вусным маўленні неабходна захоўваць асноўныя правілы ўтварэння і ўжывання прыналежных прыметнікаў. Яны маюць суфіксы -аў (-ав-), -оў (-ое-), -еў, (-ее-), -ёў (—ёв—), калі ўтвораны ад назоўнікаў мужчынскага роду, і суфіксы -ш, -ын (пры гэтым змяняецца зычная асновы к — ч), калі ўтвораны ад назоўнікаў жаночага роду: бацькаў пінжак, бацькава шапка, Міхасёвы жарты, Марыніна сястра, цётчыны прылады. Лічыцца памылкай змешванне суфіксаў пры наложных прыметнікаў: Жэніны падручнікі (пра хлопца), трэба: Жэневы; Васін сябар, трэба: Васеў.

Такім чынам, адрозніваюцца прыналежнасцю да мужчыны і жанчыны прыметнікі Шураў і Шурын, Сашаў і Сашын, Жэнеў і Жэнін. Параўнайце таксама няправільныя выразы: Скарыніны выданні, Скарынінскія чытанні (праўка: Скарынавы выданні, Скарынаўскія чытанні).

### 4.2.1. Ужыванне кароткіх прыметнікаў

Прыметнік у функцыі азначэння заўсёды выкарыстоўваецца ў поўнай форме: Пры здачы сельгаспрадукцыі грамадзянінам, які пастаянна пражывае ў сельскай мясцовасці Рэспублікі Беларусь, прадстаўленне даведак мясцовых Саветаў не патрабуецца, а ў функцыі выказніка часам можа сустракацца і кароткая форма: Мы гатовы Вам дапамагчы.

Варта зазначыць, што кароткія формы прыметнікаў у функцыі выказніка ўжываюцца пераважна ў паэтычных творах, у фразеалагізмах, у прыказках і прымаўках, г. зн. у мастацкім і размоўным стылях: Спахмурнелі чорны бровы... (Я.Купала), Як жыў-здароў?; Кожны кулік на сваім балоце вялік. У афіцыйна-справавым стылі кароткія формы лічацца памылковымі: Надзея на Вашу кампанію ілюзорна (праўка: ілюзорная).

Прыметнікі згодны, рады, гатовы, павінны ў мужчынскім родзе могуць мець паралельныя формы: Завод згодзен (гатоў, рад, павінен) прыняць прапановы і Завод згодны (гатовы, рады, павінны) прыняць прапановы; у жаночым, ніякім родзе і множным ліку поўныя формы ўспрымаюцца стылістычна абмежаванымі: Фірма згодная (гатовая, радня, павінная) узгадніць план, трэба: Фірма згодна (гатова, рада, павінна) узгадніць план.

### 4.2.2. Асаблівасці ступеняў параўнання прыметнікаў[2]

Якасныя прыметнікі могуць мець вышэйшую і найвышэйшую ступені параўнання, якія паказваюць на праяўленне прыметы ў большай ці ў меншай ступені. Ступені параўнання могуць быць простымі і састаўнымі.

Вышэйшая ступень параўнання (простая форма) мае суфіксы -ейш-, -эйш- і канчаткі прыметнікаў: святлейшы, прыгажэйшы. Чатыры прыметнікі ўтвараюць гэту форму ад іншай асновы: вялікі — большы, малы — меншы, добры — лепшы, дрэнны — горшы. Састаўная форма ўтвараецца далучэннем слоў больш (менш) да прыметніка: больш светлы, менш якасны. Пры наяўнасці аб'екта параўнання выкарыстоўваецца прыназоўнік за (з В. скл.), часам злучнікі як, чым: Магазін большы за ЦУМ; Тавары больш якасныя, чым у фірме «Страла».

[2] Больш падрабязны разгляд тэмы зроблены ў артыкуле: *Жаўняровіч П.* Ступені параўнання прыметнікаў і прыслоўяў: словаформы і сінтаксічныя сувязі / П. Жаўняровіч // Роднае слова. 2000. № 8. С. 73-76; № 10. С. 30-32.

Памылкі пры ўжыванні вышэйшай ступені параўнання выкліканы адсутнасцю правільнага суфікса, канчаткаў і прыназоўніка (злучніка): Сярэдняя заработная плата на дзяржаўных прадпрыемствах нават крыху вышэй, чым у нас; праўка: вышэйшая; Вышыня перакладзіны варот аказалася на 12 см ніжэй нормы; праўка: ніжэйшая за норму. Акрамя таго, могуць змешвацца простая і састаўная формы: Гэта дазволіла на аснове месцанараджэння наладзіць выпуск больш чысцейшай пітной вады; праўка: больш чыстай.

Найвышэйшая ступень параўнання (простая форма) мае прыстаўку най-, якая далучаецца да простай формы вышэйшай ступені: найгусцейшы, наймацнейшы. Састаўная форма ўтвараецца далучэннем слоў самы, найбольш (найменш) да прыметніка: самы дзейсны метад, найбольш складаная праблема.

Памылкі пры ўжыванні найвышэйшай ступені заключаюцца ў адсутнасці прыстаўкі най-: Студэнцкія будаўнічыя атрады інстытута працавалі на важнейшых аб'ектах Магілёўскай вобласці; праўка: найважнейшых. Вялікае значэнне пры рэдагаванні мае кантэкст: Мы выпускаем цяпер якаснейшую прадукцыю; трэба даведацца, выпраўляць больш якасную, чым раней або самую якасную.

Простыя формы найвышэйшай ступені параўнання звычайна экспрэсіўныя, таму яны павінны замяняцца састаўнымі формамі, да якіх могуць далучацца выразы адзін з (адна з...): Не надта добра рэалізуе прадукцыю найважнейшы падаткаплацельшчык раёна; праўка: самы важны, Гэта — найскладанейшая задача; праўка: адна з самых складаных.

Некаторыя варыянты простых формаў ступеняў параўнання адрозніваюцца па значэнні: найвялікшы — выдатны; геніяльны, таленавіты, найбольшы выкарыстоўваецца ў іншых значэннях; малодшы, старшы з'яўляюцца часткамі ў назвах пасад і званняў (малодшы сяржант, старшы эканаміст) і ў яшчэ некаторых выпадках (малодшыя класы, малодшая сястра, але: старэйшы брат); пры ўказанні на ўзрост выкарыстоўваюцца формы маладзейшы, старэйшы.

Варыянты слоў болей, меней, найболей, найменей (замест больш, менш, найбольш, найменш), якія далучаюцца да састаўных формаў ступеняў параўнання, не выкарыстоўваюцца ў афіцыйна-справавым стылі. Асобна словы больш, менш, лепш, горш, ніжэй, вышэй і да іх пад. з'яўляюцца формамі вышэйшай ступені параўнання прыслоўяў, пры выкарыстанні якіх захоўваюцца за, чым, як: больш за 25%; менш за вызначаную норму; вышэй за нуль; працавалі горш, чым летась. Няправільна: больш тысячы рублёў; праўка: больш за тысячу рублёў.

## 4.3. АСАБЛІВАСЦІ ЎЖЫВАННЯ ЛІЧЭБНІКАЎ

Лічэбнік абазначае колькасць, сукупнасць або парадах прадметаў пры лічэнні. Паводле значэння вылучаюцца колькасныя, парадкавыя і зборныя лічэбнікі, паводле структуры — простыя, складаныя і састаўныя: шэсцьдзесят — колькасны складаны, трое — зборны просты, семдзесят пяты — парадкавы састаўны. У тэкстах фінансавых дакументаў часта ўзнікаюць выпадкі запісу лічбаў словамі, таму веданне асноўных патрабаванняў пры ўжыванні лічэбнікаў мае вялікае значэнне. Другая неабходнасць — патрэба чытання тэксту ў афіцыйнай абстаноўцы, калі запісаныя лічбы трэба прагаворваць.

### 4.3.1. Асаблівасці склонавых формаў лічэбнікаў

***1. Колькасныя лічэбнікі***

Пры ўжыванні лічэбніка адзін можа дапускацца памылка ў канчатках: адным чалавекам (праўка: адным), аднімі намі (праўка: адным).

Лічэбнікі два, дзве захоўваюць адрозненні ў родзе ва ўсіх склонах: двух актаў, дзвюх пастаноў, аб двух выпадках, на дзвюх станцыях.

У творным склоне лічэбнікі два, дзве, тры, чатыры маюць канчатак —ма: з двума заказамі, разам з дзвюма тонамі, з трыма амперамі, з чатырма экзаменамі.

Лічэбнікі пяць — дваццаць і трыццаць скланяюцца як назоўнікі III скланення (радасць, соль), г. зн. у Р., Д. і М. склонах маюць канчатак —і, у творным — -ю (паміж галоснымі -ц- падаўжаецца): пяці, шасці, сямі, васьмі, дзевяці, дзесяці, адзінаццаці — трыццаці; пяццю, шасцю, сямю, васьмю, дзевяццю, дзесяццю, адзінаццаццю — трыццаццю.

Лічэбнік дзевяноста мае адну форму ва ўсіх склонах.

Лічэбнікі сорак, сто ва ўскосных склонах маюць формы сарака, ста.

Складаныя лічэбнікі пры скланенні павінны змяняць кожную частку слова: сямідзесяці, пяццюдзесяццю, васьмюдзесяццю. Лічэбнікі ад двухсот да дзевяцісот маюць пры скланенні наступныя формы другой часткі: Р. -сот, Д. -стам, Т. -стамі, М. -стах: дзвесце — двухсот, трыста — тромстам, чатырыс- та — чатырмастамі, восемсот — васьмюстамі.

У састаўных лічэбніках змяняецца кожная частка: аб 2875 рублях — аб дзвюх тысячах васьмістах сямідзесяці пяці рублях; разам з 20 680 знакамі — разам з дваццаццю тысячамі шасцюстамі васъмюдзесяццю знакамі.

**2. Парадкавыя лічэбнікі**

Простыя (першы, другі, трэці, чацвёрты, пяты, шосты, сёмы, восьмы, дзевяты, дзесяты), складаныя і састаўныя парадкавыя лічэбнікі маюць канчаткі прыметнікаў.

Пры скланенні састаўных парадкавых лічэбнікаў скланяецца толькі апошняе слова: трыццаць сёмага, сто восемдзесят дзевятай.
Гэта патрабаванне захоўваецца пры ўжыванні года: у тысяча дзевяцьсот дзевяноста другім годзе. Сучасная моўная практыка дае прыклады ненарматыўных формаў: *у двухтысяч трэцім годзе, пасля двухтысячна шостага года.* Трэба запомніць, што на тысячу гадоў наперад у падобных лічэбніках не зменіцца частка дзве тысячы: *у дзве тысячы трэцім годзе, пасля дзве тысячы шостага года, а ў далёкай будучыні будзе і дзве тысячы сто пятнаццаты год.*

Гэтыя памылкі выклікаsuccessfully формамі парадкавых лічэбнікаў, якія заканчваюцца на -тысячны, -мільённы, -мільярдны; першая частка слова ў іх ставіцца ў родным склоне і не змяняецца, а скланяецца толькі другая частка: у двухтысячным годзе, чатырохсотдваццаціпяцітысячная дэталь. Памылкі ў падобных лічэбніках, а таксама ў складаных назоўніках і прыметніках заключаюцца ў непастаноўцы першай часткі ў родным склоне: на семдзесяттысячным кіламетры (праўка: сямідзесяцітысячным); васемсотпяцідзесяцігоддзе горада (праўка: васьмісотпяцідзесяцігоддзе).

**3. Зборныя лічэбнікі**

Зборных лічэбнікаў налічваецца абмежаваная колькасць: абодва, абедзве, абое, двое, трое, чацвёра, пяцёра, шасцёра, сямёра, васьмёра, дзевяцера, дзесяцера. Пры скланенні лічэбнікі абодва, абедзве змяняюцца як лічэбнікі два, дзве: абодвух, абедзвюх, абодвума, абедзвюма, а ў астатніх націск пераходзіць на канчатак: аба іх, абаімі (нельга абоіх, абоімі), чацвярых, пяцярым, семярым, васьмярымі, дзевяцярых, дзесяцярымі.

**4.3.2. Асаблівасці дробавых лічэбнікаў**

Дробавыя лічэбнікі абазначаюць дробавую частку адзінкі і змешаную колькасць. Лічнік дробу з'яўляецца колькасным лічэбнікам,

а назоўнік дробу — парадкавым: адна шостая, нуль цэлых пяць дзесятых, дзевяць і дзве сотыя.

Калі ў лічніку дробу знаходзяцца лічэбнікі два, тры, чатыры, то ў Н. і В. склонах назоўнік дробу мае канчатак -ія (-ыя); кал і ў лічніку дробу знаходзяцца большыя лічбы (якія не заканчваюцца на два, тры, чатыры), то ў Н. і В. склонах назоўнік дробу мае канчатак -іх (-ых): дзве трэція, чатыры семнаццатыя, дваццаць дзве сямідзесятыя; але: сем дзесятых, трыццаць восем тысячных. Гэту асаблівасць мае і слова цэлая ў змешанай лічбе: пяць цэлых і тры дзесятыя, трыццаць чатыры цэлыя і дзевяць сотых.

Лічэбнік паўтара ўжываецца з назоўнікамі мужчынскага роду, а паўтары — жаночага: паўтара яблыка, паўтары шклянкі. Пасля гэтых нязменных лічэбнікаў назоўнікі маюць наступныя формы: Н. паўтара кілаграма, паўтары тоны; Р. паўтара кілаграма, паўтары тоны; Д. паўтара кілаграмам, паўтары тонам; В. паўтара кілаграма, паўтары тоны; Т. паўтара кілаграмамі, паўтары тонамі; М. (аб) паўтара кілаграмах, паўтары тонах.

Адзінкі вымярэння пасля дробавых лічэбнікаў ставяцца ў Р. склоне адзіночнага ліку: 0,7 метра, 16,1 гектара; нельга 85,3 тон (праўка: тоны). Іншыя канкрэтныя назоўнікі могуць мець адзіночны або множны лік у залежнасці ад значэння выразу: вынеслі з бібліятэкі 2/3 кніг, адрэдагаваць 2/3 кнігі.

### 4.3.3. Спалучэнне колькасных і зборных лічэбнікаў з назоўнікамі

1. Колькасныя лічэбнікі два, тры, чатыры (і састаўныя, якія заканчваюцца на два, тры, чатыры) у Н. і В. склонах патрабуюць ужывання назоўнікаў з канчаткамі -/, -ы і залежных прыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў і займеннікаў з канчаткамі -ія, -ыя (-ы, -е): чатыры метры, дваццаць тры хворыя, трыццаць два вучні, сорак чатыры ачкі; тры першыя класы, дзве паўгадавыя справаздачы, пяцьдзесят тры дарожна-транспартныя здарэнні, две вашы праблемы, тры свае канспекты. У беларускай мове на гэта патрабаванне не ўплывае род залежных назоўнікаў: тры новыя сталы і тры новыя парты.

2. Пасля колькасных лічэбнікаў ад пяці і больш (акрамя састаўных, якія заканчваюцца на два, тры, чатыры) залежныя словы ставяцца ў родным склоне множнага ліку: восем пройдзеных этапаў, пятнаццаць ампер, восемдзесят пяць рабочых.

3. Лічэбнік *абодва* спалучаецца з назоўнікамі мужчынскага або ніякага роду, абедзве — з назоўнікамі жаночага роду: абодва практыкаванні, абедзве лініі прастойваюць. Для абазначэння асоб і

мужчынскага, і жаночага полу ўжываецца лічэбнік абое: За выкананне плана адказвaеце абое (г. зн. ён і ян а).

4. Не спалучаюцца са зборнымі лічэбнікамі назоўнікі жаночага роду і неасабовыя назоўнікі мужчынскага роду: трое настаўніц запрошаны... (праўка: тры настаўніцы), заказалі двое сталоў (праўка: два сталы).

5. Могуць спалучацца як з колькаснымі, так і са зборным! лічэбнікамі наступныя назоўнікі:
а) асабовыя мужчынскага роду: два студэнты і двое студэнтаў;
б) назвы маладых істот: пяць цялят і пяцёра цялят;
в) якія маюць форму прыметнікаў (субстантываваныя): тры ваенныя, трое ваенных.

Перавага аддаецца колькаснаму лічэбніку пры спалучэнні з асобамі высокага службовага становішча: тры міністры, а не трое міністраў.

6. Множналікавыя назоўнікі маюць наступныя спалучальныя асаблівасці:

а) дапускаецца спалучэнне са зборнымі лічэбнікамі двое, трое, чацвёра; не дапускаецца — з колькаснымі два, тры, чатыры: двое шчыпцоў, трое варот (два ці дзве шчыпцы, тры вароты — памылковыя выразы);

б) дапускаецца спалучэнне паралельна са зборнымі лічэбнікамі пяцёра — дзесяцера і колькаснымі пяць — дзесяць: пяць нажніц і пяцёра нажніц:

в) дапускаецца спалучэнне толькі з колькаснымі лічэбнікамі ад адзінаццаці і больш (акрамя састаўных, якія заканчваюцца на два, тры, чатыры): семнаццаць абцугоў, дзевяноста дзевяць сутак;

г) у выпадку неабходнасці спалучэння з састаўнымі лічэбнікамі, якія заканчваюцца на два, тры, чатыры (нельга: трыццаць тры сані), выкарыстоўваюцца апісальныя выразы са словамі "у колькасці", "на працягу": Выпісаць са склада для рамонтных работ 43 абцугі: праўка: Выпісаць са склада для рамонтных работ абцугі ў колькасці сарака трох; Дождж цягнуўся 22 суткі; праўка: Дождж цягнуўся 22 дні і ночы або Дождж ішоў на працягу дваццаці двух сутак. Не лепшыя варыянты праўкі атрымліваюцца пры выкарыстанні слова штука: Прададзена дваццаць чатыры штукі акуляраў; больш прымальны варыянт: Прададзены акуляры ў колькасці дваццаці чатырох.

7. Зборныя лічэбнікі могуць выкарыстоўвацца пры лічэнні прадметаў парамі, а колькасныя — пры ўказанні на адзінкавыя прадметы: двое туфляў (дзве пары), два туфлі (дзве адзінкі).

8. Толькі зборныя лічэбнікі ўжываюцца з асабовымі займеннікамі: Іх было трое (нельга: тры); Адказалі нам пяцярым (нельгаа: пяці).

## 4.4. АСАБЛІВАСЦІ ЎЖЫВАННЯ ЗАЙМЕННІКАЎ

Займеннік указвае на прадметы, прыметы ці на колькасць, не называючы іх. Традыцыйна займеннікі падзяляюць на 9 разрадаў у адпаведнасці са значэннем: 1) асабовыя (я, мы, ты, вы, ён, яно, яна, яны); 2) зваротны (сябе); 3) прыналежныя (мой, твой, свой, наш, ваш); 4) указальныя (гэты, той, такі, гэтакі, столькі, гэтулькі); 5) азначальныя (сам, самы, увесь, усякі, кожны, іншы); 6) пытальныя (хто?, што?, які?, чый?, каторы?, колькі?); 7) адносныя (хто, што, які, чый, каторы, колькі); 8) адмоўныя (ніхто, нішто, ніякі, нічый); 9) няпэўныя (нехта, нешта, некаторы, нейкі, нечы, хтосьці, што-небудзь, абы-які і інш.).

1. Неасабовы характар тэкстаў афіцыйна-справавога стылю выклікае рэдкае ўжыванне асабовых займеннікаў (загадваю, просім у пэўна-асабовых сказах без займеннікаў).

Пры выкарыстанні займеннікаў 3-яй асобы (ён, яно, яна, яны) павінна быць дакладна вызначана, заменнікамі якога назоўніка яны з'яўляюцца, у адваротным выпадку ўзнікае незразумеласць: Інжынер папрасіў сакратара выправіць яго тэкст. Узнікае пытанне: «Чый тэкст: сакратара ці інжынера?» Сказ можна адрэдагаваць наступным чынам: З просьбай выправіць свой тэкст інжынер звярнуўся да сакратара.

Асабовыя займеннікі непажадана выкарыстоўваць замест зборных назоўнікаў, якія маюць адзіночны лік, але ўказваюць на множнасць прадметаў (асоб):

Перадавікамі часта становіцца моладзь, бо яны неабыякавыя да лёсу аб'яднання людзі. Назоўнік моладзь можна замяніць толькі займеннікам яна, а не яны. Лепш выкарыстаць у сказе канкрэтны назоўнік: Перадавікамі часта становяцца маладыя людзі, бо яны неабыякавыя да лёсу аб'яднання.

2. Зваротны займеннік сябе мае гэту форму ў Р. і В. склонах, а форму сабе — у Д. і М. склонах. Няўважлівасць у вызначэнні склону выклікае памылкі: Каманда КВЗ дазваляла сябе такія жарты... (праўка: сабе).

Адначасова памылкі, ахарактарызаваныя ў п. 1, могуць узнікаць і пры ўжыванні зваротнага займенніка: Старшыня калгаса прапанаваў шаферу пад ехаць да сябе (да каго: старшыні або

шафера?). Сказ можа выглядаць наступным чынам: Старшыня калгаса прапанаваў шаферу пад'ехаць да праўлення.

3. Пры ўжыванні прыналежных займеннікаў могуць парушацца склонавыя формы; мой, твой, свой у Р. склоне адзіночнага ліку маюць канчатак -го, у Д. — -му: майго, твайго, свайго; майму, твайму, свайму.

4. Калі ўказальны займеннік гэты можна суаднесці з некалькімі назоўнікамі папярэдняга выказвання, то ўзнікае незразумеласць: Некаторыя студэнты прапускаюць заняткі, у выніку чаго група не можа выйсці ў пераможцы спаборніцтва і паехаць на фестываль. Аб гэтым нельга маўчаць. Выпраўлены варыянт: Нельга маўчаць аб тым, што некаторыя студэнты прапускаюць заняткі, у выніку чаго група не можа выйсці ў пераможцы спаборніцтва і паехаць на фестываль.

5. Азначальныя займеннікі сам і самі адрозніваюцца склонавымі формамі: сам мае націск на канчатку, самы — на аснове: самога, самому, але самым, самаму. Не дапускаецца выкарыстоўваць памылковыя формы самаго, самаму; параўн.: самога сябе, самому сабе, аб самім сабе Азначальныя займеннікі ўсякі, кожны і любы — сінанімічныя паводле значэння, але маюць сэнсавыя адценні. Усякі выступае з больш агульным значэннем любы з многіх або розны, разнастайны: Бібліятэка абслугоўвае ўсякіх наведвальнікаў (г. зн. разнастайных). Кожны выражае значэнне раздзельнасці, абазначае любы з многіх паасобку: Бібліятэка абслугоўвае кожнага наведвальніка. Любы выдзяляе аднародныя прадметы з ліку іншых: Бібліятэка абслугоўвае любых наведвальнікаў.

6. Адмоўныя займеннікі некага, нечага не характэрныя для беларускай мовы, яны замяняюцца спалучэннямі няма каго, няма чаго: Аб гэтым нечага (праўка: няма чаго) гаварыць; Больш чакаць некага (праўка: няма каго). Нельга пакідаць без увагі і такія памылкі: Дыхаць было няма чым\ праўка: Не было чым дыхаць.

7. Не дапускаецца змешваць спалучэнні не хто іншы, як і не што іншае, як са спалучэннямі ніхто іншы не і нішто іншае не. Першыя два ўжываюцца ў сцвярджальных сказах, дзе часціца не стаіць толькі перад займеннікам, трэцяе і чацвёртае спалучэнні — у адмоўных сказах: Не з кім іншым, як з В. С. Мурашкам, мы правялі якасны рамонт зерняsклада; Нічым іншым, акрамя камп'ютэрных гульняў, ён не цікавіцца. Патрабуецца праўка наступнага сказа: Мы лічым гэты план нічым іншым, як спробай фірмы «Колас» уцягнуць нас у працяглыя судовыя працэсы; праўка: не чым іншым.

## 4.5. АСАБЛІВАСЦІ ЎЖЫВАННЯ ДЗЕЯСЛОВАЎ

Дзеяслоў абазначае дзеянне або стан і адказвае на пытанні што рабіць?, што зрабіць? Вылучаюць спрагальныя і неспрагальныя формы дзеяслова: асабовыя формы — спрагальныя; інфінітыў, дзеепрыслоўе, дзеепрыметнік — неспрагальныя (дзеепрыметнік — скланяльная форма). Для якаснага рэдагавання неабходна ўсведамляць такія граматычныя катэгорыі дзеяслова, як трыванне (закончанае і незакончанае), стан (незалежны і залежны), час (цяперашні, будучы і прошлы), зваротнасць-незваротнасць, пераходнасць-непераходнасць, лад (абвесны, загадны і ўмоўны), асоба (1-ая, 2-ая, 3-яя), лік, род.

### 4.5.1. Асаблівасці некаторых суфіксаў дзеясловаў

1. Іншамоўныя дзеясловы незакончанага трывання могуць утвараць паралельныя формы тыпу інфармаваць — інфарміраваць. Больш характэрныя для беларускай мовы формы з суфіксамі -ава- (-ява-): кантраляваць, інфармаваць, спецыялізавацца, гастраляваць, акупаваць, амніставаць, пілатаваць, функцыянаваць і пад., аднак не ўсе яны зафіксаваны слоўнікамі ў такім выглядзе, што перашкаджае ўжыванню ў тэкстах афіцыйных дакументаў. Без абмежаванняў павінны выкарыстоўвацца формы з суфіксам –ір—, калі без яго дзеяслоў не ўтвараецца: пікіраваць (нельга пікаваць), легіраваць (нельга легаваць); у выпадку наяўнасці паралельных формаў з розным значэннем: газаваць і газіраваць, фармаваць і фарміраваць; пры ўзнікненні сітуацыі з магчымасцю ўспрымання дзеяслова як калькі з рускай мовы: мініраваць (нельга мінаваць, бо ўспрымаецца як рускае миновать; и а - раўн: мінаваць трасу).

2. Могуць узнікаць памылкі пры выкарыстанні дзеясловаў з суфіксам -ава-. Тэты суфікс ужываецца тады, калі ў форме 1-ай асобы адзіночнага ліку дзеяслоў заканчваецца на —ую (-юю): даследаваць (даследую), камандаваць (камандую), здзекавацца (здзекуюся), дзякаваць (дзякую). Параўн. таксама аддзеяслоўныя назоўнікі: даследаванне, расследаванне, камандаванне.

3. Суфікс -іва- (-ыва-) ужываецца тады, калі перад ім ёсць збег зычных з апошняй —л-, —н- або —р-: падтрымліваць, скормліваць, праветрываць. Як можна заўважыць, пры ўтварэнні незакончанага трывання адбываецца чаргаванне зычных: б —бл, п —пл, м —мл, в — ўл (зарубіць — зарубліваць, абумовіць — абумоўліваць).

4. Суфікс -ва- ўжываецца тады, калі перад ім няма збегу зычных або збег зычных заканчваецца не на —л-, —н-, —р-: падпісваць, загадваць, накладваць, наладжваць, адмахвацца, спалосквацъ, падсіньваць.

5. Калі інфінітыў закончанага трывання заканчваецца на —іць, —яць з папярэдняй галоснай, то ў незакончаным трыванні перад суфіксам -ва- замест —і- пішацца й: удастоіць — удастойваць, загаіць — загойвацъ, перасеяць — перасейваць.

6. Перад суфіксамі —ва-, —іва-, —ыва- пад націскам захоўваецца або аднаўляецца —о- (неабходна знайсці аднакаранёвае слова з —о- пад націскам у гэтым складзе): адпрошвацца (просьба), расслойвацца (слой), надойваць (дойка) але: аплачваць (плата).

7. Суфікс -оўва- (-ёўва-) ужываецца ў дзеясловах, якія ў закончаным трыванні заканчваюцца на -аваць (-яваць)'. занатоўваць, абсталёўваць.

8. Існуюць варыянты формаў дзеясловаў незакончанага трывання з розным і суфіксамі: адчапляць — адчэплiваць, атрымлiваць — атрымоўваць, запрашаць — запрошваць, накладаць — накладваць, падлічаць*[3] — падлічваць, падслухваць — падслухоўваць і інш.

9. Перад суфіксам прошлага часу -л- (-ў) захоўваюцца тыя ж галосныя, якія стаяць перад суфіксам -ць інфінітыва: прафкам не прадугледзеў ільготы: многае залежала ад падрыхтоўкі глебы, ён не пасаромеўся гэта зрабіць, рэчы належалі пацярпелы. Такія ж суфіксы павінны быць у інфінітыве састаўнога дзеяслоўнага выказніка і ў інфінітыве безасабовых сказаў са словам і нельга, трэба, неабходна, можна: узнагарода будзе належаць пераможцу, удоі будуць залежаць ад якасці кармлення, неабходна прадугледзець дапамогу малазабяспечаным супрацоўнікам (нельга ва ўказаных выпадках выкарыстоўваць суфіксы -і-, -ы-). Гэтыя дзеясловы могуць мець -і-, -ы- толькі ў канчатках спрагальных формаў: рэч належыць беспрацоўнаму, гэта залежыць ад надвор'я, дырэктар прадугледзіць у сваім дакладзе...

### 4.5.2. Асаблівасці спрагальных формаў

Правільнасць канчаткаў дзеясловаў залежыць перш за ўсё ад ведання асаблівасцей спражэння. Найбольш частыя памылкі сустракаюцца ў формах 1-ай і 2-ой асобы множнага ліку.

---

[3] * Толькі адзначаны зорачкай дзесялоў не фіксуецца слоўнікамі.

Дзеясловы I спражэння маюць канчаткі I -ай асобы множнага ліку — ом, -ём (пад націскам) і -ам, -ем (не пад націскам): бяром, жывём, скажам, будзем; выкарыстанне канчаткаў -эм, -ем пад націскам з'яўляецца змешваннем ладоў дзеяслова: аром (нельга: арэм), ідзём (нельга: ідзем). Дзеясловы И спражэння маюць канчаткі 1-ай асобы множнага ліку -ым, -ім: вырашым, сядзім, высветлім.

У 2-ой асобе множнага ліку дзеясловаў I спражэння ўжываюцца канчаткі -аце, -еце, -яце, а дзеясловаў II спражэння — ыце, —іце. Вельмі важнае значэнне ў гэтых формах мае націск, які прыпадае на склад -це канчатка тады, калі ў 1-ай асобе множнага ліку націск на канчатку (націск на аснове ў дзвюх асобах не змяняецца). Такім чынам, правільныя формы ідзяцё (ідзём), гледзіцё (глядзім), берацё (бяром), возьмеце (возьмем), коціцеся (коцімся), ірвяцёся (ірвёмся), седзіцё (сядзім), стрыжацёся (стрыжомся), сочыце (сочым) і пад.

Некаторыя асаблівасці маюць рознаспрагальныя дзеясловы даць і есці, якія маюць наступныя формы: ем, дам; ясі, дасі; есць, дасць; ядзім, дадзім; ясце, дасце; ядуць, дадуць. Далучаныя прыстаўкі не змяняюць формы дзеяслова: аддасі, прадасі; аддасце, прадасце і інш.

Такім чынам, пры неабходнасці пастаноўкі дзеясловаў у патрэбнай форме трэба кіравацца тыпам спражэння і націскам. Напрыклад, магчымы сказ са службовага пісьма з працягам: Будзем рады, калі Вы: вышлеце нам каталог; аплаціце тавар своечасова; дашляце нам справаздачу; прадаяце такія прадукты; прадасце нашу прадукцыю за адзін месяц; едзеце на канферэнцыю; станеце нашым пакупніком...

Некаторыя рэдкаўжывальныя дзеясловы могуць памылкова спрагацца паводле іншага тыпу спражэння. Сярод іх выдзяляюцца палоць, калоць, пароць, якія павінны мець канчаткі I спражэння: *полеш, колеш, пораш; поле, коле, пора; полем, колем, порам; полеце, колеце, пораце; полюць, колюць, поруць (нельга: коліш, або порым, або поляць).*

### 4.5.3. Некаторыя асаблівасці формаў ладу дзеяслова

У тэкстах афіцыйна-справавога стылю нарматыўным з'яўляецца выкарыстанне замест формы загаднага ладу іншых формаў. Напрыклад, у законах, правілах, статутах, палажэннях выкарыстоўваецца форма 3-яй асобы адзіночнага або множнага ліку залежнага стану: Забараняецца заходзіць за засцерагальную лінію; *За*

*парушэнне правілаў праезду накладаецца штраф; Асобы, якія парушаюць правілы, прыцягваюцца да матэрыяльнай адказнасці.* У загадах і пастановах у якасці загаднага ладу выкарыстоўваецца інфінітыў: Прызначыць адказным за падрыхтоўку да свята нам. дырэктара М. К. Церашчэню; Правесці растлумачальную работу сярод супрацоўнікаў.

У разнастайных інструкцыях (і аб'явах) выкарыстоўваюцца сапраўдныя формы загаднага ладу дзеяслова 2-ой асобы множнага ліку. Яны ўтвараюцца далучэннем часткі —це да формаў адзіночнага ліку, якія маюць пад націскам канчаткі —і, —ы (з некаторымі выключэннямі), а з націскам на аснове ўжываюцца без канчаткаў, напрыклад: уключы — уключыце, зрабі— зрабіце, помні — помніце, выканай — выканайце, эканом — эканомце, будзь — будзьце. Неабходна запомніць, што дзеясловы біць, піць, ліць, віць маюць наступныя формы загаднага ладу: бі — біце, пі — піце, лі — ліце, ві — віце (нельга бійце, лійце або бейце, лейцё).

Прыклады: Станьце роўна і прыхіліцеся грудзьмі да экрана ўстаноўкі; Будзьце ўважлівымі і асцярожнымі; Пераліце кіслату ў большую ёмістасць; Адразу выпіце толькі палову таблеткі; Паслабце павязку і размачыце ў цёплай вадзе; Выберыце найбольш трывалыя расліны.

Некаторыя формы загаднага ладу лічацца размоўнымі: чысцьце (замест чысціце), вынесьце (замест вынесіце), выпішце (замест выпішыце), падойце (замест падаіцё).

Большасць іншых формаў загаднага ладу з'яўляюцца экспрэсіўнымі або размоўнымі і выходзяць за межы нормаў афіцыйна-справавога стылю.

### 4.5.4. Ужыванне зваротных дзеясловаў

Зваротныя дзеясловы маюць постфікс —ся (-цца), які з'яўляецца асноўным сродкам для ўтварэння дзеясловаў залежнага стану: Аб'ект будуецца брыгадай С. В. Сіпача будтрэста №...; Старшым лабарантам правяраецца ўтрыманне шкодных рэчываў...

Пры ўжыванні зваротных дзеясловаў трэба пазбягаць разначытання ў выказванні: Пасля збору клубніцы накіроўваюцца на рынкі. У сказе ўзнікае магчымасць двайнога прачытання: хтосьці іх накіроўвае ці яны самі накіроўваюцца? Выпраўлены сказ можа мець такі выгляд: Пасля збору калгаснікі накіроўваюць клубніцы на рынкі. Яшчэ больи анекдатычны прыклад з газетнага артыкула падае М. Я.

Цікоцкі: Адразу ж пасля нараджэння парасяты мыюцца і выціраюцца ручніком.[4]

### 4.5.5. Асаблівасці ўжывання дзеепрыслоўяў

***Дзеепрыслоўе*** — нязменная дзеяслоўная форма, якая абазначае дадатковае ў адносінах да дзеяслова-выказніка дзеянне і адказвае на пытанні што робячы?, што зрабіўшы?

У беларускай мове дзеепрыслоўе — пашыраная форма, якая ўтвараецца практычна ад усіх дзеясловаў, не мае стылістычных абмежаванняў і ужываецца ва ўсіх стылях.

Дзеепрыслоўі незакончанага трывання (цяперашняга часу) маюць суфіксы -учы, -юны (I спражэнне) і -ачы, -ячы (II спражэнне); дзеепрыслоўі за- кончанага трывання (прошлага часу) маюць суфіксы -ўшы, -шы: беручы, купляючы, сочачы, носячы, сказаўшы, прынёсшы.

Некаторыя суфіксы дзеясловаў незакончанага трывання не адпавядаюць тыпу скланення ўтваральнага дзеяслова: вісець — вісючы, звінець — звінючы, спаць — сплючы.

Не дапускаецца змешваць суфіксы дзеепрыслоўяў розных трыванняў: нельга купляўшы (купляючы), напішучы (напісаўшы), бегшы (бегуны), меўшы (маючы)*[5].

### 4.5.6. Асаблівасці ўжывання дзеепрыметнікаў

***Дзеепрыметнік*** — скланяльная форма дзеяслова, якая спалучае ў сабе адзнакі прыметніка і дзеяслова. Дзеепрыметнік мае час і стан, у беларускай мове не ўжываюцца зваротныя формы.

Для сучаснай беларускай літаратурнай мовы характэрны не ўсе магчымыя для ўтварэння формы дзеепрыметнікаў.

Сярод формаў незалежнага стану неўжывальнымі з'яўляюцца формы цяперашняга часу з суфіксамі –уч-, -юч-, -ач-, -яч- і прошлага часу з суфіксамі -ўш-, -ш-: бягучыя гадзіны, цікавячыя факты, парыжэўшая лістота, прарасшы парастак. Больш пашыраныя дзеепрыметнікі прошлага часу з суфіксам -л-: пацямнелы, заінелы, прамоклы.

Сярод формаў залежнага стану неўжывальнымі з'яўляюцца формы цяперашняга часу з суфіксамі -ом-, -ем-, -ім-: даваемы крэдыт, узводзімы дом. Самымі распаўсюджанымі сталі формы прошлага

---

[4] Цікоцкі М.Я. Стылістыка беларускай мовы. /М.Я. Цікоцкі. Мінск, 1995 С.143
[5] Правільнасць ужывання дзеепрыслоўяў у сказе будзе разглеждана у наступным раздзеле дапаожніка.

часу з суфіксамі -н-, -ен-, -ан-, -ян-, -т-: прачытаны, зроблены, засеяны, размыты.

Такім чынам, патрабуе праўкі вялікая колькасць дзеепрыметнікаў у выпадку іх выкарыстання ў тэксце. Сярод магчымых спосабаў замен прапануем наступныя:

1) нехарактэрная форма дзеепрыметніка замяняецца ўжывальнай (спосаб прыдатны для праўкі дзеепрыметнікаў незалежнага стану прошлага часу): праросшы парастак — прарослы парастак, уцалеўшы будынак — уцалелы будынак, заросшы ўчастак — зарослы ўчастак;

2) нехарактэрная форма дзеепрыметніка замяняецца дзеепрыслоўем (спосаб прыдатны для праўкі дзеепрыметнікаў незалежнага стану): Прыехаўшая сёння на фірму камісія працавала ў бухгалтэрыі; праўка: Камісія, прыехаўшы сёння на фірму, працавала ў бухгалтэрыі; Праязджаючая побач з магазінам машына раптам затармазіла; праўка: Машына, праязджаючы побач з магазінам, раптам затармазіла;

3) нехарактэрная форма дзеепрыметніка замяняецца прыметнікам; у апошні час даволі пашыраны замены на прыметнікі з суфіксам -льн-: Чуўся ўсё ўзрастаючы грукат; праўка: Чуўся ўсё мацнейшы грукат; уяўляемы сюжэт — уяўны сюжэт, энергазберагаючыя тэхналогіі — энергазберагальныя тэхналогіі; стамляючая неабходнасць — стамляльная неабходнасць; рашаючы матч — вырашальны матч;

4) нехарактэрная форма дзеепрыметніка замяняецца назоўнікам: будучае чалавецтва — будучыня чалавецтва;

5) нехарактэрная форма дзеепрыметніка замяняецца даданым сказам са злучальным словам які (што): Прадстаўляемы на пасаду кіраўніка С. М. Трафімчук выступіў з кароткім паведамленнем; праўка: С. М. Трафімчук, які прадстаўляецца на пасаду кіраўніка, выступіў з кароткім паведамленнем; Аўтамабіль вярнуўся з рэйса з няспраўным спідометрам, маючым пломбы; праўка: Аўтамабіль вярнуўся з рэйса з няспраўным спідометрам, што мае пломбы,

6) нехарактэрная форма дзеепрыметніка замяняецца апісальным выразам: развіваючыяся краіны — краіны, якія сталі на шлях развіцця, верцячаяся пліта — паваротная пліта; глядзець сумуючым позіркам — глядзець сумна, тужліва;

7) у рэдкіх выпадках дзеепрыметнік з нехарактэрным суфіксам, калі не мае вялікай сэнсавай нагрузкі, можна апусціць: Паставілі лаўку паміж дзвюма растучымі елкамі: праўка: Паставілі лаўку паміж дзвюма елкамі.

## 4.6. АСАБЛІВАСЦІ ЎЖЫВАННЯ ПРЫНАЗОЎНІКАЎ

***Прыназоўнікі*** служаць для выражэння падпарадкавальных адносін паміж галоўным і залежным словамі ў словазлучэннях або сказах. Гэта службовая часціна мовы можа ўжывацца з адным або некалькімі склонамі залежнага слова.

Прыназоўнік у ў становішчы перад словам, якое пачынаецца з у, пераходзіць у ва: *ва ўсіх, ва універсітэце, ва ўзросце (але: у многіх, у Францыі, у В'етнаме).*

Прыназоўнік «*з*» у становішчы перад словамі, якія пачынаюцца збегам зычных з першай з, с, ж, ш, м, пераходзіць у *са*: *са змены, са сцяны, са жвіру, са школы, са мной (але: з многімі).*

Прыназоўнік «*па-за*» выкарыстоўваецца з Т. склонам залежнага слова: па-за межамі фірмы, па-за вызначанымі правіламі (памылка: па-за межаў фірмы — з Р. склонам). П а р а ў н.: замест рускага канцылярскага выразу вне зависимости ў беларускай мове выкарыстоўваецца слова незалежна (з-за немілагучнасці калькі па-за залежнасцю).

Састаўны прыназоўнік «*згодна з*» (з Т. склонам) не замяняецца словам згодна, якое ўспрымаецца як калька з рускай мовы або як прыслоўе: згодна з законам, згодна з указаннем дырэктара (нельга: згодна закону, згодна закона). Такія ж прычыны абмяжоўваюць выкарыстанне прыназоўніка «а*дпаведна*» (з Д. склонам), які ўсё часцей замяняецца ў адпаведнасці з.

Прыназоўнік «*з-за*» (указвае на прычыну, якая перашкаджае ажыццяўленню чаго-небудзь) нельга замяняць на прыназоўнік дзякуючы (указвае на прычыну, якая садзейнічае ажыццяўленню чаго-небудзь). Нельга: Дзякуючы моцным дажджам, нельга нарыхтаваць якасныя кармы, праўка: З-за моцных дажджоў нельга нарыхтаваць якасныя кармы. Таксама нельга замяняць прыназоўнік дзякуючы на прыназоўнік за кошт (яго значэнне выкарыстоўваючы што-небудзь для якой-небудзь мэты): Якасць прадукцыі фірмы палепшылася за кошт укаранення сучасных тэхналогій; праўка: Якасць прадукцыі фірмы палепшылася дзякуючы ўкараненню сучасных тэхналогій.

Выбар прыназоўнікаў «*у*» і *«на»* у прасторавым значэнні залежыць ад значэння наступнага назоўніка і часта суправаджаецца традыцыяй: на Палессі, у (на) Беларусі, ва (на) Украіне, на заводзе, на фабрыцы, у фірме, в а ўстанове, у арганізацыі, у аддзеле, на пошце, у клубе, у Альпах, на Каўказе...

Прыназоўнік «*насуперак*» патрабуе пасля сябе пастаноўкі залежнага слова ў Д. склоне: насуперак рашэнню гарвыканкама, насуперак артыкулу 5 закона.

Прыназоўнік *«к»* амаль заўсёды замяняецца прыназоўнікам да: пайсці к дырэктару, рыхтавацца к святу (праўка: да дырэктара, да свята). Аднак пры неабходнасці падкрэсліць канкрэтны час выканання чаго-небудзь можа выкарыстоўвацца і прыназоўнік к: Выканалі план к 1 верасня абазначае канкрэтную дату, г. зн. план выкананы 31 жніўня; Выканалі план да 1 верасня можа абазначаць выкананне плана і раней, напрыклад, 25 жніўня.

Прыназоўнік «*звыш*» выкарыстоўваецца з Р. склонам залежнага слова: звыш нормы, звыш плана. Нельга спалучаць звыш з прыназоўнікам за: звыш за норму.

Прыназоўнікі «аб» і «пра»[6], сінанімічныя ў многіх выпадках, адрозніваюцца ўжываннем. Прыназоўнік аб пераважае ў тэкстах навуковага і афіцыйна-справавога стылю, пра ўжываецца ва ўсіх стылях. Аднак стандарт афіцыйна-справавога стылю не дапускае варыянтнасці пры афармленні загалоўкаў дакументаў (загад, акт, пісьмо) або парадку дня ў пратаколах, дзе выкарыстоўваецца толькі прыназоўнік аб: Аб зацвярджэнні каштарыса; Аб праверцы расходавання фінансавых сродкаў; Аб працягу рамонту станцыі. У сам іх тэкстах таксама пераважае прыназоўнік аб, які можа замяняцца на пра ў выпадку немілагучнасці: аб абароце наркотыкаў — пра абарот наркотыкаў, аб абавязках — пра абавязкі, **але** ў назве: Закон «Аб абароне».

## Пытанні для самакантролю

## Назоўнік

1. Ахарактарызуйце цяжкасці пры вызначэнні роду назоўнікаў.
2. Якія памылкі могуць сустракацца пры ўжыванні формаўліку назоўнікаў?
3. Як катэгорыя адушаўлёнасці-неадушаўлёнасці ў назоўнікаў уплывае на выбар формы слова?
4. У чым заюшчаюцца цяжкасці ва ўжыванні канчаткаў -а, -я і -у, -ю назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку?

[6] Асаблівасці ўжывання прыназоўніка «па» разглядаюцца ў наступным раздзеле.

5. Як пазбаўляцца памылак пры выкарыстанні варыянтаў канчаткаў -а, -я або -у, -ю назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку?

6. Чым трэба кіравацца пры вызначэнні канчаткаў меснага склону адзіночнага ліку ў назоўніках мужчынскага роду?

7. Якія асаблівасці ў канчатках роднага склону множнага ліку маюць назоўнікі розных скланенняў?

8. Якія памылкі найбольш пашыраны ў назоўніках 1 скланення ў адзіночным ліку?

9. Як трэба адносіцца да формаў назоўнікаў тыпу калоссі, карэнні?

10. Раскажыце аб асаблівасцях скланення ўласных назоўнікаў.

## Прыметнік

11. Ахарактарызуйце асаблівасці прыналежных прыметнікаў.

12. Растлумачце прычыну памылкі ў сказе: *Гэта кава якасна.*

13. У чым заключаюцца памылкі пры ўтварэнні і ўжыванні ступеняў параўнання прыметнікаў?

## Лічэбнік

14. Раскажыце аб захаванні правільных склонавых формаў колькасных, парадкавых і зборных лічэбнікаў. Якое ўздзеянне на склонавыя формы аказвае структура лічэбніка?

15. Як дробавыя лічэбнікі ўплываюць на форму залежных слоў?

16. Ахарактарызуйце памылкі ў формах залежных слоў пасля лічэбнікаў два, тры, чатыры.

17. З якімі назоўнікамі спалучаюцца зборныя лічэбнікі?

## Займеннік

18. Раскажыце аб ужыванні займеннікаў розных разрадаў.

19. Якія займеннікавыя спалучэнні вы ведаеце? У чым іх асаблівасці?

## Дзеяслоў

20. Ахарактарызуйце ўжыванне суфіксаў у формах дзеясловаў незакончанага трывання.

21. Якія памылкі сустракаюцца пры ўжыванні суфіксаў дзеяслова прадугледзець і лад.?

22. Якія канчаткі з'яўляюцца нарматыўнымі ў спрагальных формах дзеясловаў 1-ай і 2-ой асобы множнага ліку?

23. Раскажыце аб утварэнні формаў загаднага ладу дзеяслова.

24 Чым тлумачацца памылкі ва ўжыванні зваротных дзеясловаў?

25. Ахарактарызуйце суфіксы, пры дапамозе якіх утвараюцца дзеепрыслоўі.

26. Якія формы дзеепрыметнікаў тэарэтычна могуць існаваць, а якія з іх з'яўляюцца нехарактэрнымі для беларускай мовы?

27. Прывядзіце прыклады замены нехарактэрных формаў дзеепрыметнікаў на іншыя канструкцыі.

## Прыназоўнік

28. Ахарактарызуйце асаблівасці ўжывання прыназоўнікаў.

## Тэмы рэфератаў

1. Асаблівасці скланення множналікавых назоўнікаў.
2. Словаўтварэнне назоўнікаў.
3. Прыметнікі з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі.
4. Стан дзеяслова.
5. Пераходныя і непераходныя дзеясловы.
6. Размоўныя формы загаднага ладу дзеяслова.
7. Умоўны лад дзеяслова, яго асаблівасці.
8.Словаўтварэнне дзеясловаў.
9. Словы катэгорыі стану.
10. Часціца як часціна мовы.
11. Злучнік як часціна мовы.
12. Пераход прыметнікаў і дзеепрыметнікаў у іншыя часціны мовы.

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАДАННІ

22. Спішыце, раскрываючы дужкі.

22.1 Умацаванне (акоп), падрыхтоўка (тавар), закупка (цукар), рамонт (парасон), развіццё (баскетбол), атрыманне (ордэр), адкрыццё гарналыжнага (спуск), пасяджэнне (выканкам), акрамя (альпінізм),

даўжыня (катэт), пасля (фінал), зараснік (вішняк), лячэнне (сыпняк), адкрыццё (планетарый), выраб (пратэз), заканчэнне (вяяж), дабрабыт (люд), каля (мільён), бурштынавага (кулон), прыгатаванне (марынад), для (спуск) з паверха, небяспечнага (вораг), імпартнага (спінінг), беларускага (асветнік), іржавага (цвік), якаснага (бекон).

22.2 Кілаграм (маргарын), штрафнога (ізалятар), каля (цэнтнер), ваеннага (камісарыят), пародзістага (кот), бястлушчавага (йагурт), без (шынель), жалезнага (ланцуг), каштоўнасць (клад), новага (спосаб), індыйскага (ёг), здабыча (магній), каля (алешнік), развіццё (патрыятызм), няякаснага (ізалятар), унясенне (запіс), адзіночнага (волат), адкрыццё (архіў), прыгатаванне (ростбіф), пасля (выбух), працяглага (лівень), школьнага (ранец), заечага (тлушч), прыступ (апендыцыт), недапушчэнне (дэбош), дастаўка (леў), таленавітага (мадэльер), разліванне (ром), вынікі (прагноз), працяглага (снегапад).

23. Спалучыце прыназоўнікі аб, пры, па, у, на (месны склон) з назоўнікамі, запішыце словазлучэнні.

23.1 Мэта, учынак, туга, гульня, бягун, прынтэр, неразбярыха, спосаб, банк, чарапаха, тварог, парог, Васіль Тонкавіч, характарыстыка, сканер, капітан, Сямён Мурашка, спёка, абмотка, край, марля, лейтэнант, Георгій, вучань, акт, Інга Мурашка, муж, ліфт, літасць.

23.2 Дзень, Альберт, наверх, порах, Саладуха Ігар, Саладуха Наталля, мука, цацка, макет, ліга, вадкасць, механік, оптыка, медзь, купля, ранец, прафесар, стог, хірург, з'езд, транспарт, дэкрэт, асака, ланцуг, мох, выхад, фестываль, выдавец, фініш, пячнік, скальпель.

24. Адрэдагуйце сказы з памылкамі ва ўжыванні назоўнікаў.

24.1 Я працую такелажнікам у рамонтна-механічным цаху чатырнаццаць год. 2. Правесці аўкцыённую прадажу фірмаў, якія маюць вялікую запазычанасць у выплаце падаткаў. 3. Праграмай прадугледжана будаўніцтва 281 кіламетраў агараджальных дамб. 4. Самай лепшай пенаю для ванн журы прызнала прадукцыю лідскага прадпрыемства «Марыёла». 5. Кабінетныя крэслы пажадана рабіць з дуба, для лаўкаў і ложкаў трэба выбіраць сасну, а саму хату класці з сасновых бярвенняў. 6. Ініцыятарамі гэтага праекту сталі рэспубліканскае таварыства «Ахова птушак Беларусі» і брытанская прыродаахоўная арганізацыя «Каралеўская таварыства аховы птушак». 7. У небе над Шры Ланка знік самалёт АН-24, экіпаж якога складалі чацвёра лётчыкаў з Беларусі. 8. З трохсот кілаграм грэцкай

крупы для дыябетыкаў дзвесце перададзена ў пацярпелыя раёны. 9. Храм вельмі добра выглядае, адчуваецца, што ён знаходзіцца пры добрым і адукаваным гаспадары-настаяцелі. 10. Супрацоўнікі апарата Савета Міністраў паедуць працаваць у асобныя гаспадарцы Мінскай вобласці.

24.2 1. У складзе судзей пераважная большасць — спецыялісты высокай прафесійнай кваліфікацыі. 2. Усё гэта не выклікала б вялікай заклапочанасці, кал і б не адна абставіна. 3. У гэтым гаду нам удалося спыніць скарачэнне пагалоўя ласінага статку. 4. Сярод дзяржаваў былога сацыялістычнага блоку чатыры ўваходзяць у трупу краін з высокім узроўнем развіцця чалавечага патэнцыяла. 5. Выстава ўжо была ў Брэсце і Гомеле, у Магілёве і Віцебску, у Маладзечна і Пінску. 6. За I паугоддзе крымінальнымі групоўкамі ўчынена 185 цяжкіх злачынств — ад рэкета да вымагання грошаў. 7. Куды ні зірні — усе голлі ўвешаны пляцёнкамі з яблык, якія звісаюць да самай зямлі. 8. Ёсць магчымасць карыстацца паслугай бібліятэкі і камп'ютэрнага зала з 4 да 8 гадзінаў вечара. 9. Ураган узнік у выніке актыўнага перамяшчэння атмасфернага фронта пры вельмі вільготным паветры. 10. Нашы прафесара Р.І.Тышкевіч і У.А.Ямелічаў звыш за 40 год працуюць у вышэйшай школе.

25. Адрэдагуйце сказы з памылкамі ва ўжыванні ступеняў параўнання прыметнікаў і прыслоўяў.

1. Нашай буйнейшай ва Усходняй Еўропе фірме па вытворчасці электронных кампанентаў зноў патрабуецца працоўная сіла. 2. На сёння сярэдняя заработная плата ў сельскай гаспадарцы складае 56 тысяч рублёў, што амаль у два разы менш гэтага паказчыка па рэспубліцы ў цэлым. 3. Вынік папярэдняга матча гэтых каманд у Маскве (2:2) быў ануляваны з-за таго, што вышыня перакладзіны варот аказалася на 12 см ніжэй нормы. 4. Беларускія пагранічнікі ўстанавілі пакуль толькі часовыя слупы, пастаянныя ж будуць у хуткім часе ўстаноўлены на чатырох важнейшых участках граніцы па 30 кіламетраў. 5. Толькі ў Гродне цяпер 70 фірменных магазінаў, больш палавіны якіх — прадуктовыя. 6. Тэмпература паветра ў цэхах не перавышае 10—12 градусаў, хаця па тэхналагічных нормах яна павінна быць на 10 градусаў вышэй.

26. Запішыце лічбы словамі.

1. Усе навабранцы, акрамя тых 732. прызыўнікоў, якія маюць права на адтэрміноўку ад прызыву, праходзяць медыцынскі агляд у

вызначаныя тэрміны. 2. Лясгас здаў дзяржаве ўжо 342-ую бочку высакаякаснай жывіцы. 3. 375-тысячны аўтамабіль. 4. У калоне следам за 3450 работнікамі завода ішлі супрацоўнікі НДІ. 5. Распрацаваць праграму падтрымкі малога бізнесуда 2015 года. 6. 934-годдзе горада.

27. Прадоўжыце сказ са службовага пісьма, выкарыстоўваючы выразы з дужак.

Будзем рады, калі Вы... (адказаць нам, даслаць нам каштарыс, прыехаць да нас, наведаць нас, выпісаць нам каталог, узгадніць пастаўкі, даць магчымасць, прадаваць гэты тавар, прадаць нашу прадукцыю, забраць на рэалізацыю, змалоць збожжа, узяць для продажу, зберагчы наш падарунак, адвезці скрыні, прыляцець у Мінск, звязацца з намі праз месяц).

28. Адрэдагуйце сказы з памылкамі ва ўжыванні дзеясловаў.

1. На нашым прадпрыемстве зарплату пачалі выплочваць не грашамі, а пералічваць на пластыкавыя карткі. 2. Адпускная цана спецаўтамабіляў шмат у чым будзе залежыць ад камплектацыі іх спецыяльнай тэхнікай. 3. Чым хутчэй вы разбярэцеся са сваімі праблемамі, тым лягчэй будзе працаваць іншым. 4. Расследваць прычыны аварыі будзе спецыяльна створаная камісія. 5. У некаторых пунктах выдачы сертыфікатаў накапліваюцца вялікія чэргі. 6. Двое беспрацоўных, адзін з якіх раней быў двойчы асуджаны, выкралі машыну маркі «Мазда-323», якая належыла грамадзяніну ізраіля. 7. Таму вы, магчыма, апынецеся сам-насам са сваімі цяжкасцямі. 8. Хірургі аперавалі і дзяцей, і дарослых, і старых. 9. Рэгулярна абнародваюцца звесткі аб даходах выбраных кіраўнікоў, аб выплачаных імі падатках.

29. Адрэдагуйце сказы з нехарактэрнымі формамі дзеепрыметнікаў.

1. На 15 працэнтаў павялічылася колькасць захварэўшых на сальманелёз у Магілёўскім рэгіёне. 2. Як сведчыць захаваўшыйся пратакол гэтага пасяджэння, да кулакоў былі аднесены простыя сяляне, нястомныя працаўнікі з вёскі Парыж. 3. Вялікага аб'ёму работ патрабуюць амаль не працуючыя ачышчальныя збудаванні, непакоіць стан 9 артэзіянскіх свідравін і 4 дамоў даваеннай пабудовы. 4. Спецыялісты прадставілі апошнія распрацоўкі па пытаннях

укараненне энергазберагаючых тэхналогій і матэрыялаў і экалагічнага кантролю. 5. А ў такіх гаспадарках, як саўгас «Сітцы» і калгас «Іскра», мясцовыя жыхары, маючыя на сваіх падвор'ях менш кароў, наогул ужо зраўняліся з гаспадаркамі па колькасці прадаваемага дзяржаве каштоўнага прадукту. 6. Трубы былі аформлены як імпарт вобласці, якая затым да паступіўшага
грузу не мае ніякіх адносін.

30. Адрэдагуйце сказы з памылкамі ва ўжыванні прыназоўнікаў.

1. Якраз у гэты час мы рыхтаваліся да адкрыцця свайго філіяла ва В'етнаме. 2. Як вынік нізкай заработнай платы — сыход з школы настаўнікаў-мужчын, маладых спецыялістаў. 3. К.Сакалоў, які знаходзіўся ў руля нацыянальнай каманды, перайшоў на працу ў Упраўленне па фізічнай культуры і спорце. 4. У Віцебску распачынаюцца міжнародныя Шагалаўскія чытанні, прысвечаныя 112-ым угодкам са дня нараджэння Марка Шагала. 5. Запазычанасць па зарплаце на 25 жніўня склада 7,9 % к фонду зарплаты за ліпень. 6. Дзякуючы моцным ліўням пацярпелі многія прыватныя гаспадаркі трох абласцей. 7. Згодна пастановы Савета Міністраў вёска Праскурні адносіцца да вышэй названых населеных пунктаў. 8. Тут вучацца маляваць звыш за сто дзяцей раёна. 9. Аварыя адбылася па-за межаў станцыі, што і ўратавала пабудовы ад моцнага пажару. 10. У адрозненні ад папярэдняга года пашырыўся асартымент прадукцыі, павялічылася рэнтабельнасць.

31. Адрэдагуйце сказы на марфалагічным узроўні.

31.1. 1. Па выніках завяршыўшыхся ўступных экзаменаў у Мінскае суворaўскае ваеннае вучылішча права звацца курсантамі набылі 104 учарашніх беларускіх школьніка. 2. З асваеннем чарговага фірменнага глыбоцкага піва «Залаты ручай» увод новай лініі ў эксплуатацыю дазволіў цэху разліва пазбавіцца ад неэстэтычных і груваcткіх бочкаў. 3. Але асабліва любяць нашых музыкаў у Іспаніі, дзе слухачы ўжо добра іх ведаюць і заўсёды радыя кожнай новай сустрэчы. 4. Усяго ж у выніку аўкцыёна 4 аб'екта камунальнай уласнасці перайшлі ў недзяржаўны сектар, знойдзены новы арандатар пустуючага памяшкання, а бюджэт горада папоўніўся значнай сумай грошаў. 5. Не знойдучы патрэбнага прэпарата ў гарадскіх аптэках, людзі звяртаюцца к нам. 6. Аднак служыць

пойдуць не больш 18 тысячаў юнакоў — столькі запрасілі ўзброеныя сілы, памежныя, унутраныя і чыгуначныя вайска, а таксама падраздзяленні КДБ. 7. Буйнейшае ў рэспубліцы маслаперапрацоўчае прадпрыемства — Гомельскі тлушчакамбінат — і нямецкая фірма «BASF» распачалі рэалізацыю сумеснага праекту па вырошчванні рапса. 8. Вяртанне на радзіму абяцала І.Дамейку альбо Сібір, альбо турэмную камеру, і з рэкамендацыямі парыжскіх прафесароў ён сядае на карабель, які бярэ курс на нядаўна вызваленае ад каланізатараў Чылі. 9. Абодва беларускіх мужчынскіх баскетбольных клуба («Гродна-93» і асіповіцкі РТІ-АЗАА) выбылі з розыгрыша Кубка Корача. 10. Міжнародныя аўдытары прызналі пабудаваны завод адпавядаючым заходнім стандартам.

31.2. 1. Мінская фабрыка каляровага друку прапаноўвае кніжкі-размалёўкі, цэны на якія ніжэй магазінных. 2. Апрача крамы, на таргі выстаўляліся 2 дзеючых прадпрыемства і 3 невыкарыстоўваемых будынка. 3.1 таму ад выставы к выс- таве становіцца ўсё меней твораў дэкларацыйна-просталінейных, якія не столькі прапагандуюць, колькі дыскрэдытуюць нацыянальную ідэю. 4. Да прыёма дзяцей гатовым 614 дзіцячых дашкольных устаноў, 784 агульнаадукацыйныя школы, 3 ліцэя і 18 гімназіяў. 5. Наша прадпрыемства было радае аказаць паслугу, паколькі лінія па вытворчасці літаратуры ў мяккай вокладке не загружала. 6. Плошча гандлёвага зала складае 250 квадратных метраў, а разам з падсобнымі памяшканнямі — у тры раза болей. 7. Сістэма водазабеспячэння шматкватэрных дамоў у гэтай вёсцы будавалася больш за 30 гадоў назад, калі былі дапушчаны грубейшыя парушэнні санітарных нормаў пры мантажу артэзіянскай свідравіны. 8. Подпісі пад гэтым дакументам паставілі кіраўнікі дзвюх ведамств — А.Сасноўскі і А.Мядзведзеў. 9. Апошнім часам усё больш неверагоднымі з'яўляюцца пачасціўшыеся выпадкі сыхода суайчыннікаў з жыцця. 10. Амаль паўтары мільярды рублей атрымана ад аўкцыёна, праведзенага ў кастрычніку.

32. Правядзіце рэдагаванне тэксту на марфалагічным, лексі- чным і арфаграфічным узроўнях.

Марына Іванаўна Мурашка працуе у Спецыяльным канструктарскім бюро «Кантакт» з 1986 г. пасля заканчэння Беларускага Дзяржаўнага ўніверсітэту. Працавала тэхналагам, старэйшым інжэнерам у адзеле падгатоўкі вытворчасці. З 1998 г. працуе на пасадзе начальніка адзела маркетынга. Займаецца пытаннямі распрацоўцы

стратэгіі развіцця і рэфарміравання СКБ, аткрыцця вытворчасцяў новых электроных прыбораў.

Пастаянна ўдзельнічае ў метадычнай рабоце з інжэнерна тэхнічнымі кадрамі СКБ. З'яўляецца распрацоўшчыцай пла- ну семінару «Новыя тэхналогіі ў вытворчасці блока «КаРэВа» і першым лектарам яго.

Пад кіраваннем М.І.Мурашка наладжаны выпуск вырабу «Камета-4», што істотна паўздзейнічала палепшанню фінансавага стана СКБ. З-за гэтага ўзнікла магчымасць выхада прадукцыі на рынак не толькі блізкага, але і далёкага замежа.

Дысцыплінавана, адзыўчыва, умее находзіць кантакт з падчынённымі.

Па сваіх дзелавых і маральных якасцях заслугоўвае залічэнне ў рэзерв генеральнага дырэктара СКБ для павышэння па службовай лесвіцы.

## Раздзел 5
## АСНОВЫ РЭДАГАВАННЯ НА СІНТАКСІЧНЫМ УЗРОЎНІ

Рэдагаванне на сінтаксічным узроўні заключаецца ў правядзенні аналізу і праўкі словазлучэнняў і сказаў.

### 5.1. ПАРАДАК СЛОЎ У СКАЗЕ

Характэрнай асаблівасцю беларускай мовы, як і іншых усходнеславянскіх моў, з'яўляецца параўнальна свабодны парадак слоў у сказе. Але ў той жа час за кожным членам сказа традыцыйна замацавалася асноўнае месца, якое можна лічыць прамым парадкам слоў. Адваротны парадак слоў успрымаецца як экспрэсіўны (стылістычны) прыём (інверсія) і павінен быць матываваным. Напрыклад, у сказе Толькі адзін магазін выканаў усе паказчыкі — прамы парадак слоў, а ў выпадку перастаноўкі ўзнікае інверсія Выканаў усе паказчыкі толькі адзін магазін і дадатковае адценне шкадавання.

Для тэкстаў навуковага і афіцыйна-справавога стылю ўласцівы прамы парадак слоў, а ў тэкстах публіцыстычных і мастацкіх, у гутарковым стылі шырока выкарыстоўваецца адваротны парадак слоў: Канкрэтныя пытанні прававога рэгулявання адносін у сферы прафесійна-тэхнічнай адукацыі вызначаюцца адпаведнымі актамі заканадаўства; Хутка знікне імгла, і за пшаніцай, за лёнам адкрыецца чорны прастор свежай, духмянай раллі, стане відаць, колькі за ноч узняў зямлі яе Сярожа (Я.Брыль).

Дададзеныя члены сказа таксама маюць традыцыйнае месца ў сказе. Трэба імкнуцца, каб яны знаходзіліся па магчымасці побач з тымі словамі, да якіх адносяцца. Адначасова зазначым, што адваротны парадак дададзеных членаў сказа таксама прыводзіць да экспрэсіі: У бюро рэгістрацыі людзі кваліфікаваныя працуюць або У бюро рэгістрацыі людзі працуюць кваліфікаваныя; нейтральны стыль выказвання: Кваліфікаваныя людзі працуюць у бюро рэгістрацыі.

Няўважлівасць да парадку слоў выклікае памылкі, якія спараджаюпь двухсэнсавасць: Уліпені гэтага года ў газеце будуць змвшчаны адказы на пытанні чытачоў дырэктара аб'яднання Б. Ю. Каралевіча. Пытанні задавался чытачамі газеты ці чытачамі дырэктара, які, магчыма, напісаў кнігу? Выпраўлены сказ: Адказы дырэктара аб'яднання Б. Ю. Каралевіча на пытанні чытачоў газеты будуць змешчаны на нашых старонках у ліпені гэтага года.

## 5.2. КААРДЫНАЦЫЯ ВЫКАЗНІКА І ДЗЕЙНІКА

1. Калі дзейнік выражаны спалучэннем назоўніка няпэўна-колькаснага значэння (большасць, меншасць, рад, шэраг, частка, шмат, некалькі і інш.) з назоўнікам роднага склону множнага ліку, то выказнік ставіцца ў форме адзіночнага ліку: Падчас міжнароднай выставы «Нафта і газ», якая праходзіла ў чэрвені ў Маскве, прадукцыяй ВА «Рэчыцанафтмаш» зацікавіўся шэраг расійскіх прадпрыемстваў нафтавай галіны; Большасць вяскоўцаў не мае сродкаў для будаўніцтва новага жылля.

Магчымасць пастаноўкі выказніка ў множным ліку ўзнікае тады, калі трэба падкрэсліць актыўнасць дзеяння; калі пасля назоўніка няпэўна-колькаснага значэння стаіць некалькі назоўнікаў у родным склоне множнага ліку; калі паміж дзейнікам і выказнікам знаходзіцца даданая частка або дзеепрыметнікавы зварот. Але пастаноўка выказніка ў множным ліку заўсёды патрабуе дакладнага абгрунтавання: З наступленнем першых гарачых дзён шэраг калгасаў і саўгасаў Брэсцкай вобласці прыступілі да нарыхтоўкі кармоў, Большасць кацельняў, якія знаходзяцца ў невялікіх пасёлках, перайшлі на торфабрыкет — больш таннае ў параўнанні з вугалем паліва.

2. Пры дзейніку — колькасна-іменным спалучэнні, выказнік можа мець форму як адзіночнага, так і множнага ліку. Калі група асоб або сукупнасць прадметаў разумеецца як адзінае, непадзельнае цэлае і аўтара цікавіць толькі агульная колькасць, выказнік ставіцца ў адзіночным ліку. Множны лік выказніка ўказвае на тое, што асобы або прадметы павінны разумецца як пэўныя адзінкі з характэрнымі прыкметамі: параўн.: У раёне будуецца 26 новых дамоў і У Вілейскім, Лагойскім і Валожынскім раёнах будуюцца 48 новых дамоў. Множны лік выказніка падкрэслівае важнасць будаўніцтва і той факт, што яно ідзе ў розных месцах.

Калі трэба падкрэсліць актыўнасць дзеяння, выказнік таксама ставіцца ў множным ліку: 23 чалавекі кінуліся да адных дзвярэй. Часта, калі выказнік выражаны дзеясловам або дзеепрыметнікам залежнага стану і мала праяўляецца актыўнасць, выказнік ставіцца ў адзіночным ліку: Узарана 17 га зябліва; 460 тысяч метраў жылой плошчы ўведзена ў другім паўгоддзі. **Але:** 15 міліцыянераў узнагароджаны медалямі — падкрэсліваецца прызнанне заслуг кожнага чалавека.

Калі лічэбнік у складзе дзейніка заканчваецца на адзін, выказнік ставіцца ў адзіночным ліку: Дваццаць адно дзіця прайшло лячэнне ў рамках гэтай праграмы.

3. Выказнік пры дзейніку тыпу бацька з сынам ставіцца ў множным ліку, калі падкрэсліваецца роўнасць абедзвюх асоб, і ў адзіночным, калі неабходна паказаць, што асоба, абазначаная творным склонам, з'яўляецца другараднай: Старшыня з намеснікам накіраваліся афармляць ведамасць; Настаўнік з вучнем пайшоў на спаборніцтвы. Аднак пры наяўнасці слоў сумесна, супольна выказнік ставіцца ў адзіночным ліку: Мінгарвыканкам сумесна з грамадскай арганізацыяй «Беларускі саюз сацыяльных педагогаў і сацыяльных работнікаў» плануе стварэнне прытулку для начнога знаходжання асоб без пэўнага месца жыхарства.

4. Калі дзейнік выражаны займеннікамі хто, што, ніхто, нішто, нехта, хтосьці, хто-небудзь, то выказнік ставіцца ў адзіночным ліку: Хто быў знаёмы з ранейшымі пастаноўкамі рэжысёра, цяпер заўважыў адрозненні; Нішто не зможа стрымаць нашага стаера. Адносны займеннік хто ў якасці злучальнага слова даданага сказа не перашкаджае выкарыстанню выказніка ў множным ліку: Гэта настаўнікі пачатковых класаў, маладыя спецыялісты і тыя, хто мае (маюць) невысокую нагрузку.

5. Калі пры дзейніку знаходзіцца прыдатак, то трэба дакладна вызначыць дзейнік і пасля гэтага ставіць выказнік у патрэбным ліку або ў родзе: Возера Нарач было забруджана (п а р а ў н: Нарач была забруджана: Нарач — ж. р.); Плашч-палаткі прасушаны і здадзены на склад.

6. Калі дзейнік выражаны ўмоўным найменнем, то выказнік дапасуецца да яго паводле граматычнага прынцыпу: «Каласы пад сярпом тваім» былі напісаны У. С. Караткевічам у 60-ыя гады (але: Раман «Каласы пад сярпом тваім» быў напісаны У. С. Караткевічам у 60-ыя гады). Пры нескланяльным найменні паказчыкам роду выказніка з'яўляецца значэнне назоўніка-дзейніка: «Чэлсі» зноў атрымала перамогу (каманда).

7. Калі выказнік стаіць пасля аднародных дзейнікаў, то звычайна ўжываецца ў множным ліку, а калі перад імі (інверсія) — часцей у адзіночным ліку: Станок і аўтаматычная лінія ўстаноўлены за адзін тыдзень; У невялікім пакоі знаходзіўся стол і ложак.

8. Нельга фармальна звязваць выказнік са словамі, якія растлумачваюць або ўдакладняюць дзейнік: Нават у спрыяльныя летнія месяцы ў Кастрычніцкім раёне абласнога цэнтра амаль палова сем'яў не плацілі камунальныя плацяжы ў вызначаны тэрмін; праўка: не плаціла, бо дзейнік — палова.

9. Род (і лік) выказніка пры дзейніках-абрэвіятурах вызначаецца іх апорным словам: СНД засталося непадрыхтаваным да такіх

змен; праўка: засталася, апорнае слова — садружнасць); ЕС прыпыніў кантакты з Іранам (апорнае слова — саюз).

## 5.3. АСАБЛІВАСЦІ КІРАВАННЯ Ў НЕКАТОРЫХ УЛАСНАБЕЛАРУСКІХ СЛОВАЗЛУЧЭННЯХ

Пры сінтаксічнай сувязі кіравання галоўнае слова словазлучэння патрабуе пастаноўкі залежных кампанентаў у адной форме. Менавіта ў словазлучэннях выразна праяўляецца нацыянальная спецыфіка мовы.

1. Дзеясловы дзякаваць (падзякаваць, аддзякаваць, аддзячыць), прабачыць, даравацць патрабуюць пастаноўкі залежнага слова ў Д. склоне (каму?, чаму?): падзякаваць жанчыне, дзякую Вам, прабачце мне, дараваць наведвальніцы, не магу дараваць сабе. Параўн .: благодарю Вас, простите меня.

2. Дзеясловы здзекавацца, смяяцца, падсмейвацца, насміхацца, рагатаць, жартаваць, кпіць, пакепліваць (разм.), дзівіцца патрабуюць пастаноўкі пасля сябе прыназоўніка з (са) і залежных слоў у Р. склоне (з каго?, з чаго?): не смейцеся з паводзін сябра, здзекавацца з жывёлы, дзівіцца з багатых ураджаяў, кпіць са смеласці спартсмена. Параўн.: издеваться над животными, смеяться над недостатками.

3. Дзеясловы ажаніцца (ажаніць), пажаніцца (пажаніць) патрабуюць, каб залежны назоўнік стаяў у Т. склоне з прыназоўнікам з (са) (з кім?): У 2003 г. ажаніўся з Г. В. Канапелькай (з аўтабіяграфіі). Пара ў н.: жениться на соседке.

4. Дзеясловы хварэць, захварэць, назоўнік захворванне кіруюць назоўнікам у В. склоне з прыназоўнікам на (на што?): захварэць на грып, захворванні на туберкулёз. Параўн.: заболеть гриппом.

5. Дзеясловы руху (ісці, бегчы, накіравацца, паслаць, звярнуцца і інш.), калі размова ідзе пра мэту перамяшчэння, патрабуюць пасля сябе прыназоўніка па з В. склонам (па каго?, па што?): пайсці па дакументы, бегчы па сястру, паслаць па цэмент, звярнуцца па даведку. П а р а ў н.: пойти за документами, обратиться за справкой. У падобных выпадках можа выкарыстоўвацца прыназоўнік у (з В. склонам), калі размова ідзе пра збор ягад, грыбоў і інш.: пайсці ў грыбы, паехаць у брусніцы (п а р а ў н.: пайсці па грыбы, паехаць па брусніцы, г. зн. купляць, браць у кагосьці).

6. Пасля слова «падобны» можа выкарыстоўвацца прыназоўнік да з Р. склонам залежнага кампанента (да каго?, да чаго?) і прыназоўнік на з В. склонам залежнага кампанента (на каго?, на

што?): падобны да папярэдняга кідка і падобны на папярэдні кідок. Параўн. толькі: похож на отца.

7. Назоўнік «загадчык» кіруе залежным словам у форме Р. склону (чаго?): загадчык магазіна, загадчык тэрапеўтычнага аддзялення. Параўн.: заведующий магазином.

8. Дзеяслоў «даглядаць» кіруе залежным словам у форме В. склону (каго?, што?): даглядаць хворага, даглядаць вазоны. Параўн.: ухаживать за больным.

9. Дзеяслоў «заляцацца» патрабуе пасля сябе прыназоўніка да з Р. склонам залежнага слова (да каго?): заляцацца да жанчыны. Параўн.: ухаживать за женщиной.

10. Рускаму словазлучэнню «в пяти километрах от города» адпавядае беларускае «за пяць кіламетраў ад города» (зменныя элементы: пяць — колькасць; кіламетраў — адзінка даўжыні, горада — аб'ект): цягнік спыніўся за восем кіламетраў ад станцыі; за тры крокі ад мяне.

11. Існуе таксама шэраг беларускіх словазлучэнняў, якія адрозніваюцца кіраваннем (і структурай) ад рускай мовы: мець на мэце (параўн.: иметь целью), мець на ўвазе (параўн.: иметь в виду), кіраўнік спраў (параўн.: управляющий делами), на адрас (параўн.: по адресу, в адрес), сам сабе (параўн.: про себя) і інш.

Пры ўзнікненні цяжкасцей у вызначэнні правільнага кіравання можна карыстацца слоўнікам-даведнікам Г. У. Арашонкавай і В. П. Лемцюговай «Кіраванне ў беларускай і рускай мовах» (1991).

## 5.4. КАНСТРУКЦЫІ З ПРЫНАЗОЎНІКАМ ПА[7]

Словазлучэнні з прыназоўнікам па вельмі пашыраны ў тэкстах афіцыйна-справавога стылю. Можна нават сказаць, што такія словазлучэнні з'яўляюцца прыкметай службовай дакументацыі, якая перанасычана імі часам звыш меры.

Галоўнае патрабаванне, якое прад'яўляецца да такіх словазлучэнняў, — выбар М. склону залежных слоў (па кім ?, па чым 7). Гэты моўны закон дзейнічае заўсёды, калі залежныя словы маюць жаночы род адзіночнага ліку або множны лік: чэмпіянат па мастацкай гімнастыцы, камітэт па справах моладзі, працаваць па новых правілах; няправільнасці павінны рэдагавацца: Аплата паслуг магчыма таксама па страхавым полісам (праўка: па страховых полісах).

[7] Больш падрабязны разгляд такіх канструкцый зроблены ў артыкуле: Жаўняровіч П. Сінтаксічныя канструкцыі з прыназоўнікам «па» асаблівасці будовы і ўжывання / П. Жаўняровіч // Роднае слова. 1998. № 11. С. ) 19- 134.

Калі ж залежныя словы маюць мужчынскі або ніякі род адзіночнага ліку, то ўзнікаюць цяжкасці пры рэдагаванні. Яны заключаюцца ў тым, што канструкцыі з прыназоўнікам па выражаюць разнастайныя адносіны, якія могуць змяніцца пасля праўкі. Аднак канструкцыі з М. склонам пасля прыназоўніка па ў апошні час сталі звычайнай з'явай і не ўспрымаюцца штучнымі: спаборніцтвы па конным спорце, чэмпіянат па футболе, камісія па жыллёвым будаўніцтве, па вялікім рахунку, пераслаць па факсе і інш.

У той жа час, выправіўшы па закону на па законе, можна змяніць сэнс словазлучэння. Каб захаваць гэты сэнс, выкарыстоўваюцца сінанімічныя замены прыназоўніка па на іншыя прыназоўнікі і канструкцыі. Сярод найбольш ужывальных замен можна прапанаваць наступныя:

1) **Беспрыназоўнікавае словазлучэнне з Р. склонам**: працэс па вываду шкодных рэчываў (праўка: працэс вываду), праект па стварэнню новых рабочых месцаў (праўка: праект стварэння).

2) **Для** + Р. склон, з мэтай + Р. склон: работа па развіццю прадпрымальніцтва (праўка: для развіцця, з мэтай развіцця), прапановы па паляпшэнню сітуацыі (праўка: для паляпшэння ).

3) **Паводле** + Р. склон; згодна з, у адпаведнасці з + Т. склон: паступіць па закону (праўка: згодна з законам), па выразу дырэктара (праўка: паводле выразу).

4) **На** + М. склон, на + В. склон: зарплата па заводу (праўка: на заводзе), вырабіць па заказу (праўка: на заказ), паслаць па адрасу (праўка: на адрас), па меркаванню спецыялістаў (праўка: на думку, па меркаванні).

5) **Да, адносна, наконт + Р**. склон: заўвагі па праекту (праўка: да праекта), рашэнне па будаўніцтву (праўка: адносна будаўніцтва).

6) **У** + М. склон: патрэбнасць па аснашчэнню (праўка: у аснашчэнні), дапамога па правядзенню канферэнцыі (праўка: у правядзенні).

7) **З** + Р. або В. склон: рускі па паходжанню (праўка: з паходжання); па прычыне можна паралельна выкарыстоўваць з прычыны.

Канструкцыя па ўзгадненню павінна замяняцца пасля ўзгаднення.

Не ўсе варыянты магчымых замен можна прапанаваць у межах дапаможніка. Але і разгледжаныя выпадкі павінны аблегчыць рэдагаванне тэкстаў афіцыйна-справавога стылю.

## 5.5. УЖЫВАННЕ НЕКАТОРЫХ ВІДАЎ ДАПАЎНЕННЯЎ

1. Могуць змешвацца дапаўненні і прыдаткі пры выкарыстанні назоўніка помнік (бюст, скульптура). Р. склон залежнага слова ўказвае на аўтара помніка, а Д. склон суадносіць яго з тым чалавекам, каму пастаўлены помнік. Таму выраз помнік А. Анікейчыка сінанімічны выразу помнік работы А. Анікейчыка. Патрабуецца праўка ў наступным выпадку: У Беларусі дагэтуль было два бюсты паэта (праўка: паэту) у Брэсце і Лідзе і помнік у Навагрудку.

2. Дапускаюцца памылкі ў змешванні кампанентаў у спалучэннях тыпу адзін аднаго. Спалучэнні звязваюцца з назоўнікамі наступным чынам: адзін аднаго (адзін другога) — з назоўнікамі мужчынскага роду: адна адну (адна другую) — з назоўнікамі жаночага роду; адно аднаго (одно другога) — з назоўнікамі ніякага і розных родаў. Таму неабходна адрэдагаваць сказ: Практычна ўсе пытанні вырашаюцца ў комплексе, бо яны ўзаемна звязаны і дапаўняюць адзін (праўка: адно) аднаго.

3. Існуюць праблемы пры выбары Р. або В. склону дапаўнення, якое стаіць пасля дзеяслова з адмоўем не. Звычайна ў Р. склоне ставяцца назоўнікі, якія абазначаюць адцягненыя паняцці або маюць раздзяляльна-колькаснае значэнне (не мае значэння, не прымаюць захадаў, не робіць памылак, не мае жадання, не надае ўвагі): На гарадскія сметнікі і звалкі, якія гараць паблізу Віцебска, проста не звяртаюць увагу (праўка: звяртаюць увагі), і ў горадзе пахне гарэлым; З-за засух, вобласць можа не сабраць неабходную колькасць (праўка: неабходнай колькасці) збожжа.

В. склон ужываецца тады, калі дапаўненне абазначае канкрэтную асобу або прадмет, якія аўтар хоча падкрэсліць, на якіх хоча сканцэнтраваць увагу (не кінуў пісталет, не сустрэў мастачку): Пасля гэтага будынак ужо нічым не нагадваў касцёла (праўка: касцёл). В. склон часта ўжываецца пры інверсіі: Толькі дзякуючы нашай перамозе раскол не адбудзецца.

Калі адмоўе не стаіць перад адным дзеясловам, а дапаўненне залежыць ад інфінітыва, яно ставіцца ў В. склоне: Мы не маем права пакідаць каманду.

## 5.6. УЖЫВАННЕ САСТАЎНОГА ІМЕННАГА ВЫКАЗНІКА

1. Іменная частка выказніка можа быць выражана дзеепрыметнікам залежнага стану. Дзеепрыметнікі жаночага і ніякага роду адзіночнага ліку, а таксама дзеепрыметнікі множнага ліку ўжыва-

юцца ў кароткай форме. Поўная форма выклікае непатрэбнае двайное прачытанне сказа (часам можа выкарыстоўвацца ў мастацкім стылі): Кал і прапановы завадчан не будуць падтрыманыя (праўка: падтрыманы), то вытворчасць паліраванага шкла можа спыніцца; Прынятае (праўка: прынята) рашэнне падтрымаць ініцыятыву і вылучыць сродкі на рамонт аздараўленчага лагера.

Дзеепрыметнікі мужчынскага роду ўжываюцца ў поўнай форме, а кароткая форма ўспрымаецца як нехарактэрная для беларускай мовы: Корпус выраблены са сталі самых новых гатункаў; Майстар-клас будзе закончан (праўка: закончаны) на палетках вучнёўскай гаспадаркі.

2. Ужыванне пасля дзеяслова-звязкі быў, стаў, зрабіўся і да іх пад. назоўнікаў і прыметнікаў характарызуецца іх пастаноўкай у Н. і Т. склонах. Гэтыя часткі, пастаўленыя ў Н. склоне, часта выражаюць экспрэсіўную (хоць і пастаянную) характарыстыку прадмета: Істомін стаў сапраўдны спецыяліст, таму выбар робіцца на карысць Т. склону.

Пасля звязак называцца, лічыцца, заставацца, здавацца іменная частка звычайна ставіцца ў Т. склоне: Горы толькі на першы погляд здаюцца недалёкімі. Назоўнікі пасля гэтых звязак у тэкстах афіцыйна-справавога стылю могуць ставіцца ў форме Н. склону, каб пазбегнуць рознарачытанняў у найменнях: Адзін з раённых цэнтраў Віцебскай вобласці называецца Глыбокім (праўка: Глыбокае). У нявыпраўленым сказе незразумела, якое найменне мае горад: Глыбокі або Глыбокае.

## 5.7. АДНАРОДНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА

Пры спалучэнні аднародных членаў сказа павінны захоўвацца некаторыя патрабаванні.

1. Аднародныя члены павінны спалучацца на адной аснове (напрыклад, людзі паводле роду заняткаў, колер і г. д.): Аб'яднанне выпускае наборы мэблі з высакаякаснай драўніны, клеенай фанеры, ДСП і для ванных пакояў. Аднародныя члены сказа спалучаны няправільна: пералічаны матэрыял і прызначэнне, таму патрабуецца праўка: Аб'яднанне выпускае наборы мэблі з высакаякаснай драўніны, клеенай фанеры, ДСП і пластыку (для ванных пакояў).

2. Члены дзялення павінны ўзаемна выключацца: На ранішніку прысутнічалі дарослыя, дзеці і школьнікі. Дзеці і школьнікі па значэнні не выключаюць адно другога (атрымліваецца: школьнікі не дзеці). Сказ можа мець наступны выгляд: На ранішніку прысутнічалі дарослыя і дзеці (у тым ліку і школьнікі). Некаторыя спалучэнні,

аднак, выкарыстоўваюцца па традыцыі і не патрабуюць праўкі: фестываль моладзі і студэнтаў.

3. Аднародныя члены павінны быць адным членам сказа і адказваць на адно пытанне: Мы разгледзім такія пытанні, як справаздача рэвізійнай камісіі, сувязі з міжнароднымі арганізацыямі, аб дапамозе ў азеляненні тэрыторыі мікрараёна. Два аднародныя члены адказваюць на пытанне што?, а трэці — аб чым?, таму яго форма павінна быць зменена: ...дапамога ў азеляненні тэрыторыі мікрараёна.

4. Нельга спалучаць у якасці аднародных членаў ускосны склон назоўніка і даданы сказ, дзеепрыметнікавы (дзеепрыслоўны) зварот і даданы сказ, назоўнік і інфінітыў. Напрыклад, у сказе: Камісія пацікавілася станам здароўя супрацоўнікаў і якія меры прымае адміністрацыя для захавання гігіены працы — спалучаны назоўнік у Т. склоне (пацікавілася чым? — станам) і даданы сказ (якія меры...). Выпраўлены вырыянт: Камісія пацікавілася станам здароўя супрацоўнікаў і мерамі, якія прымае адміністрацыя для захавання гігіены працы. Або ў сказе: Студэнтам, забяспечаным спецвопраткай і якія едуць на сельгасработы, зайсці ў дэканат — у якасці аднародных членаў спалучаны дзеепрыметнікавы зварот (забяспечаным...) і даданы сказ (якія едуць...), таму патрабуецца праўка: Студэнтам, якія забяспечаны спецвопраткай і едуць на сельгасработы, зайсці ў дэканат.

5. Пры наяўнасці абагульняльнага слова яго граматычную форму (склон) павінны прымаць усе аднародныя члены: Перападрыхтоўка спецыялістаў, арганізацыя дадатковых гурткоў, забеспячэнне камп'ютэрамі,выбар пляцовак— усё гэта неабходна абмеркаваць на нарадзе. Абагульняльнае слова ўсё стаіць у вінавальным склоне, таму патрабуецца праўка: Перападрыхтоўку спецыялістаў, арганізацыю дадатковых гурткоў...

6. Усе словы, спалучаныя ў якасці аднародных членаў, павінны лексічна спалучацца з іншым словам, ад якога яны залежаць: Шмат клопату і ўвагі надаюць члены нашага клуба дапамозе адзінокім і састарэлым. Дзеяслоў надаваць не можа спалучацца са словам клопат (клопат можна праяўляць), таму ў сказе трэба апусціць словы *клопату і.*

Пры спалучэнні аднародных членаў сказа павінна кантралявацца таксама выкарыстанне злучнікаў.

Злучнік ды, сінанімічны і, мае размоўную афарбоўку і не ўжываецца ў тэкстах афіцыйна-справавога стылю: Пры гэтым прад-

стаўнік юрыдычнай асобы павінен прад'явіць касіру-эксперту пашпарт ды (праўка: і) даверанасць.

Пры ўжыванні супастаўляльнага злучніка не толькі — але і першая частка памылкова можа ставіцца не перад аднародным членам, а перад іншым словам: Будатрад аднавіў не толькі руіны старой царквы, але і пабудаваў новую капліцу. Другая частка злучніка (але і) стаіць перад словам пабудаваў, якое з'яўляецца аднародным да выказніка аднавіў, а першая частка злучніка (не толькі) стаіць перад іншым словам. Сказ патрабуе праўкі: Будатрад не толькі аднавіў руіны старой царквы, але і пабудаваў новую капліцу.

Часам у другой частцы гэтага злучніка замест але -і можа выкарыстоўвацца -а -і. Гэта магчыма толькі тады, калі акрамя часціцы не ў першай частцы злучніка (не толькі) ёсць яшчэ адна часціца не перад дзеясловам: не толькі не выканалі, а і...: Мы не толькі не зменшылі выпуск прадукцыі, а і павялічылі аб'ёмы вытворчасці. Патрабуецца праўка наступнага сказа: Брыгада атрымала добры ўраджай не толькі бульбы, а (праўка: але) і цукровых буракоў.

Аднолькавыя прыназоўнікі пры аднародных членах не заўсёды патрабуюць паўтарэння. Аднак калі аднародныя члены вельмі распаўсюджаныя, стаяць далёка адзін ад аднаго, то паміж імі можа ўзнікнуць аслабленая сувязь; у такім выпадку паўтарыць прыназоўнік неабходна: Поспех у рабоце фірмы ў вялікай ступені залежыць ад умелай арганізацыі маркетынгавай службы кожнага падраздзялення, (ад) своечасовага выканання прынятых бізнес-планаў. У гэтым сказе — два развітыя аднародныя члены: арганізацыі і выканання, якія звязаны з дзеясловам залежыць. Сказ будзе ўспрымацца больш дакладна пры паўтарэнні злучніка «ад» і перад словам выканання.

Нельга апускаць розныя прыназоўнікі: *За кароткі час здолелі стварыць дылерскую сетку ў Расеі, Украіне, Узбекістане, Казахстане, Польшчы, дзе нават пабудавалі аўтазборачны завод і прадалі ўжо каля 100 аўтамабіляў. У сказе перад аднароднымі членамі пастаўлены прыназоўнік у, які не можа стаяць перад словам! Украіне і Узбекістане.* Патрабуецца перастаноўка аднародных членаў сказа з увядзеннем прыназоўнікаў ва і на: ...ва Узбекістане, на Украіне, у Расіі, Казахстане, Польшчы...

Не апускаецца аднолькавы прыназоўнік, калі перад першым аднародным членам сказа стаіць злучнік, які далей паўтараецца, а таксама тады, калі аднародныя члены звязаны размеркавальнымі злучнікамі або, ці і інш. Напрыклад: Праблемы ўзніклі і пры дастаўцы багажу, і (пры) ўладкаванні ў гасцініцу; Сустрэчы праходзяць у клубе або (ў) бібліятэцы.

## 5.8. ПАРАЛЕЛЬНЫЯ СІНТАКСІЧНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ

Паралельныя сінтаксічныя канструкцыі (сінтаксічныя сінонімы) — словазлучэнні або часткі сказа, якія маюць прыблізна аднолькавы сэнс і могуць замяняцца з тымі або з іншымі мэтамі. Сярод прыназоўнікавых словазлучэнняў у якасці прыкладу выкарыстаем наступныя: з дапамогай — пры дапамозе (другі варыянт мае адценне большай канкрэтнасці), з мэтай — у мэтах (першае словазлучэнне, або састаўны прыназоўнік, часцей выкарыстоўваецца пры інфінітыве, другое — пры аддзеяслоўным назоўніку), таблетка ад кашлю — таблетка супраць кашлю (другі варыянт падкрэслівае прызначэнне і мае кніжны характар).

1. **Дзеепрыметнікавы зварот** — дадзены сказ. Дзеепрыметнікавы зварот сінанімічны даданаму азначальнаму сказу са злучальнымі словамі які (якая, якое, якія) і што. Паміж гэтымі канструкцыямі існуюць пэўныя сэнсавыя і стылістычныя адрозненні.

Дзеепрыметнікавы зварот выкарыстоўваецца без абмежаванняў, калі мае ўжывальныя суфіксы і правільную суаднесенасць з назоўнікам: Узважванне і ўпакоўка лому і адыходаў каштоўных металаў выконваюцца матэрыяльна адказнай асобай, прызначанай загадам здатчыка, у прысутнасці спецыяльна створанай здатчыкам камісіі. Няма патрэбы замяняць у гэтым сказе канструкцыю на дададны азначальны сказ (якая прызначана), бо першая канструкцыя больш сціслая і лаканічная.

Патрабуецца замена дзеепрыметнікавага звароту на дададны сказ у выпадку нехарактэрнай формы дзеепрыметніка: Пры правядзенні латарэй імгненнага тыпу выйгрышны білет аплачваецца ў пунктах распаўсюджвання білетаў або праз касу арганізацыі, праводзячай (праўка: якая праводзіць) латарэю.

Адваротная замена можа рабіцца тады, калі злучальнае слова які мае няправільную граматычную сувязь з назоўнікам галоўнага сказа: Тэхнолагі многіх прадпрыемстваў, якія былі запрошаны на семінар, азнаёміліся з новымі метадамі кантролю якасці. У сувязі з тым, што перад злучальным словам множнага ліку першым стаіць назоўнік прадпрыемстваў, узнікае розначытанне, якое ліквідуецца выкарыстаннем паралельнай сінтаксічнай канструкцыі: Тэхнолагі многіх прадпрыемстваў, запрошаныя на семінар, азнаёміліся з новымі метадамі кантролю якасці (дзеепрыметнік назоўнага склону звязваецца толькі з назоўнікам тэхнолагі).

Пры выбары дзеепрыметнікавага звароту або дададага сказа вялікае значэнне мае кантэкст. Напрыклад, калі ў сказе ёсць два

даданыя сказы са злучальным словам які, то адзін (калі можна) пажадана замяніць дзеепрыметнікавым зваротам: Яшчэ адной з галоўных прычын, на якую спасылаюцца спецыялісты, з'яўляюцца занадта высокія тэмпы росту, якія былі зададзены (праўка: зададзеныя) яшчэ летась.

У некаторых сказах з няправільна ўжытым дзеепрыметнікавым зваротам нельга выкарыстаць паралельную сінтаксічную канструкцыю, бо не ліквідуецца памылка: Аб'яднанне распаўсюдзіла сярод бізнесменаў 15 навуковых распрацовак сваіх канструктараў, накіраваных на змяншэнне шкодных выкідаў пры вытворчасці цэменту. Атрымалася, што накіраваны на змяншэнне шкодных выкідаў не распрацоўкі, а канструктары. Не ліквідуе двухсэнсавасці і канструкцыя якія накіраваны (перш за ўсё звязваецца з канструктарамі). У такім выпадку фразу лепш разбіць на два сказы: Аб'яднанне распаўсюдзіла сярод бізнесменаў 15 навуковых распрацовак сваіх канструктараў. Гэтыя распрацоўкі накіраваны на змяншэнне шкодных выкідаў пры вытворчасці цэменту.

2**. Дзеепрыслоўны зварот** — дададзены сказ. Дзеепрыслоўны зварот можа быць сінанімічны даданаму сказу з адносінамі часу (калі, пасля таго як), прычыны (таму што), умовы (калі), уступкі (хаця). Найбольш блізкія ў сэнсавых адносінах дзеепрыслоўныя звароты і даданыя часткі часу: Выканаўшы заданне, навучэнцы пачалі працаваць у малых групах і Калі навучэнцы выканалі заданне, яны пачалі працаваць у малых групах.

Дзеепрыслоўныя звароты распаўсюджаны ў кніжных стылях мовы і характарызуюцца сцісласцю і выразнасцю. Аднак пры ўжыванні такіх канструкцый неабходна выконваць галоўнае патрабаванне: выканаўцам асноўнага дзеяння, выражанага выказнікам сказа, і дадатковага дзеяння, выражанага дзеепрыслоўем, павінна быць адна асоба: Атрымаўшы расходны касавы ордэр, касір-эксперт праводзіць выплату грошай кліенту. Дзеяслоў праводзіць і дзеепрыслоўе атрымаўшы абазначаюць дзеянне адной асобы — касіра-эксперта.

Калі такая сувязь парушаецца, узнікае не толькі сінтаксічная, але і лагічная памылка: Імкнучыся стаць пераможцамі, у групе значна палепшылася сітуацыя з пропускамі. Дзеепрыслоўе імкнучыся мае на ўвазе членаў групы, а выказнік палепшылася адносіцца да дзейніка сітуацыя. Атрымліваецца, што сітуацыя сама імкнецца стаць пераможцай. Такія памылкі даволі пашыраны, як у класічным выразе: Выходзячы з кабінета, у вочы кінулася аб'ява (Ура! Аб'ява выходзіць з кабінета!).

Памылкова ўжытыя дзеепрыслоўныя звароты замяняюцца даданым сказам са злучнікамі кал і, пасля таго як: Маючы на ўвазе шматлікія парушэнні тэхналагічнай дысцыпліны; план выпуску адзення не мог быць выкананы якасна і ў тэрмін; праўка: Калі мець на ўвазе...

У безасабовых сказах дзепрыслоўны зварот не можа быць выкарыстаны, акрамя сказаў, у якіх выказнікам з'яўляецца спалучэнне слова нельга (можна, трэба, важна, неабходна і пад.) з інфінітывам. Напрыклад, сказ Спяшаюныся выканаць сумесны дагавор аб уладкаванні мяжы, было не да асобных дробных парушэнняў на пагранічных пераходах патрабуе праўкі: З-за таго, што мы спяшаліся выканаць сумесны дагавор аб уладкаванні мяжы, нам не хапала часу надавацъ увагу асобным дробным парушэнням на пагранічных пераходах, а сказ Азнаёміўшыся з вынікамі праверкі, можна зрабіць наступныя вывады — правільны.

Не ўжываюцца дзеепрыслоўныя звароты пры выказніках, выражаных дзеясловамі і дзеепрыметнікамі залежнага стану. Нельга пакінуць без праўкі такі сказ: Павысіўшы прадукцыйнасць працы, рабочымі выконваўся план.

Некаторыя дзеепрыслоўныя звароты сталі фраземамі і могуць ужывацца ў любым сказе як пабочныя выразы: інакш кажучы, уласна кажучы, шчыра ка-жучы, мяркуючы па ўсім, пачынаючы з таго і інш.

**3. Канструкцыі з аддзеяслоўнымі назоўнікамі**. Канструкцыі з аддзеяслоўнымі назоўнікамі бываюць сэнсава сінанімічныя розным даданым сказам, што стварае магчымасць выбару ў адпаведнасці з характарам тэксту і мэтай выказвання: Для паляпшэння работы гурткоў трэба прыняць тэрміновыя меры і Для таго каб палепшыць работу гурткоў, трэба прыняць тэрміновыя меры.

У адных выпадках выкарыстанне аддзеяслоўных назоўнікаў з'яўляецца абавязковай умовай захавання стандарту афіцыйна-справавога стылю, у іншых выпадках яны могуць замяняцца паралельнымі сінтаксічнымі канструкцыямі. Напрыклад, у сказе Неабходна клапаціцца аб пашырэнні асартыменту прадукцыі нельга зразумець, што патрабуецца — пашырыць ці пашыраць асартымент.

У якасці паралельных сінтаксічных канструкцый часцей за ўсё выкарыстоўваюцца канструкцыі з асабовымі дзеясловамі. Сказ У мэтах паляпшэння вучэбна-выхаваўчага працэсу і стварэння неабходнай матэрыяльна-тэхнічнай базы патрабуецца павелічэнне асігнавання сродкаў можна адрэдагаваць наступным чынам: Для таго каб палепшыць вучэбна-выхаваўчы працэс і стварыць неабходную матэрыяльна-тэхнічную базу, трэба павялічыць асігнаванне сродкаў.

Могуць выкарыстоўвацца і інфінітывы: Нам трэба часцей праводзіць наведванне вытворчых фірмаў і кантраляванне выканання правілаў тэхнікі бяспекі; праўка: Нам трэба часцей наведваць вытворчыя фірмы і кантраляваць выкананне правілаў тэхнікі бяспекі.

## 5.9. НЕКАТОРЫЯ АСАБЛІВАСЦІ СКЛАДАНЫХ СКАЗАЎ

У навуковым і афіцыйна-справавым стылях часцей ужываюцца складаназалежныя сказы, якія даюць магчымасць пры дапамозе злучнікаў і злучальных слоў выявіць і ўдакладніць адносіны паміж часткамі складанага цэлага.

У сказах з азначальнымі адносінамі ў якасці злучальнага слова выкарыстоўваюцца адносныя займеннікі які (якая, якое, якія), што і каторы. Адразу трэба заўважыць, што дадзеныя часткі са злучальным словам каторы лічацца ўстарэлымі або размоўнымі і ў афіцыйна-справавым стылі не ўжываюцца.

Значна абмежавана ўжыванне злучальнага слова што, якое сустракаецца пераважна ў тэкстах мастацкага стылю. Пры наяўнасці ў складаным сказе тэксту афіцыйна-справавога стылю адной дадзенай азначальнай часткі слова што абавязкова замяняецца на «які»: Дагавор складзены ў трох экзэмплярах, што (праўка: якія) маюць аднолькавую юрыдычную сілу, па адным экзэмпляры кожнаму з бакоў і крэдытору.

Дадзеныя часткі са злучальным словам які найбольш пашыраныя ў тэкстах усіх кніжных стыляў. Вялікае распаўсюджанне такіх канструкцый тлумачыцца таксама адсутнасцю постпазіцыйных дзеепрыметнікавых зваротаў з нехарактэрнымі суфіксамі або неабходнасцю іх замены. Такім чынам, пры правільным суаднясенні злучальнага слова які з патрэбным назоўнікам ужыванне такіх дадзеных частак не сустракае перашкод: *Вызначыць абавязковыя патрабаванні, якія падлягаюць праверцы пры сертыфікацыі прадукцыі Каровы, якія з вечара 9 мая знаходзіліся на адкрытай пашы, з-за нечаканага снегападу сталі замярзаць.*

Стылістычным недахопам складанага сказа будзе выкарыстанне дзвюх дадзеных частак са злучальным словам які. Падобныя сказы можна адрэдагаваць, выкарыстаўшы паралельную сінтаксічную канструкцыю (што бывае даволі рэдка) або замяніўшы адно злучальнае слова які на злучальнае слова што. Пры гэтым трэба сачыць, каб злучальнае слова што не суадносілася з асабовым назоўнікам, бо такія канструкцыі маюць размоўную афарбоўку. У сказе *Сталы, якія знаходзяцца на складзе гатовай прадукцыі,*

*неабходна паўторна перагледзець рабочымі, якія праводзілі іх зборку на завяршальным этапе нельга замяніць якія на што ў другім выпадку, бо слова суадносіцца з рабочымі;* ***праўка****: Сталы, што знаходзяцца...*

Пры немагчымасці такой замены сказ можна перабудаваць, удакладніць або падзяліць на два. Напрыклад, у сказе Пажарная служба, у структурах якой цяпер працуе прыкладна 20 тысяч чалавек, можа недалічыцца многіх высакакласных спецыялістаў, якія будуць вымушаны шукаць сабе новае месца працы першае злучальнае слова не падлягае замене, а другое суадносіцца са спецыялістамі. Магчымы варыянт праўкі: Пажарная служба, у структурах якой цяпер працуе прыкладна 20 тысяч чалавек, можа недалічыцца многіх высакакласных спецыялістаў, і людзі (яны) будуць вымушаны шукаць сабе новае месца працы.

У даданых частках з адносінамі месца ў якасці злучніка ўжываюцца прыслоўі дзе, куды, адкуль або спалучэнне адноснага займенніка з прыназоўнікам. У афіцыйна-справавым стылі прыслоўі выкарыстоўваюцца толькі з назоўнікамі, якія называюць месца і час: *урочышча, дзе мы прапануем пачаць будаўніцтва; момант, калі адбываецца выбух.* У іншых выпадках патрабуецца замена прыслоўя на адносны займеннік з прыназоўнікам: *На жаль, папка, дзе (****праўка:*** *ў якой) можна было знайсці справаздачу за 2004 год, знікла.*

У складаных сказах сустракаюцца памылкі, звязаныя з адсутнасцю ўказальнага слова перад даданай часткай. Яно абавязкова выкарыстоўваецца тады, калі апорнае слова выражана дзеясловам, які па сваім лексічным значэнні не ўжываецца без дапаўнення: Трэба накіраваць увагу (праўка: на тое), каб школа была адрамантавана да 1 жніўня, Недахопы заключаюцца (праўка: ў тым), што прыбор не дае такой высокай дакладнасці вымярэнняў.

У афіцыйна-справавым стылі нельга парушаць парадак слоў у суадносных аднародных даданых частках і захоўваць яго або прамым, або адваротным (калі такое прымальна). Таму няўдалым можна лічыць сказ: Неабходна адзначыць, што мы поўнасцю падрыхтаваліся да правядзення свята: заасфальтавана галоўная плошча аграгарадка, заменены платы на вуліцы Калгаснай, асвятленне адрамантавана або ўстаноўлена новае, высаджана шмат кветак. У трэцім аднародным сказе трэба таксама выкарыстаць адваротны парадак слоў (адрамантавана або ўстаноўлена новае асвятленне).

Як і ў простым сказе, у складаным таксама сустракаюцца выпадкі кангамінацыі (змешвання): *Наступнае, на чым спыніўся*

*прамоўца, гэта аб сваёй паездцы ў Лёзна: праўка: Далей прамоўца спыніўся на выніках сваёй паездкі ў Лёзна.*

Пры неабходнасці замены простай мовы канструюецца складаназалежны сказ.

Калі простая мова аформлена апавядальным сказам, яна перабудоўваецца ў даданы дапаўняльны сказ са злучнікам што: Эканаміст заўважыў: «*Вы атрымалі добры прыбытак». — Эканаміст заўважыў, што мы атрымалі добры прыбытак.*

Калі простая мова аформлена пытальным сказам з пытальным словам, яна перабудоўваецца ў даданы дапаўняльны сказ з тым жа словам: «Якую дапамогу атрымала ваша вайсковае падраздзяленне? Чым я змагу дапамагчы?» — пацікавіўся начальнік штаба. — Начальнік штаба пацікавіўся, якую дапамогу атрымала наша вайсковае падраздзяленне і чым ён зможа дапамагчы. Пры адсутнасці ў простай мове пытальных слоў у дадaную частку ўводзіцца злучнік ці, які ставіцца на першае месца: Кантралёр спытаў: «Маеце вы талоны на праезд?» — Кантралёр спытаў, ці маем мы талоны на праезд.

Калі ў простай мове прысутнічае загад, просьба і пад., яна перабудоўваецца ў даданы дапаўняльны сказ са злучнікам каб, пры гэтым звароткі, пабочныя словы, часціцы і інш. не паўтараюцца: «Андрэй Мікалаевіч, падрыхтуйце, калі ласка, да заўтра справаздачу аб забеспячэнні дзяцей гарачым харчаваннем», — папрасіў дырэктар свайго намесніка. — Дырэктар папрасіў намесніка, каб ён падрыхтаваў да заўтра справаздачу аб забеспячэнні дзяцей гарачым харчаваннем.

Самай распаўсюджанай памылкай пры перадачы чужога выказвання з'яўляецца змешванне простай і ўскоснай мовы : Загадчык аддзела спытаў, хто паедзе са мной (праўка: з ім) у НДІ.

## Пытанні для самакантролю

1. Ахарактарызуйце асаблівасці парадку слоў у сказе.
2. Якія асаблівасці каардынацыі выказніка і дзейніка з'яўляюцца для вас найбольш складанымі або спрэчнымі?
3. Чаму неабходна надаваць вельмі вялікае значэнне нормам кіравання? Раскажыце пра асаблівасці кіравання ў беларускай мове.
4. Якія спосабы замены канструкцыяй з прыназоўнікам па вы ведаеце?
5. Якія памылкі могуць сустрэцца пры выкарыстанні дапаўненняў?

6. У чым заключаюцца асаблівасці састаўнога іменнага выказніка?

7. Ахарактарызуйце асаблівасці спалучэння аднародных членаў сказа.

8. Якія патрабаванні трэба выконваць пры ўжыванні злучнікаў для спалучэння аднародных членаў сказа?

9. Што трэба ведаць пра ўжыванне прыназоўнікаў пры аднародных членах сказа?

10. Раскажыце аб асаблівасцях дзеепрыметнікавага звароту і магчымасці яго замены на даданы сказ.

11. У чым заключаюцца асаблівасці ўжывання дзеепрыслоўных зваротаў?

12. Раскажыце аб неабходнасці праўкі канструкцый з аддзеяслоўнымі назоўнікамі.

13. Раскажыце аб недахопах у даданых азначальных сказах.

14. Ахарактарызуйце асноўныя недахопы, якія могуць сустракацца ў складаных сказах.

15. Якія памылкі могуць быць пры замене простай мовы на ўскосную?

## Тэмы рэфератаў

1. Сінтаксічныя сувязі ў словазлучэнні і іх характарыстыка.
2. Даданыя члены сказа.
3. Сэнсавыя адносіны паміж часткамі складаназалежнага сказа.
4. Сказы складанай сінтаксічнай будовы.
5. Складанае сінтаксічнае цэлае.
6. Тэкст і яго асаблівасці.
7. Пунктуацыя складанага сказа.

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАДАННІ

33. Выберыце і запішыце правільны варыянт словазлучэння.

33.1 У пяці кіламетрах ад трэка — за пяць кіламетраў ад трэка, накіравацца па цэмент — накіравацца за цэментам, чэмпіянат па футболе — чэмпіянат па футболу, захворванні на сальманелёз — захворванні сальманелёзам, адправіць па адрасу фірмы — адправіць па адрасе фірмы — адправіць у адрас фірмы — адправіць на адрас фірмы, па шматлікіх просьбах — па шматлікім просьбам, звярнуцца

за даведкай — звярнуцца па даведку, згодна пратаколу — згодна пратакола — згодна з пратаколам, два першых класа — два першыя класы, спаборніцтвы па кросу — спаборніцтвы па кросе, насміхацца з калег — насміхацца над калегамі, ажаніцца на Ганне — ажаніццца з Ганнай, загадчык аддзялення — загадчык аддзяленнем.

33.2 Працаваць па правілам — працаваць па правілах, аддзякаваць сацыяльных работнікаў — аддзякаваць сацыяльным работнікам, звярнуцца за дапамогай — звярнуцца па дапамогу, за сем крокаў ад дома — у сямі кроках ад дома, кпіць з дзяўчыны — кпіць над дзяўчынай, захварэлі на пнеўманію — захварэлі пнеўманіяй, прабачыць нас — прабачыць нам, тры сумесныя пратаколы — тры сумесных пратакола, загадчык склада — загадчык складам, насміхацца над будаўнікамі — насміхацца з будаўнікоў, накіруйце па нашаму адрасу — накіруйце на наш адрас — накіруйце ў наш адрас — накіруйце па нашым адрасе, згодна дамоўленасцей — згодна дамоўленасцям — згодна з дамоўленасцямі, накіраваць за паперай — накіраваць па паперу.

34. Адрэдагуйце сказы з памылкамі ў кіраванні.

34.1. Вечарам, калі я ішоў за сокам, убачыў каля дзесятка мужчын, якія рыхтаваліся пераначаваць у лесе. 2. Толькі навошта насміхацца над людзьмі? 3. На продаж прапануюцца дзве казармы, сховішча для тэхнікі ды іншыя пабудовы ў ваенгарадку № 6, што ў сямі кіламетрах ад Смаргоні. 4. 11 жніўня за хуткай урачэбнай дапамогай звярнуліся 1404 мінчаніны. 5. Прыехаўшы за грыбамі, я з дапамогай ланцуга і замка прымацаваў свой веласіпед да дрэва. 6. Захворванні коклюшам выраслі ў 3,6 раза, чырвонкай — у 1,5 раза, ветраной воспай — у 1,4 раза. 7. Сустракаюцца факты, калі мужчына, напрыклад, з Германіі, і сапраўды жэніцца на дзяўчыне з нашых краёў. 8. Мы аддзячылі евангельскіх хрысціян-баптыстаў за дапамогу некаторым навучэнцам ПТВ № 164. 9. Дзіця пакінулі каля ўвахода ў дом састарэлых, дзе тады працавала А. С. Выгонная, якая і стала даглядаць за дзяўчынкай, накіраванай у дзіцячы дом. 10.1 вельмі крыўдна, калі ў адрас сацыяльных работнікаў ідуць скаргі.

35. Выпраўце памылкі ў канструкцыях з прыназоўнікам па.

35.1. 1. Вываз на палі арганікі, падкормка траў вядзецца амаль што па мінулагодняму графіку. 2. Урад мае права па ўзгадненню з Прэзідэнтам вызначаць пералік тавараў, увоз і вываз якіх будуць

ажыццяўляць толькі ўпаўнаважаныя на гэта арганізацыі. 3. Далей па аб'ёму закупак ідуць пшаніца, трыцікале і ячмень. 4. Заявы на ўдзел у аўкцыёне прымаюцца па адрасу Камітэта па распараджэнню акцыямі. 5. Такая якасць прадукцыі па сённяшнім меркам вельмі нізкая. 6. Наша аб'яднанне ўжо не першы раз выконвае заказы амерыканскіх фірмаў па пашыву галаўных убораў.

35.2.1. Супрацоўнікі аўтаінспекцыі маюць намер праводзіць пэўную растлумачальную работу з аўтаўладальнікамі па растлумачэнню правілаў паводзін на дарогах. 2. За дрэнную арганізацыю работ па корманарыхтоўцы, па догляду за пасевамі, падрыхтоўцы да жніва сямі старшыням калгасаў аб'яўлены вымовы. 3. У камісіі ўзніклі пытанні па статуту аб'яднання. 4. Прайшлі пасяджэнні раённых камісій па надзвычайным сітуацыям, на якіх вызначаны комплекс канкрэтных мерапрыемстваў па адводу вады і папярэджванню вынікаў паводкі. 5. Цяпер наша СП выконвае 14% аб'ёму работ па мантажу абсталявання для тэлефонных станцый. 6. Сума разлічваецца па афіцыйнаму курсу Нацбанка на дзень прыёму. 7. З 10 снежня распачынаецца шырокамаштабная кампанія па продажу айчыннай прадукцыі да навагодніх святаў.

36. Адрэдагуйце сказы на сінтаксічным узроўні.

36.1. 1. Семінар праводзіцца з мэтай абмену творчым вопытам, а таксама для вывучэння стану, агульных тэндэнцый і нацыянальных асаблівасцей сучаснага мастацтва на Беларусі, краінах СНД і Балтыі. 2. Аднак улічваючы прагнозную тэндэнцыю росту на сусветным рынку цаны на нафту, магчымасці нашага аб'яднання па закупцы нафтапрадуктаў будуць зніжацца. 3. Сярод прыярытэтных напрамкаў работы БелТА на сходзе акрэслены наступныя: дзяржаўнай бяспекі, міжнароднага жыцця, грамадзянскай супольнасці. 4. Для выпрацоўкі стратэгіі развіцця фірмы трэба асэнсаваць не толькі адметнасць нашай прадукцыі, але і зразумець прычыны падзення попыту на яе. 5. Звярнуцца да Вас мяне вымусілі абставіны, якія некалькі гадоў не могуць вырашыць мясцовыя ўлады, спланаваўшыя гэту праблему і на якіх спасылаюцца работнікі санітарнай службы. 6. З гэтай нагоды святар падзякаваў і блаславіў усіх ахвярадаўцаў. 7. Не пашанцуе заўтра танцорам народных калектываў на такой падлозе, сказаў старшыня журы. 8. Да 200-годдзя з дня нараджэння А.Міцкевіча прымеркавана адкрыццё бюста паэта-гуманіста ў Гродне.

36.2.1. Гледачы ўбачаць групавыя скачкі з парашутам паветраных акрабатаў. 2. На ўзроўні масавай свядомасці пра жаночае пытанне мы, жанчыны, цяжка сказаць, дзе знаходзімся. 3. Зніжэнне рэнтабельнасці вытворчасці на 3,6% сумесна з ростам інфляцыі таксама спарадзілі праблему збыту прадукцыі фірмы. 4. Кватэру па вуліцы Леніна, пагражаючы дробнакаліберннай вінтоўкай, абрабавалі ў прысутнасці гаспадара, завалодаўшы заадно і аўтамабілем «Міцубісі». 5. КДБ папярэдзіла прэс-сакратара партыі. 6. Да канца года будзе змененая сістэма чыгуначных тарыфаў. 7. З-за засухі калгас можа не сабраць неабходную колькасць збожжа. 8. Калі ў бліжэйшы час не прыняць рашучыя захады па вывучэнню хваробы і стварэнні новых лекавых сродкаў, можа распачацца сапраўдная эпідэмія.

1. Суддзя Г. С. Журба правяла папярэднюю гутарку з бакамі па справе з зацікаўленымі асобамі. 2. Па гэтай прычыне пэўнай частцы пірацкіх копій фільмаў не вельмі надаюць увагу. 3. Па стану на 2 ліпеня нітка газаправода працягласцю 209 км ізаляваная і закладзеная ў зямлю. 4. Часта дэфіцыт звязаны з адсутнасцю сувязяў з прадпрыемствамі іншых дзяржаў, перарваных яшчэ ў 90-ыя гады. 5. У гэтай і папярэдніх рэкламных кампаніях фірмы ёсць і іншыя пераможцы: некалькі маладых супрацоўніц беларускага прадстаўніцтва «Філіп Морыс», якія працуюць у цэнтрах па прыёму картак розыгрышу, выйшлі замуж за хлопцаў, якія прыносілі гэтыя карткі. 6. Гэта даволі высокі паказчык, улічваючы, што раней прамымі пастаўкамі ў далёкае замежжа прадпрыемства не займалася. 7. Усе сілы пажарных кінутыя на тушэнне агню ў лясах і тарфяніках, акрамя таго, пажарныя дзяжураць на палях, дзе ідзе ўборка ўраджаю. 8. Ад аплаты збору вызваляюцца ветэраны вайны, мнагадзетныя сем'і, юрыдычныя асобы. якія фінансуюцца з рэспубліканскага ці мясцовых бюджэтаў, дыпламатычныя і консулькая ўстановы, а таксама арганізацыі, якія выкарыстоўваюць аўтатранспартныя сродкі ў якасці таксі.

36.4. Гэта стала вынікам павышэння тэмпературы паветра, якое выклікала другую хвалю генерацыі гнюсу. 2. Хусцінкай ён пачынаў выціраць вочы ў той момант, калі хто-небудзь з жыльцоў дома, выйшаўшы з пад'езда, прходзілі каля яго. 3. Мэтай канферэнцыі будзе вызначэнне механізму найбольш эфектыўнага ўзаемадзеяння паміж органамі дзяржаў, якія кіруюць пытаннямі закупак харчовага збожжа. 4. Нашы выпускнікі працуюць сёння не толькі ў Беларусі, але і ў Польшчы, ЗША, Канадзе, Францыі, Вялікабрытаніі, Ізраілі, Расіі, Украіне і іншых краінах свету. 5. Доўгі кантакт вачэй з яркім

святлом, напрыклад, падчас электразварачных работ, часам выклікае запаленне кан'юнктывы: гэтае расстройства вылечваецца звычайна на наступны дзень пасля закапвання альбуцыду і халоднага кампрэсу. 6.Уключыць у склад дэлегацыі дырэктара каледжа В. М. Манкевіча і загадчыка струнным аддзяленнем Л. Б. Старасценку. 7. Не знайшлі сабе занятак і зарэгістраваліся ў цэнтры заня- тасці 22 мінулагоднія выпускнікі школ раённага цэнтра. 8. У Наваполацку, які выкарыстоўвае падземныя воды, коль- касць жалеза ў 2—5 разоў вышэйшая за норму, часам трап- ляецца аміяк, які перавышае норму на 0,5 мг.

37. Правядзіце рэдагаванне тэксту дакладной запіскі на ўсіх узроўнях.

Па Вашаму даручэнню мною праверана гатоўнасць СШ № 3 к новаму навучальнаму году.

Устаноўлена, што асноўныя унутранныя работы завершаны к 01.08.2005. Заканчываецца пастаўка мэблі і сантэхнічнага абсталявання. Алначасова неабходна зазначыць, што дырэктар школы С.Б.Перагудава у мэтах хутчэй завяршыць будаўніцтва заключала дагаворы з камярцыйнымі фірмамі. У выніку чаго зрасходваны бюджэтныя сродкі звыш за ўстаноўлены ліміт.

Завуч школы К.В.Чэраповіч правяла недастатковую работу па набору настаўніцкага каллектыва ды абслугоўваючага перегнала, з-за чаш можа адбыцца срыў пачатку заняткаў з 1 верасня 2005 года.

Лічу, што неабходна ваша асабістае ўмяшанне па навядзенню должнага парадку ў школе, пры неабходнасці прымяненне спагнанняў на прадстаўнікоў адміністрацыі

# Раздзел 6
# ТЭОРЫЯ І ПРАКТЫКА ПЕРАКЛАДУ

Валоданне некалькімі мовамі ў сучасных умовах — патрэба часу. Месца спецыяліста ў штатным раскладзе любой арганізацыі вызначае не столькі спецыяльнасць, зафіксаваная ў дыпломе, колькі трывалыя веды, якасныя навыкі і ўменні ў выбранай галіне вытворчасці. Менавіта моўная кампетэнцыя сакратара часта адыгрывае ў гэтым вызначальную ролю.

Дзяржаўнасць беларускай і рускай моў у Рэспубліцы Беларусь выклікае патрэбу дасканалага валодання абедзвюма мовамі, што асабліва датычыцца сакратара са службовай дакументацыяй. Афармленне дакумента на другой дзяржаўнай мове, пераклад яго з адной мовы на другую становяцца адной з неабходных частак сакратарскай практыкі.

Важна, каб у час правядзення перакладу сакратар умеў пераключацца з адной мовы на другую, усведамляць асаблівасці кожнай з іх. Пры гэтым найважнейшае значэнне маюць не так арфаграфічныя навыкі, як разуменне лексічных, марфалагічных і сінтаксічных адметнасцей беларускай мовы. Пераклад з блізкіх, роднасных моў толькі на першы погляд можа здацца простай і будзённай працай.

Для перакладу сакратар павінен мець грунтоўныя руска-беларускія слоўнікі, якія выдаюцца пад рэдакцыяй Інстытута мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук. Звычайныя перакладныя слоўнікі для сярэдняй школы не могуць даць адказ на ўсе пытанні, якія ўзнікаюць у час працы над тэкстам.

Пераклад тэксту дакумента варта пачынаць з яго прачытання. Спачатку можна рабіць заўвагі на асобным лісце аб паўтарэнні слоў і выразаў (што для афіцыйна-справавога стылю — нармальная з'ява), каб потым кожны раз не звяртацца да слоўніка. Пасля пачынаецца вызначэнне ўзроўняў перакладу і непасрэдна сам яго працэс.

## 6.1. УЗРОЎНІ ПЕРАКЛАДУ

Узроўні перакладу адпавядаюць парадку моўных адзінак: фанеме, марфеме, слову, словазлучэнню, сказу, абзацу і ўсяму тэксту.

Часцей за ўсё ўзроўні перакладу сумяшчаюцца, утвараючы камбінаваны тып.

**Пераклад на ўзроўні фанем**. Перакладаюцца ўласныя назвы і некаторыя рэаліі жыцця. Часцей за ўсё слоўнік у гэтым выпадку не можа быць памочнікам, таму што змясціць мільёны прозвішчаў і геаграфічных найменняў не па сіле ніводнаму акадэмічнаму выданню. Таму неабходна ведаць фанетычныя законы беларускай мовы і іх замацаванне ў якасці арфаграфічных нормаў. Напрыклад, трэба перакласці прозвішча *Дюдяев*. Фанетычны закон «дзекання» падказвае, што абедзве д у слове павінны пісацца як «дз», закон пераходу «в» на канцы слова ў «ў» патрабуе напісання гэтай літары. Такім чынам, атрымліваем: Дзюдзяеў. Другі прыклад: Шредер. Адчуваецца, што гэта прозвішча замежнага паходжання, таму, дзе б ні знаходзіўся націск, у слове будуць два э: Шрэдэр. Трэці прыклад: г. Горнозаводск. Складанае па структуры слова мае пабочны націск, таму ў напісанні змяняецца толькі злучальная галосная: г. Горназаводск.

**Пераклад на ўзроўні марфем**. З'яўляецца больш высокім у адносінах да папярэдняга. Напрыклад, *полез-н-ый — карыс-н-ы.* У прыметніках дзвюх моў аднолькавая толькі адна марфема — суфікс —н-. Пры перакладзе слова *не-вес-ом-ость — бяз-важ-к-асць* заўважаецца, што пераклад на ўзроўні марфем не што іншае, як калькаванне. Іншыя прыклады: *кол-хоз — кал-гас, ликвид-иров-а-ть — ліквід-ав-а-ць* (але: завхоз — загадчык гаспадаркі). Нельга перакладаць на ўзроўні марфем геаграфічныя найменні, напрыклад: Североморск не можа гучаць як Паўночнаморск, а толькі Севераморск.

**Пераклад на ўзроўні слоў.** Можа закрануць увесь сказ, калі кожнае слова перакладаецца асобна і спалучаецца з іншымі. *На это нельзя надеяться. — На гэта нельга спадзявацца.* Пераклад на ўзроўні слоў найбольш лёгкі, але не заўсёды бывае адпавядае арыгіналу: часта ўзнікаюць сэнсавыя адрозненні ў некаторых выразах. Напрыклад, сказ: *Органы управления района заняли неопределенную позицию и не информировали заведующих магазинами о новом постановлении*, нятворча перакладзены на ўзроўні слоў, можа мець наступны выгляд: *Органы ўпраўлення раёна занялі неазначальную пазіцыю і не інфармавалі загадчыкаў магазінамі аб новым пастанаўленні.* Усе словы гэтага сказа фіксуюцца слоўнікамі беларускай мовы, аднак пераклад не ідэнтычны арыгіналу і патрабуе праўкі: *Органы кіравання раёна занялі нявызначаную пазіцыю і не інфармавалі загадчыкаў магазінаў аб новай пастанове.*

**Пераклад на ўзроўні словазлучэнняў.** Перакладаюцца ўстойлівыя выразы. Але часам бывае так, што і свабодныя словазлучэнні па

значэнні складнікаў могуць у дзвюх мовах не супадаць, і тады пераклад ажыццяўляецца на ўзроўні словазлучэнняў. Прыклад: *В случае чего обращайтесь к нам. — Калі што якое, звяртайцеся да нас.* Відаць, што тут выкарыстаны камбінаваны ўзровень перакладу: у першай частцы сказа — на ўзроўні словазлучэнняў, у другой — на ўзроўні слоў.

**Пераклад на ўзроўні сказаў**. Не ахоплівае гэту сінтаксічную адзінку. Часам пасля перакладу не супадае колькасць слоў са сказам арыгінала (напрыклад, пры замене нехарактэрных формаў дзеепрыметнікаў, устойлівых выразаў і інш.). Галоўным для сакратара з'яўляецца захаванне сэнсу сказа пры перакладзе, адсутнасць розначытанняў і г. д.

Пераклад на ўзроўні сказаў з'яўляецца самым распаўсюджаным.

**Пераклад на ўзроўні абзаца**. Робяцца пераклады мастацкіх тэкстаў з далёкароднасных моў, калі неабходна захаваць асноўныя сюжэтныя лініі і па магчымасці стылістычныя асаблівасці мовы пісьменніка. Пры перакладзе на ўзроўні абзаца ўлічваецца яго аб'ём, які павінен быць прыблізна роўны арыгіналу.

**Пераклад на ўзроўні тэксту**. Перакладаюцца ў асноўным мастацкія, у прыватнасці паэтычныя, тэксты, а таксама найменні мастацкіх твораў.

Пераклад тэкстаў службовых дакументаў на ўзроўні абзаца і тэксту не практыкуецца, бо страчваецца дакладнасць перадачы зместу.

Такім чынам, найбольш пашыраныя ўзроўні перакладу — гэта пераклад на ўзроўні сказаў і словазлучэнняў. Аднак пераклад толькі на нейкім адным узроўні практычна не сустракаецца.

## 6.2. ПРАКТЫКА ПЕРАКЛАДУ

Як ужо адзначалася, пераклад тэксту афіцыйна-справавога стылю будзе рабіцца пераважна на ўзроўні сказаў і словазлучэнняў. Дакладнасць дакумента практычна не дазваляе змяняць межы сказа, што можа прывесці да скажэння сэнсу выказвання. Сумяшчэнне сказаў не робіцца зусім (пры правільнай іх пабудове), а падзел аднаго сказа ў рускай мове на два сказы ў беларускай павінен мець пераканаўчае абгрунтаванне.

### Прыклады перакладу асобных сказаў

*1. Особо отмечу, что предлагаемая мебель — только высшего качества — реализует собой концепцию современного европейского интерьера.*

Пры азнаямленні са сказам выяўляецца, што ў ім маецца дзеепрыметнік з суфіксам —ем-: предлагаемая, які неабходна замяніць: прапануемая прапанаваная (змена часу дзеепрыметніка залежнага стану ў гэтым выпадку не змяняе сэнсу). Пры выбары слоў для перакладу звернем увагу на прыслоўе особо, якое мае паронімы (гл. тэму 3.7), таму больш правільна выбраць асабліва (каб не ўзнікла думка, што асоба нейкім чынам звязваецца са спецыяльнымі функцыямі). З формаў слоў можна ўбачыць прыметнік высшего (найвышэйшая ступень параўнання ў рускай мове), які трэба перакласці самай высокай (якасці). Такім чынам, перакладзены сказ мае наступны выгляд:

*Асабліва адзначу, што прапанаваная мэбля— толькі самай высокай якасці— рэалізуе сабой канцэпцыю сучаснага еўрапейскага інтэр'ера.*

*2. В связи с этим Центральная комиссия по выборам признала выборы по Витебскому—Горьковскому избирательному округу №61 несостоявшимися и отказала в регистрации в качестве депутата Николаю Колядко.*

У сказе ёсць дзве канструкцыі з прыназоўнікам па (гл. тэму 5.4). Адна з іх уваходзіць у склад наймення (таму нельга замяніць прыназоўнік), другая рэалізуе прасторавыя адносіны з залежнымі словамі жаночага роду округ — акруга (гл. тэму 4.1.1). Прозвішча асобы мужчынскага полу на —а (Калядка) скланяецца і стаіць у давальным склоне (тэма 4.1.6). Дзеепрыметнік несостоявшимися не можа мець форму неадбыўшыміся; замена яго на дадаsucceeded азначальны сказ не прыносіць чаканых вынікаў (нельга: прызнаць выбары, якія не адбыліся), таму трэба шукаць найбольш прымальныя замены на іншыя канструкцыі: дзеяслоў прызнала можа мець пасля сябе дадаую дапаўняльную частку (прызнала, што...). Гэта і становіцца адпраўным пунктам для замены дзеепрыметніка. І, нарэшце, выраз афіцыйна-справавога стылю «адмовіла ў рэгістрацыі» пакідаецца (нельга: адмовілася зарэгістраваць). Перакладзены сказ мае выгляд:

*У сувязі з гэтым Цэнтральная камісія па выбарах прызнала, што выбары па Віцебскай—Горкаўскай выбарчай акрузе № 61 не адбыліся, і адмовіла ў рэгістрацыі ў якасці дэпутата Мікалаю Калядку.*

*3. Пектины, по сути, уникальны: представляя собой природные органические соединения — полисахариды, они за счет особого строения способны вступать в контакт с металлами.*

У бяззлучнікавым складаным сказе — выказнікі з двума прыметнікамі кароткай формы «уникальны» і «способны», якія пры перакуладзе павінны атрымаць поўную форму (гл. тэму 4.2.1). Дзеепрыслоўе «представляя» ўтвараецца па мадэлі беларускага: уяўляючы (гл. тэму 4.5.5). Устойлівы выраз «за счёт» (састаўны прыназоўнік) мае форму за кошт. Навуковыя тэрміны «пектины» і «полисахариды», пры адсутнасці іх у слоўніку, перакладаюцца на ўзроўні фанем (пекціны) і марфем (поліцукрыды). Перакладзены сказ:
*Пекціны, па сутнасці, унікальныя: уяўляючы сабой прыродныя арганічныя злучэнні— поліцукрыды, яны за кошт асаблівай будовы здольныя ўступаць у кантакт з металамі.*

*4. В срок до 19 января 2004 года надлежаще оформленные ведомости результатов инвентаризации складов и акты сверки расчетов с фирмами «Класс-К» и «Ариадна» представить мне на утверждение.*

Сказ (пункт загада) мае выказнік-інфінітыў «представить», які ў слоўніку мае шматлікія варыянты перакладу: падаць, прывесці, паказаць, прад'явіць, прадставіць, стылістычная норма патрабуе выбару дзеяслова падаць або прадставіць. Назоўнік срок у мове дакументаў перакладаецца як тэрмін (нават калі мае амонім), а не час. Назоўнік «результат» перакладаецца двума словамі: рэзультат і вынік. Думаецца, што слова рэзультат можа функцыянаваць толькі ў тых сказах, дзе ўжо ёсць слова вынік (для іх размежавання). Пры адзінкавым выкарыстанні трэба выбіраць слова вынік, якое больш адпавядае беларускай моўнай сістэме (параўн.: у рэзультаце — памылковы выраз, у выніку — правільны). Назоўнік складове стаіць у родным склоне множнага ліку; у рускай мове напісанне слова не змяняецца ад націску, а ў беларускай можа ўзнікнуць памылка, таму неабходна праверыць па слоўніку (складоў, а не складаў). Аддзеяслоўнм назоўнік «утверждение» перакладаецца «зацвярджэнне» (не сцвярджэнне). Найменні фірмаў перакладаюцца на ўзроўні фанем. Перакладзены сказ:
*У тэрмін да 19 студзеня 2004 года належна оформления ведамасці вынікаў інвентарызацыі складоў і акты зверкі разлікаў з фірмамі «Кпас-К» і «Арыядна» падаць мне на зацвярджэнне.*

*5. Пунктом 42 Положения о порядке назначения и выплаты государственных пособий семьям, воспитывающим детей, предусмотрено: если родитель в неполной семье, воспитывающей ребенка в возрасте старше S лет, не работал свыше 4 месяцев на день возникновения права на пособие, оно не назначается и не выплачивается.*

Гэты складаны сказ пакінем без каментарыяў перакладу. Паспрабуйце самастойна адказаць на пытанні: Чым выклікана ўжыванне прыназоўніка што? Чаму родитель не перакладзена адзін з бацькоў? З якой мэтай пашыраны сказ (уведзены ўстаўныя канструкцыі ў дужках)? Чаму не выбрана форма прыметніка старэй! У чым прычына замены займенніка оно на яна'?

*Пунктам 42 Палажэння аб парадку прызначэння і выплаты дзяржаўных дапамог сем'ям, што выхоўваюць дзяцей, прадугледжана: калі маці (бацька) у няпоўнай сям'і, якая выхоўвае дзіця ва ўзросце старэйшым за 8 гадоў, не працавала (працаваў звыш 4 месяцаў на дзень узнікнення права на дапамогу, яна не прызначаецца і не выплачваецца.*

Прыклад перакладу тэксту

Рускамоўны тэкст службовага пісьма пакінем без змен (з недахопамі) і пры перакладзе будзем рабіць тлумачэнні з праводзіць праўку-пераробку. У тэксце зменім назвы прадпрыемстваў, каб не выклікаць непатрэбных папрокаў у непрафесіяналізме складальнікаў пісьма. Пераклад будзем рабіць абзацам! на розных узроўнях. Абзацы пранумаруем. Каментарыі змесцім пасля перакладу

1. Рад, представившейся возможности, засвидетельствовать Вам свое почтение и на Ваш исх. № 04-36/179 от 21.01.2004г. сообщить:

2. 25 мая 2003г. между нашими предприятиями был заключен договор купли-продажи № 51, во исполнение которого, в соответствии с достигнутой договоренностью, о порядке и сроках поставки, наше предприятие 10.06.03г. (ТТЛ №896860 от 06.06.03г. и 5.07.03г. ТТЛ №896868 от 22.06.03г. поставило в Ваш адрес углерод технический марки К 354. Исполненное ООО «Торнадо», ОАО «Спецезина» приняло без каких либо оговорок и возражений, что свидетельствует о надлежащем исполнении ООО «Торнадо» своих договорных обязательств.

3. Ваше предприятие обязалось оплатить товар в течении 25-ти дней с момента его получения. Однако обязательство об оплате товара, исполнено Вами несвоевременно. Неоднократные наши требования к Вам о незамедлительной оплате поставленного товара (исх. №262 от 24.08.03 г.; исх. № 303 от 22.09.03г.) по неизвестным причинам оставались без ответа.

1. Рад магчымасці засведчыць Вам сваю павагу і на Ваш зых. № 04-36/179 ад 21.01.2004 паведаміць наступнае.

2. 25.05.2003 паміж нашымі прадпрыемствамі быў заключаны дагавор куплі-продажу № 51, у лотах выканання якога і ў адпаведнасці з дасягну тай дамоўленасцю а б парадку і тэрмінах пастаўкі наша прадпрыемства 10.06.2003 (ТТЛ № 896860ад 06.06.2003 г і 05.07.2003 ТТЛ№ 896868 ад 22.06.2003) пастaвіла на Ваш адрас вугляpод тэхнічны маркі К 354. Выкананыя ТАА «Тарнада» пункты дагавора ААТ«Спецрызіна» прыняла без якіх-небудзь агаворак і пярэчанняў, што сведчыць аб належным выкананні ТАА « Тарнада» сваіх догаворных абавязацельстваў.

3. Ваша прадпрыемства абавязалася аплаціць тавар на працягу 25 дзён з моманту яго атрымання. Аднак абавязацельства аб аплаце тавару выканана Вамі несвоечасова. Неаднаразовыя нашы патрабаванні да Вас аб неадкладнай аплаце пастаўленага тавару (зых № 262 ад 24.08.2003; зых. № 303 ад 22.09.2003) па невядомых прычынах засталіся без адказу.

4. Фактическая просрочка оплаты составила 75 дней

5. Более того, п.4.3., договора № 51 от 25 мая 2003 года, предусматривает штрафные санкции в отношении просрочившего оплату Покупателя в виде пени в размере 0,5% от суммы договора. В связи с чем нами в Ваш адрес была направлена претензия об оплате поставленного товара и штрафных санкций по состоянию на 06.10.03г. (исх. №328 от 06.10.03г.).

6. Указанная претензия в части оплаты суммы штрафных санкций удовлетворена Вами не в полном объеме. Уплачена лишь часть штрафных санкций, а именно 3 910 рублей РФ.

7. Принимая во внимание выше изложенное, полагаю, Ваши требования о возврате суммы в размере 3 910руб. РФ являются безосновательными, противоречащими условиям договора.

8. Более того, Ваша задолженность по уплате штрафных санкций по состоянию на 01.03.2004г. составляет 44 352,5руб. РФ из расчета: общая стоимость поставленного товара—128 700руб. РФ;

4. Фактычная пратэрміноўка аплаты склала 75 дзён.

5. Акрамя таго, п. 4.3 дагавора № 51 ад 25.05.2003 прадугледжвае штрафныя санкцыі ў адносінах да Пакупніка, які пратэрмінаваў аплату, у выглядзе пені ў памеры 0,5% ад сумы дагавора. У сувязі з гэтым намі на Ваш адрас была накіравана прэтэнзія аб аплаце пастаўленага тавару і штрафных санкцый па стане на 06.10.2003 (зых. № 328 ад 06.10.2003).

6. Указаная прэтэнзія ў частцы аплаты сумы штрафных санкцый задаволена Вамі не ў поўным аб'ёме: уплачана толькі час- тка штрафных санкцый, а іменна 3910 руб. РФ.

7. Беручы пад увагу вышэй выкладзенае, лічу, што Вашы патрабаванні аб вяртанні сумы ў памеры 3 910 руб. РФ з'яўляюцца беспадстаўнымі і супярэчыць умовам дагавора.

8. Больш за тое, Ваша запазычанасць па ўплаце штрафных санкцый па стане на 01.03.2004 складае 44352,5 руб. РФ зыходзячы з разліку: агульны кошт пастаўленага тавару— 128 700руб.;

— размер штрафных санкций за каждый день просрочки — 0,5% от суммы договора;
— количество дней просрочки 75:128 700 х 0,5% = 643,5Х75 = 48 262,5 - 3910 = 44352руб. РФ;
— фактически уплачено штрафных санкций — 3910 руб. РФ.

9. В целях удовлетворения взаимных требований, предлагаю Вам, подтвердить письменно, что требуемая Вами к возврату сумма, а именно 3910 руб. РФ (исх. № 21-36/ 61 от 16. 12. 03 г.; исх.№ 04- 36/170 от 2). 01. 2004 г.) оплачена в счет причитающейся ООО «Торнадо», по договору № 51 от 25 мая 2003 года, неустойки.
10. При получении нами указанного выше подтверждения, ООО «Торнадо» будет считать все претензии по договору № 51 от 25 мая 2003 г. урегулированными.
11. В случае не достижения между нашими предприятиями согласия по данному вопросу, мы также будем вынуждены обратиться с иском в Арбитражный суд Гродненской области.
12. ПРИЛОЖЕНИЕ:
1. Договор №51 от 25 мая 2003 года (копия);
2. Письмо исх. № 262 от 24.08.03г. (копия);

—памер штрафных санкцый за кожны дзень пратэрміноўкі 0,5% ад сумы дагавора;
—колькасць дзён пратэрміноўкі- 75:128 700 х 0,5% =643,5х75= 48 262,5 - 3910 = 44352руб. РФ;
— фактычна ўплачана штрафных санкцый — 3910 руб. РФ.
9. У мэтах задавальнення ўзаемных патрабаванняў прапаную Вам пацвердзіць пісьмова, што запатрабаваная Вамі да вяртання сума, а іменна 3910 руб. РФ (зых. № 21— 36/61 ад 16.12.2003; зых. № 04-36/170ад 21.01.2004), аплачана ў кошт няўстойкі, якая належыць ТАА «Тарнада» згодна з дагаворам № 51 ад 25.05.2003.
10. Пры атрыманні намі ўказанага вышэй пацвярджэння ТА4 «Тарнада» будзе лічыць усе прэтэнзіі адносна дагавора № 51 ад 25.05.2003 урэгуляванымі.
11. У выпадку немагчымасці дасягнення паміж нашымі прадпрыемствамі згоды па дадзеным пытаны мы таксама будзем вымушаны звярнуцца з іскам у Гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці.
12. Дадаткі:
1. Дагавор № 51 ад 25.05.2003 (копія).
2. Пісьмо зых. № 262 ад 24.08.2003 (копія).

| | |
|---|---|
| 3. Письмо исх. № 303 от 22.09.03г. (копия); | 3. Пісьмо зых. № 303 ад 22.09.2003 (копія). |
| 4. Претензия исх. № 328 от 06.10.03г. (копия). | 4. Прэтэнзія зых. № 328 ад 06.10.2003 (копія). |

**Каментарыі да правак і перакладу**

Са зместу пісьма зразумела, што я но звязана з рознагалоссямі, якія ўзніклі паміж двума гаспадарчымі суб'ектамі па пытаннях выканання заключанага дагавора. Па сутнасці, гэта пісьмо-рэкламацыя (маецца прэтэнзія, яе абгрунтаванне, пералік прыкладзеных дакументаў, указаны дзеянні ў выпадку невыканання прэтэнзіі).

1. У рускім тэксце ўяўляецца беспадстаўнай залішняя ветлівасць (асабліва ў пісьме-рэкламацыі). Памылкова адасоблены выраз з дзеепрыметнікам (представившейся возможности), няправільна запісана скарочаная дата (трэба без г.). Апошні дзеяслоў сказа сообщить не завяршае думкі; патрабуецца працяг стандартызаванай формулы стылю: сообщить следующее.

Пры перакладзе дапушчальна апусціць дзеепрыметнік представившейся, бо магчымасць узнікла аб'ектыўна разам са стварэннем пісьма.

2. Удакладнім патрабаванне аб аднатыпнасці скарачэнняў у межах тэксту (калі выбрана лічбавае, як у першым абзацы, яно павінна паўтарацца). Першы сказ, складаны і грувасткі, патрабуе наступных правак: няправільна пастаўлена коска пасля адноснага займенніка «которого» (дадаты сказ пачынаецца словамі «во исполнение», і перад імі стаіць коска); не патрабуецца выдзяленне коскамі выразу «о порядке и сроках поставки»; вялікая колькасць лічбаў патрабуе іх упарадкавання: даты пастаўкі пакінуць без змен, а даты і нумары ТТН (таварна-транспартных накладных) узяць у дужкі; адваротны парадак слоў у выразе «углерод технический» можна пакінуць без змен як узор прафесійнага маўлення. Пачатак другога сказа «Исполненное ООО «Торнадо» лагічна двухзначны, у выніку ўзнікае розначытанне (відаць, т\т дзеепрыметнік выконвае ролю назоўніка), таму патрабуецца рэдагаванне, напрыклад: «Исполненные ООО «Торнадо» пункты договора; «каких либо» — арфаграфічная памылка (трэба праз злучок).

Асаблівасці перакладу: «был заключен — быў заклю-чаны» (састаўны іменны выказнік з дзеепрыметнікам мужчынскага роду ў поўнай форме); «продажа — продаж» (мужчынскі род, родны склон — канчатак -у); стандартныя афіцыйныя выразы «во исполнение, в Ваш адрес» перакладаюцца на ўзроўні словазлучэнняў: у мэтах выканання, на Ваш адрас; ООО (общество с ограниченной ответственностью) — ТАА (таварыства з абмежаванай адказнасцю); ОАО (открытое акционерное общество) — ААТ (адкрытае акцыянернае таварыства); договорных — дагаворных (можа ўзнікаць памылка з-за няправільнай пастаноўкі націску — дагаварных).

3. У першым сказе састаўны прыназоўнік рускай мовы «в течении» павінен мець канчатак —е; 25-ти — пасля колькаснага лічэбніка непажадана выкарыстоўваць нарошчаны канчатак. У другім сказе памылкова пастаўлена коска пасля слова товара — атрымалася, што паміж дзейнікам і выказнікам; у выразе «неоднократные наши требования» парадак азначэнняў, магчыма, павінен падкрэсліваць неоднократность, а не наши (зразумела з пісьма).

Асаблівасці перакладу: пераклад выразу в течение робіцца на ўзроўні словазлучэнняў: на працягу; неоднократные неаднаразовыя (слоўнік дае і неаднакратныя, але гэта калькаваны пераклад па марфемах); па ў канструкцыі з прыназоўнікам не змяняецца (залежныя словы маюць множны л і к).

4. Аднасказавы абзац мае права на існаванне, бо ў ім утрымліваецца вельмі важная фактуальная інфармацыя.

5. Пачатак абзаца «Более того» трэба замяніць на «Кроме того», тым больш, што абзац 8 пачынаецца такім жа чынам; у першым сказе пастаўлены лішнія кропка і коскі пасля 4.3 і пасля слова года; пачатак другога сказа «В связи с чем» не можа служыць для сувязі асобных сказаў, а толькі для сувязі частак складанага сказа. Каб не спалучаць два вялікія сказы ў адзін, неабходна замяніць адносны займеннік «чем» указальным «этим».

Асаблівасці перакладу: дзеепрыметнік незалежнага стану прошлага часу «просрочившего» неабходна замяніць даданым азначальным сказам, паставіўшы яго пасля «Покупателя»; выраз «в отношении» (каго?) у беларускай мове мае пераважна выгляд у адносінах да (каго?); ва ўстойлівым выразе афіцыйна-справавога стылю «по состоянию» на трэба змяніць склон па стане на або частку па стане апусціць, пакінуўшы толькі на (сэнс канструкцыі ад гэтага не зменіцца).

6. Сказы шостага абзаца неабходна перанесці ў пяты, бо яны сэнсава моцна звязаны з яго зместам, тым больш што два сказы абзаца маюць паміж сабой падпарадкавальную сувязь, а лексічна яна

не выражана; у такім выпадку трэба ўтвараць бяззлучнікавы складаны сказ з двукроп'ем (сувязь а іменна); назоўнік рублей павінен быць выкарыстаны ў агульнапрынятым скарочаным варыянце руб., таму што ў астатнім тэксце выкарыстана толькі такая форма.
Асаблівасці перакладу: выраз а именно ў значэнні злучніка не можа быць перакладзены а менавіта, г. зн. пакідаецца без змен; РФ — Расійскай Федэрацыі.

7. У сказе абзаца «вышеизложенное» пішацца разам; пасля дзеяслова «полагаю» ўзнікае падпарадкавальная сувязь далучэння, таму патрабуецца дабаўленне злучніка «что».

Асаблівасці перакладу: выраз «принимать во внимание» перакладаецца на ўзроўні словазлучэнняў і мае выгляд браць пад увагу (дзеепрыслоўе беручы); дзеепрыметнік противоречащими ў складзе выказніка не можа быць перакладзены інакш, як заменены дзеясловам супярэчацъ, які будзе ўведзены ў сказ злучні- кам і як аднародны выказнік да з 'яўляюцца.

8. Патрабуецца ўдакладненне выразу «из расчета»: з-за таго, што пададзены сам разлік, варта дапоўніць выраз — «исходя из следующего расчета».

Асаблівасці перакладу: выраз пачатку сказа Более того ўтрымлівае ў сабе прыслоўе вышэйшай ступені параўнання з залежным займеннікам, таму павінна быць выкарыстана прыназоўнікавая канструкцыя Больш за тое; исходя перакладацца як зыходзячы.

9. У сказе абзаца памылкова пастаўлены коскі пасля слоў требований, Вам і «Торнадо», не хапае коскі пасля дужкі: удакладненне ўведзена састаўным злучнікам «а именно.»

Асаблівасці перакладу: дзеепрыметнік «требуемая», у перакладзе патрабуемая, можна замяніць на «запатрабаваная» (розны час дзеепрыметнікаў не змяняе сутнасці патрабавання); дзеепрыметнікавы зварот «причитающейся года» трансфармуецца ў дадаены азначальны сказ са злучальным словам якая і ставіцца пасля слова «неустойки»; зваротны дзеяслоў причитаться перакладаецца незваротным дзеясловам належаць; у канструкцыі по договору заменім прыназоўнік па — адносна.

10. У сказе абзаца памылкова пастаўлена коска пасля слова «подтверждения» (канструкцыя з прыназоўнікам «при» не адасабляецца).

11. У сказе абзаца дапушчана арфаграфічная памылка: «не достижения» пішацца разам, але гэты аддзеяслоўны назоўнік мае стылістычна абмежаванае выкарыстанне, таму лепш выкарыстаць выраз «невозможности достижения»; канструкцыя са словамі «в

случае» не патрабуе адасаблення, таму коска пасля слова «вопросу» не патрэбна; Арбитражный суд мае афіцыйнае найменне Хозяйственный.

12. Слова Приложение (пры наяўнасці ў ім чатырох дадаткаў) патрабуе пастаноўкі ў множным ліку. Як і трэба, слова запісана без абзаца. Не абавязкова выкарыстоўваць усе вялікія літары.

## Агульныя заўвагі

Такім чынам, праца над перакладам паказала, што лагічныя сувязі паміж часткамі тэксту ў асноўным захаваны, акрамя аднаго выпадку (тэкст арыгінала складаецца з дванаццаці абзацаў, перакладзены тэкст — з адзінаццаці). Пераклад запатрабаваў ад перакладчыка не толькі ўважлівасці і засяроджанасці, творчага падыходу, але і грунтоўнага ведання і прымянення наступных палажэнняў, неабходных пры рэдагаванні:

— патрабаванняў да стандартызацыі тэксту афіцыйна-справавога стылю;

— агульнапрынятых скарачэнняў;

— логікі пераходу ад адной думкі (сказа, абзаца) да другой;

— асноў рэдагавання на арфаграфічным узроўні;

— асноў рэдагавання на лексічным узроўні;

—асноў рэдагавання на марфалагічным узроўні;

—асноў рэдагавання на сінтаксічным узроўні;

—узроўняў перакладу.

## Пытанні для самакантролю

1. Ахарактарызуйце ўзроўні перакладу.
2. Якія цяжкасці могуць узнікнуць пры перакладзе асобных сказаў?
3. Раскажыце аб паслядоўнасці працы над перакладам тэксту дакумента.

## Тэмы рэфератаў

1. Разыходжанні у лексіцы рускай і беларускай моў.
2. Разыходжанні ў марфалогіі рускай і беларускай моў.
3. Разыходжанні ў сінтаксісе рускай і беларускай моў.
4. «Фальшывыя сябры» перакладчыка.

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗДАННІ

38. Перакладзіце словазлучэнні на беларускую мову. Пры неабходнасці карыстайцеся слоўнікам.

По случаю встречи; то и дело происходят пожары; специалист в области медицины; два раза в неделю; ухаживать за больными; первым делом необходимо отремонтировать заборы; путешествие на плоту; совещание началось в 15 часов; на основании приказа; основание здания; вакантная должность; должностное лицо; ограничиться, по крайней мере, замечанием; работать только для вида; выставка похожа на прошлогоднюю; составить смету расходов; подготовить отчет о командировке; на почве неприязни; именной показатель; иметь целью улучшение показателей качества; пункт 5 настоящего приказа; только этот пункт предыдущего закона настоящий; в настоящее время; общаться по телефону.

39. Перакладзіце выразы з беларускай на рускую мову. Пры неабходнасці карыстайцеся «Беларуска-рускім слоўнікам».

Закупіць тры кілаграмы кіту; гаспадарка «Світанак» заняпала; засеяць клумбы браткамі; сёлета добры ўраджай; ад- чынілася новая кнігарня; забяспечыць найперш газай; не зважаць на стан здароўя; агрэгат па выпрацоўцы алею; у продаж паступілі сцізорыкі; выбіты шыбы ў трох хатах; камбінат вырабляе ацынкаваную бляху; правесці ўлік буслоў перад выраем; надрукаваць вершы пачаткоўцаў; завіхацца каля чарцяжа; выявіць безліч недахопаў; даследаваць паводзіны кажаноў; адрэстаўраваць муры палаца.

40 Перакладзіце сказы з рускай на беларускую мову з дапамогай перакладнога слоўніка

1. Роль всемирной компьютерной сети в нашей сфере столь велика, что для ее изучения создана ассоциация из нескольких тысяч компаний, представляющих более 40 стран. 2. Вращающаяся плита выполнена из огнеупорного стекла, выдерживающего температуру до трехсот градусов. 3. Многие предприятия ищут партнеров в очень уж далеком зарубежье, не замечая интереснейших возможностей сотрудничества, появившихся в последние годы у наших польских соседей. 4. Личного врача вы выбираете сами, ознакомившись с анкетами всех кандидатов, учитывая свое место жительства и специализацию доктора. 5. Результаты наших исследований

показывают: содержание витаминов в свежих овощах уменьшается с каждым днем хранения, и эта тенденция становится все заметнее, чем выше температура окружающего воздуха. 6. Вот лишь несколько цифр: заказчику мы предлагаем на выбор более 130 моделей дверей для кухни, 23 типа влагостойкой мебели для ванной. 7. Ассортимент ярмарки включает в себя лучшие образцы, производимые в республике, а также регулярно поставляемые из-за рубежа.

41. Перакладзіце тэкст дакумента з рускай на беларускую мову, правядзіце рэдагаванне тэксту. Аформіце дакумент у адпаведнасці з патрабаваннямі справаводства.

41.1
ПРИКАЗЫВАЮ:

1. Командировать 19.04.2001 г. инструктора-методиста по туризму Рудьман Л. В. в г. Минск на РУП «Белтзи».

Цель командировки: решение производственных вопросов.

Срок командировки: 1 день.

2. Командировать 19.04.2001 г. водителя Белявского В. В. на автомобиле ЗИЛ в г. Минск на ПО «Арктек» и ИП «Бел- туплекс».

Цель командировки: получение материалов для рекламного производства.

Срок командировки: I день.

3. Командировать 19.04.2001 г. водителя Колосовского О. В. на автомобиле КамАЗ в г. Брест на ООО «Маврия».

Цель командировки: транспортные услуги дня ООО «Маврия» согласно договору № 1 от 18.04.01 г.

Срок, командировки: 2 дня.

41.2
Уважаемая Наталья Владиславовна!

19 —20.05.2005 года наш работник Овдиенко Татьяна Родионовна была „командирована в г. Мстиславль на ПО «Терра».

На командировочном удостоверении вместо круглой печати Вашей коммерческой фирмой был поставлен треугольный штамп

Убедительно просим Вас поставить на прилагаемом к письму командировочном удостоверении круглую печать и выслать его по адресу: ул. Нововиленская,10, 222120, г. Несвиж, Минская область.

Заранее благодарю.

Приложение: командировочное удостоверение — 1шт.

С уважением, Главный бухгалтер Т. В. Кореневская

# ЛІТАРАТУРА

Абабурка, М. Культура беларускай мовы / М. Абабурка. — Мінск: Вышэйшая школа, 1994. — 122 с.

Беларуская граматыка: у 2 ч. Ч. 1: фаналогія, арфаэпія, марфалогія, словаўтварэнне. націск. — Мінск: Навука і тэхніка, 1985. - 431 с.

Беларуская граматыка: у 2 ч. Ч. 2: сінтаксіс. — Мінск: Навука і тэхніка, 1986. — 327 с.

Беларуская мова: энцыклапедыя / пад. рэд. А. Я. Міхневіча. — Мінск: БелЭн, 1994. — 655 с.

Бордович, Л. М. Сопоставительный курс русского и белорусского языков: учеб. пособие / А. М.Бордович, А. А. Гируцкий, Л. В. Чернышова. — Минск: Універсітэцкае, 1999. — 223 с.

Голуб, И. Б. Конспект лекций по литературному редактированию / И. Б. Голуб. — М.: Айрис-пресс. 2004. — 432 с.

Голуб, И. Б. Стилистика русского языка / И. Б. Голуб. — 4-е изд. — М.: Айрис-пресс, 2003. — 448 с.

Жаўняровіч, П. П. Асновы рэдагавання на беларускай мове: зборнік трэніровачных практыкаванняў і практычных работ / П. П.Жаўняровіч. — Мазыр: ТАА ВД «Белы вецер». 2005. — 49 с.

Жаўняровіч, П. Парка ці парку?: асаблівасці семантыкі назоўнікаў мужчынскага роду і яе ўздзеянне на канчаткі роднага склону / П. Жаўняровіч // Роднае слова. — 2.004. — № 8. — С. 33—35; №9. С. 29-33.

Жаўняровіч П. Сінтаксічныя канструкцыі з прыназоўнікам па: асаблівасці будовы і ўжывання / П. Жаўняровіч // Роднае слова. — 1998. № 11. С. 119-134.

Жаўняровіч П. Ступені параўнання прыметнікаў і прыслоўяў: словаформы і сінтаксічныя сувязі / П. Жаўняровіч // Роднае слова. 2000. № 8. С. 73-76; № 10. С. 30-32.

Камароўскі, Я. М. Беларуская мова: дапам. для абітур. /Я. ML Камароўскі, Е. С. Мяцельская — 2-ое выд., перапрац. і дап. — Мінск: Універсітэцкае, 1993. — 332 с.

Каўрус, А. А. Дакумент па-беларуску: справаводства, бухгалтэрыя, рынчная эканоміка / А. А. Каўрус, — Мінск: Беларусь, 1994. — 158 с.

Каўрус, А. А. Стылістыка беларускай мовы / А. А. Каўрус. — 3-яе выд., дапрац. і дап. — Мінск: Народная асвета, 1992. — 207 с.

Красней, В. П. Сучасная беларуская мова: лексікалогія, фразе - алогія / В. П. Красней, У. М. Лазоўскі, І. М. Шчарбакова. — Мінск: Універсітэцкае, 1984. — 175 с.

Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. А. Я. Баханькова. — Мінск: Навука і тэхніка, 1994. — 463 с.

Лепешаў, І. Я. Асновы культуры мовы і стылістыкі: практыкум: вучэб. дапаможнік/І. Я. Лепешаў. — Мінск: Універсітэцкае, 1989. — 207 с.

Лепешаў, 1. Я. Фразеалогія сучаснай беларускай мовы /І. Я. Лепешаў. — Мінск: Вышэйшая школа, 1998. — 271 с.

Мартынова, О. В. Основы редактирования: учеб. пособие для учащихся нач. проф. учеб. заведений / О. В. Мартынова. — М.: Издательский центр «Академия», 2004. — 128 с.

Міхальчанка, А. М. Дапаможнік па справаводетву/ Пособие по делопроизводству / А. М. Міхальчанка, Э. М. Давыдава. — Минск: Полымя, 1993.- 333 с.

Плотнікаў, Б. А. Беларуская мова: лінгвістычны кампендыум / Б. А. Плотнікаў, Л. А. Антанюк. — Мінск: Інтэрпрэссэрвіс, Кніжны Дом, 2003.— 672 с.

Плотнікаў, Б. А. Кіраўніку аб мове / Б. А. Плотнікаў. — Мінск: Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, 2001. — 126 с.

Практыкум па беларускай мове: вучэб. дапам. для нефілал. фак. ВНУ / пад агул. рэд. Г. М. Малажай. — Мінск: Вышэйшая школа, 1993. - 329 с.

Рахманин, Л. В. Стилистика деловой речи и редактирование служебных документов: учеб. пособие / Л. В. Рахманин. — 4-е изд., испр. — М.: Высшая школа, ИНФРА-М, 1997. — 192 с.

Розенталь, Д. Э. Справочник по правописанию и литературной правке / Д. чЭ. Розенталь. — М.: Рольф, 1996. — 368 с.

Сцяцко, П. Культура мовы / П. Сцяцко. — Мінск: 'Гэхналогія, 2002. - 444 с.

Стешка, Л. І. Курс беларускай мовы / Л. І. Сямешка, І. Р. Шкраба. 3. Т. Бадзевіч. — Мінск: Універсітэцкае, 1996. — 654 с.

Цікоцкі, М. Я. Стылістыка беларускай мовы: вучэб. данам, для фак. журналістыкі / М. Я. Цікоцкі. — 2-ое выд., перапрац, і дап. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — 294 с.

Цікоцкі, М. Я. Стылістыка тэксту: вучэб. дапам. для студэнтаў выш. навуч. устаноў філал. профілю / М. Я. Цікоцкі. — Мінск: Беларуская навука, 2002. — 223 с.

Шидловский, А. В. Лингвистические проблемы перевода на белорусский язык/А. В. Шидловский. — Минск: Вышэйшая школа, 1978. — 96 с.

Юрэвіч, А. К. Стылістыка беларускай мовы / А. К. Юрэвіч. — Мінск: Вышэйшая школа, 1983. — 181 с.

## СЛОЎНІКІ І ДАВЕДАЧНЫЯ ВЫДАННІ

Арашонкава, Г. У. Кароткі слоўнік беларускай мовы: правапіс, вымаўленне, націск, словазмяненне, словаўжыванне / Г. У. Арашонкава, В. П. Лемцюгова; пад. рэд. В. І. Рабкевіча. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. — 367 с.

Арашонкава, Г. У. Кіраванне ў беларускай і рускай мовах: слоўнік-даведнік / Г. У. Арашонкава, В. П. Лемцюгова; пад. рэд. М. В. Бірылы, А. І. Падлужнага. — Мінск: Вышэйшая школа, 1991. — 303 с.

Арашонкава, Г. У. Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы / Г. У. Арашонкава, В. П. Лемцюгова. — Мінск: Народная ас веха, 1987.-210 с.

Беларуска-рускі слоўнік: у 3 т. — 3-яе выд. — Мінск: БелЭн, 2003. - Т. 1. - 1120 е.; Т. 2. - 1120 е.; Т. 3. - 1152 с.

Белорусско-русский паралексический словарь-справочник: пособие для учителя / под ред. А. Е. Михневича. — Минск: Народная асвета. 1985. — 366 с.

Булыка, А. М. Слоўнік іншамоўных слоў: v 2 т / А. М. Булыка. — Мінск: БелЭн, 1999. - Т. 1. - 735 е.; Т. 2. - 735 с.

Грабчыкаў, С. М. Слоўнік паронімаў беларускай мовы / С. М. Грабчыкаў. — Мінск: Народная асвета, 1994. — 478 с.

Клышка, М. К. Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў / М. К. Клышка. — Мінск: Беларуская навука, 2005. — 592 с.

Лепешаў, І. Я. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы: у 2 т / І. Я. Лепешаў. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 1993. - Т. 1. - 590 е.; Т. 2. - 607 с.

Лобан, М. П. Арфаграфічны слоўнік: для сярэд.школы / М. П. Лобан, М. Р. Суднік. — 5-ае выд., перапрац. і дап. — Мінск: Народная асвета, 1982. — 239 с.

Плотнікаў, Б. А. Слоўнік цяжкасцяў беларускай мовы / Б. А. Плотнікаў, В. П. Трайкоўская. — Мінск: Кніжны Дом, 2004. — 544 с.

Русско-белорусский словарь: в 3 т.: около 110 000 слов / НАН Беларуси, Ин-т языкознания им. Я.Коласа. — 9-е изд. — Мінск: БелЭн, 2005. - Т. I. - 735 е.; Т. 2. - 783 е.; Т. 3. - 800 с. (або ранейшыя выданні).

Санько, З. Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем / З. Санько. — Мінск: Навука і тэхніка, 1991. — 218 с.

Слоўнік беларускай мовы: арфаграфія, арфаэпія, акцэнтуацыя, словазмяненне / Ін-т мовазнаўства імя Я.Коласа АН БССР; пад. рэд. М. В. Бірылы. — Мн.: БелЭн, 1987. — 903 с.

Сорока, В. А. Русско-белорусский словарь делопроизводственной и архивной терминологии / В. А. Сорока, Т. Н. Мальцева, В. Запартыко, Сорока, У.А. Беларуска-рускі слоўнік справаводнай і архіўнай тэрміналогіі / У. А. Сарока, Т. М. Мальцава; нав. рэд. П. Лемцюгова. - Мінск: Полымя: БелНДІДАС, 1997. - 441 с.

Старычонак, В. Дз. Слоўнік амонімаў беларускай мовы / В. Дз. Старычонак. — Мінск: Вышэйшая школа, 1991. — 255 с.

Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы: больш за 65 ООО слоў/ пад. рэд. М. Р. Судніка, М. Н. Крыўко; — 4-ае выд. — Мінск: БелЭн, 2005. — 784 с. (або ранейшыя выданні).

Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. / Ін-т мовазнаўства імя Я.Коласа АН БССР. — Мінск: Беларуская савецкая энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 1977 — 1984.

Шкраба І. Самабытнае слова: слоўнік беларускай безэквівалентнай лексікі / І. Шкраба. — Мінск: Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 1994. — 223 с.

Шуба, П. П. Тлумачальны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў / П. П. Шуба. — Мінск: Народная асвета, 1993. — 168 с.

## ЗМЕСТ

**Раздзел 3. Асновы рэдагавання на лексічным узроўні**



**Раздзел 4. Асновы рэдагавання на марфалагічным узроўні**

